ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ



ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

№ 12 (26)

**ТРЭЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**СЬНЕЖАНЬ 1930 г.**

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР
па савецкім будаўніцтве

№ 12 (26) Сьнежань 1930 г. № 12 (26)

**Скарыстаем перавыбарчую кампанію для далейшага ўздыму актыўнасьці і энтузіязму мас, для ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны.**

## Адозва ЦК КП(б)Б да ўсіх рабочых, калгасьнікаў, батракоў, бядняцка-серадняцкага сялянства і ўсіх працоўных.

З 1-га сьнежня пачынаецца па БССР справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў. У часе кампаніі працоўныя Савецкага Саюзу падвядуць вынікі пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва, якія дасягнуты пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі (бальшавікоў) у рашучай барацьбе з капіталістычнымі элемэнтамі. Гэтыя дасягненьні мабілізуюць сілы працоўных мас для далейшай работы, для заваяваньня яшчэ большых перамог на фронце сацыялістычнага будаўніцтва.

Таварышы! Палітыка няўхільнай сацыялістычнай індустрыялізацыі краіны, усямернае ўзмацненьне саюзу пралетарыяту з асноўнымі масама сялянства, рост саўгаснага і калгаснага будаўніцтва на вёсцы, рашучая барацьба з кулацтвам на вёсцы і буржуазіяй у горадзе—забясьпечыла разгорнутае наступленьне сацыялізму па ўсім фронце, непамерна павялічыла сілу пралетарыяту, павярнула серадняцкія масы сялянства на сацыялістычны шлях і выклікала магутны рост суцэльнай калектывізацыі.

Будуючы сваімі ўласнымі сродкамі і сіламі сацыялізм, даючы бязьлітасны адпор клясавым ворагам, рабочая кляса, у саюзе з асноўнымі масамі сялянства, узмацняе дыктатуру пралетарыяту, пасьпяхова вырашае пытаньне „хто каго" і набліжае канчатковую перамогу сацыялізму.

Пасьпяховае выкананьне лёзунгу партыі „пяцігодка за 4 гады", яшчэ больш умацоўвае пазыцыі сацыялізму, калектывізацыя дробных сялянскіх гаспадарак, яшчэ больш умацоўвае савецкую ўладу і дае з калгасьнікаў новую шматмільённую сапраўдную і моцную апору рабочае клясы на вёсцы для пабудовы сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, для яшчэ больш пасьпяховай і канчатковай барацьбы з заклятымі ворагамі сацыялізму—кулацтвам.

Посьпехі будаўніцтва сацыялістычнай дзяржавы выклікаюць шалёную нянавісьць клясавых ворагаў як унутры СССР, так і замежнай контр-рэвалюцыі.

Разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва зьнішчае ў краіне рэшткі капіталістычных клясаў, якія перад сваёй пагібельлю напружваюць усе сілы, шукаюць дапамогі ад сусьветнага імпэрыялізму,

**Пашлем у сельсаветы—здольных змагацца за лінію партыі, супроць кулака, за новы калгасны прыліў.**

## Разаб'ем перадвыбарныя манэўры кулака. Мабілізуем калгасьнікаў, батракоў і бядняцка-серадняцкія масы сялянства на барацьбу з клясавым ворагам. Правядзем перавыбары саветаў па-баявому.

каб затрымаць і перашкодзіць гістарычнаму наступленьню сацыялізму па ўсім фронце.

Выкананьне генэральнай лініі партыі, якая забясьпечвае эканамічную незалежнасьць СССР ад капіталістычнага сьвету, рэвалюцыянізуючае значэньне першай у сьвеце Рэспублікі Саветаў—выклікае ліхаманкавую падрыхтоўку сусьветнага імпэрыялізму да ўзброенага контр-рэвалюцыйнага нападу на Савецкі Саюз. Гэта падрыхтоўка на чале з урадам Францыі асабліва ўзмацнілася за апошнія часы.

Барацьба з савецкім экспартам, фашызацыя раду суседніх буржуазных краін, падтрыманьне контр-рэвалюцыйнай „прамысловай партыі"—усё гэта яскравыя паказальнікі падрыхтоўкі вайны супроць нас.

Ня гледзячы на шалёную антысавецкую кампанію і правакацыі міжнародных бандытаў капіталу, контр-рэвалюцыйныя вылазкі шкодніцкіх элемэнтаў унутры Саюзу, Савецкая Улада вядзе непахісную палітыку міру, якая забясьпечвае пасьпяховае будаўніцтва сацыялізму. Аднак, разам з тым працоўныя СССР ва ўмовах ваеннай небясьпекі, якая ўсё павялічваецца, павінны яшчэ больш узмацніць абароназдольнасьць краіны, баяздольнасьць сваёй Чырвонай арміі і рыхтавацца да руйнуючага адпору сусьветным імпэрыялістым.

Таварышы!

Бурны рост прамысловасьці, зьнішчэньне беспрацоўя, паварот асноўных мас сялянства да сацыялізму, суцэльная калектывізацыя раду раёнаў СССР, ліквідацыя кулацтва як клясы, творчы энтузіязм рабочых мас, за якімі ідзе бядняцка-серадняцкае сялянства, масавы рух пралетарыяту за новыя, сапраўды сацыялістычныя формы працы, дасягненьне мэтадамі сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва шпаркіх бальшавіцкіх тэмпаў работы характарызуе сучасны пэрыяд сацыялізму, у які ўвайшоў СССР.

Гэта ставіць новыя задачы перад саветамі, як органамі дыктатуры пралетарыяту.

Праведзеная ліквідацыя акруг пераносіць цэнтр цяжару работы ў раён, які зараз зьяўляецца асноўным цэнтрам сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Таму ў справаздачна-перавыбарчую кампанію Саветаў неабходна прыняць сапраўды рэальныя меры па ўзмацненьні раённых выканаўчых камітэтаў і сельсаветаў, забясьпечыўшы правядзеньне імі цьвёрдай пралетарскай лініі ва ўсёй практычнай дзейнасьці, ператвараючы Саветы ў сапраўды кіруючыя цэнтры пралетарскай дыктатуры.

Сельскія саветы яшчэ не зрабілі рашучага пералому па перабудове ўсёй сваёй работы і не павярнуліся тварам да калгаснага будаўніцтва, яны ня ўсюды зьявіліся пачынальнікамі і арганізатарамі новай хвалі прыліву ў калгасы. Сельсаветы павінны стаць на чале новага прыліву працоўнага сялянства ў рады калгасьнікаў, забясьпечыўшы ўпартай штодзённай арганізацыйна-гаспадарчай масавай работай выкананьне лёзунгу партыі аб суцэльнай калектывізацыі СССР да канца пяцігодкі.

У часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі неабходна ўзяць пад абстрэл бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі работу Саветаў і асобных дэпутатаў.

Аб рабоце Саветаў трэба судзіць па тым, як Саветы павярнуліся тварам да забесьпячэньня бесперапыннай работы нашай прамысловасьці, ці сталі Саветы сапраўднымі пачынальнікамі і арганізатарамі калгаснага будаўніцтва, як праводзіцца барацьба з бюракратызмам, якую ролю Саветы адыгрываюць у справе паляпшэньня дабрабыту рабочых і наколькі саветы праводзяць правільную клясавую лінію.

Саветы павінны стаць на чале разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва, праводзіць цьвёрдую пралетарскую лінію ва ўсёй рабоце, арганізоўваць масы і, вядучы бязьлітасную барацьбу з ворагамі дыктатуры пралетарыяту, быць сапраўднымі кіраўнікамі пераможнага будаўніцтва сацыялізму.

Савецкая Беларусь за апошнія гады мае буйнейшыя дасягненьні. Пры актыўнай дапамозе СССР прамысловасьць БССР разьвіваецца шпаркімі тэмпамі, з посьпехам праходзіць сацыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі, разгортваецца культурнае будаўніцтва. Гэтыя дасягненьні працоўныя БССР атрымалі ў жорсткіх баёх з кулацтвам на вёсцы і нэпманамі ў горадзе, дзякуючы творчай актыўнасьці рабочае клясы, якая пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, гераічнымі намаганьнямі выконвае і перавыконвае пляны сацыялістычнага будаўніцтва, даючы руйнуючы адпор усім праціўнікам генэральнай лініі партыі Леніна.

Саветы павінны няўхільна ісьці па шляху ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі. Разьвіваючы прамысловасьць і сельскую гаспадарку, з посьпехам разгортваючы культурнае будаўніцтва—нацыянальнае па форме, пралетарскае па зьмесьце і тым самым праводзячы палітыку зьнішчэньня матар'яльнай і культурнай адсталасьці БССР, —Саветы павінны даваць рашучы адпор усякаму шавінізму, з чыйго-б боку і пад якой-бы маскай ён не выступаў. Найбольшую небясьпеку на даным этапе прадстаўляе вялікадзяржаўны шавінізм, які імкнецца сарваць работу па пасьпяховым вырашэньні нац. пытаньня ва ўсім Саюзе і ў БССР. Як і раней, няўхільна павінна праводзіцца бязьлітасная барацьба з беларускім контр-рэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам, які грае на руку інтэрвэнтам. Рашучы адпор павінны сустрэць усякія вылазкі шавінізму—яўрэйскага, літоўскага, польскага і іншых. Рабочыя, калгасьнікі, бяднацка-серадняцкія масы вёскі павінны згрупавацца вакол Саветаў у іх барацьбе за інтэрнацыянальнае адзінства супроць нацыяналізму і шавінізму ўсіх масьцей.

Таварышы! Справаздачна-перавыбарчая кампанія гэтага году набывае выключна важнае значэньне. Ад усіх працоўных патрабуецца самы актыўны ўдзел у правядзеньні кампаніі. Непасрэдны пэрыяд пабудовы сацыялізму, узмоцненая пагроза ваеннай небясьпекі, жорсткая клясавая барацьба патрабуе ад працоўных яшчэ большай актыўнасьці, клясавай пільнасьці і рашучай барацьбы за баяздольныя і загартаваныя ў клясавых баёх органы пралетарскай дыктатуры.

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б заклікае рабочых, калгасьнікаў, батракоў, бяднацка-серадняцкае сялянства, членаў прафсаюзаў да актыўнага ўдзелу ў правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі, на выкананьне бальшавіцкімі тэмпамі заданьняў ударнага кварталу і падрыхтоўкі да 3-га году пяцігодкі, на далейшае разгортваньне калектывізацыі, на руйнуючы адпор капіталістычным элемэнтам.

Камсамольцы і ўся рабоча-сялянская моладзь павінны прыняць актыўны ўдзел у справаздачна-перавыбарчай кампаніі Саветаў, стаць застрэльшчыкамі сацыялістычных мэтадаў яе правядзеньня. ЦК КП(б)Б ставіць перад камсамолам, як вернай зьменай бальшавіцкай партыі, задачу дапамагчы партыйным арганізацыям найбольш пасьпяхова правесьці выбары ў Саветы і вылучыць на работу ў Саветы лепшых камсамольцаў, здольных рашуча і да канца ажыцьцяўляць генэральную лінію партыі.

ЦК КП(б)Б заклікае масы працоўных жанчын прыняць актыўны ўдзел у перавыбарах Саветаў, прыняць удзел у справаздачна-выбарчых сходах, вылучыць на работу ў Саветы больш батрачак, бядначак, калгасьніц і серадначак, дапамагчы ім працаваць у Саветах. Партыйна-савецкія арганізацыі на месцох павінны прыняць усе меры да таго, каб павялічыць удзел працоўных жанчын у справаздачна-перавыбарчай кампаніі Саветаў.

У адказ на контр-рэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасьць верхавіны старай буржуазнай інтэлігэнцыі („прампартыя“ „трудавая сялянская партыя“ і контррэвалюцыйная інтэлігэнцкая група беларускіх нацыянал-дэмакратаў), якая на-

кіравана супроць дыктатуры пралетарыяту і да падрыхтоўкі ўзброенай інтэрвэнцыі, працоўная інтэлігэнцыя і ўсе культурныя работнікі павінны прыняць самы актыўны ўдзел у справаздачна-выбарчай кампаніі. Працоўная інтэлігэнцыя павінна разам з рабочай клясай і бядняцка-серадняцкім сялянствам, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, аддаць усе свае веды і сілы на ўзмацненьне Саветаў, паляпшэньне іх працы, да канца выкрываючы шкодніцкую дзейнасць агентаў сусьветнага імпэрыялізму ўнутры Савецкай краіны.

Таварышы! Па-ўдарнаму правядзем справаздачна-перавыбарчую кампанію, дамо ў Саветы лепшых ударнікаў-пралетараў, батракоў, беднякоў, калгасьнікаў і выпрабаваных серадпякоў.

Правядзем справаздачна-выбарчую кампанію Саветаў пад знакам пасьпяховага выкананьня бягучых гаспадарча-палітычных кампаній і выкананьня заданьняў ударнага кварталу. Перавыбары Саветаў павінны прайсьці пад знакам пасьпяховага выкананьня і перавыкананьня плянаў збожжазагатовак і мабілізацыі сродкаў і загатовак ільну, як важнейшых задач выкананьня пяцігодкі за чатыры гады.

Па-бальшавіцку выкрыем усе недахопы работы Саветаў, каб узьняць на вышэйшую ступень ролю органаў дыктатуры пралетарыяту, наблізіць савецкі апарат да вёскі, калгасу, зрабіць яго выразным, гнуткім і здольным выконваць запатрабаваньні працоўных мас гораду і вёскі. Павядзем жорсткую барацьбу з кулацтвам і буржуазна-нэпманскімі элемэнтамі, якія будуць рабіць спробы скарыстаць у сваіх антысавецкіх мэтах кампанію. Будзем весьці барацьбу з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай, з „левым“ апартунізмам, з двурушніцтвам, права-„лявацкім“ блёкам, з прымірэнцтвам да ўхілаў, з вялікарасійскім і іншымі шавінізмамі, з беларускім нац.-дэмакратызмам, якія сваёй здрадніцкай работай дапамагаюць ворагам дыктатуры пралетарыяту.

Няхай жыве камуністычная партыя—кіраўнік пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва!

Няхай жывуць Саветы—органы дыктатуры пралетарыяту!

ЦК КП(б)Б

---

## Працоўныя—шчыльней шэрагі навакол КП(б)Б. Пад кіраўніцтвам партыі па бальшавіцку правядзем перавыбары саветаў.

## Палітычныя задачы перавыбараў саветаў.

Па БССР пачалася справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў.

Гэта кампанія мае вялізарнейшае палітычнае значэньне. Палітычным зьместам кампаніі павінны служыць усе вялізарныя задачы сучаснага пэрыяду, як разгорнутага пэрыяду сацыялістычнага наступленьня па усім фронце.

Далейшае ўзмацненьне кіруючай ролі камуністычнай партыі, як авангарду рабочае клясы ў барацьбе за сацыялізм, барацьба за генэральную лінію партыі, за індустрыялізацыю краіны і сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі; барацьба за пяцігодку за чатыры гады; уздым і арганізацыя новай хвалі бядняцка-серадняцкага сялянства ў калгасы і ліквідацыя кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі; разгортваньне культурнай рэвалюцыі; высьвятленьне міжнароднага становішча Савецкага Саюзу ў сувязі з выкрытымі плянамі інтэрвэнцыі з боку міжнароднай буржуазіі і адбываючымся працэсам шкоднікаў — (прампартыі) — агентуры інтэрвэнтаў; растлумачэньне мірнай палітыкі савецкай улады і ўсямернае ўзмацненьне абароназдольнасьці Савецкага Саюзу і баяздольнасьці Чырвонай арміі; высьвятленьне асноў ленінскай

нацыянальнай палітыкі партыі і рашучая барацьба супроць вялікадзяржаўнага расійскага шавінізму, як найбольш небясьпечнага на даным этапе, супроць беларускага нацыянал-дэмакратызму —агентуры польскага фашызму і капіталістычнай інтэрвэнцыі; узмацненьне барацьбы на два фронты—супроць правага ўхілу, як найбольш небясьпечнага, супроць „левых" загібаў, супроць двурушніцтва, права-„лявацкага" блёку і прымірэнчых да іх адносін; супроць разнавіднасьці апартунізму ва ўмовах нацыянальных рэспублік—нацыянал-апартунізму; узмацненьне савецкай дзяржавы, як дзяржавы дыктатуры пралетарыяту; узмацненьне сувязі ўсіх Саюзных Савецкіх Рэспублік у Саюзе ССР—вось тыя асноўныя пытаньні, навакол якіх трэба мабілізаваць увагу рабочае клясы, калгасьнікаў, бядняцка-серадняцкага сялянства і ўсіх працоўных Савецкай Беларусі ў часе перавыбарчай кампаніі.

Уся праца па перавыбарах саветаў павінна быць шчыльна зьвязана з вырашэньнем чарговых палітычна-гаспадарчых задач.

Імкненьне праводзіць перавыбары саветаў, адарваўшы гэту справу ад іншых нашых задач, зрабіць перевыбары саветаў чарговай кампаніяй, паказвае на неразуменьне і апартуністычную недаацэнку палітычнага значэньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Трэба на кожным выбарчым сходзе зьвязваць высьвятленьне ўсіх асноўных задач сацыялістычнага будаўніцтва з практычным праламленьнем іх у працы саветаў.

У выніку гэтага справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна ў яшчэ большай меры садзейнічаць мабілізацыі сіл рабочае клясы і ўсіх працоўных на выкананьне задач сацыялістычнага будаўніцтва і перамогу труднасьцяй росту. Далейшае разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва, уздым увагі вакол пытаньняў сустрэчнага прамфінпляну і, на падставе гэтага, поўнае выкананьне прамфінпляну асобнага кварталу; барацьба супроць прарываў у выкананьні плянаў загатовак ільну, бульбы і збожжа, мабілізацыі сродкаў насельніцтва; далейшае ўцягваньне ў калгасы бядняцка-серадняцкага сялянства і яшчэ больш рашучы паварот сельсаветаў тварам да калектывізацыі; праверка выкананьня плянаў па ўсеагульным навучаньні і г. д.—усё гэта павінна зьявіцца практычным вынікам справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў.

Важнейшае значэньне ў часе перавыбараў маюць **справаздачы саветаў.** Трэба, каб справаздачы саветаў адбілі ўсе мерапрыемствы савецкай улады па сацыялістычным будаўніцтве і іх практычнае праламленьне ў дзейнасьці данага савету. Трэба каб гэта справаздача была падпарадкавана самай суровай пралетарскай крытыцы і самакрытыцы, каб, паказваючы дадатныя бакі працы саветаў, накіраваць агонь супроць праяў шкодніцтва, бюракратызму, апартунізму, супроць усіх клясава-чужых элемэнтаў, якія прымазаліся да саветаў, каб ачысьціць саветы ад усіх варожых элемэнтаў.

Аднак трэба **адрозьніваць самакрытыку ўнутры сыстэмы дыктатуры пралетарыяту ад крытыкі звонку.** Клясаваму ворагу і яго агентуры ў нашых радох мы не дазволім **сваёй** крытыкай падмяняць **нашу** самакрытыку (Правда).

Перавыбары саветаў будуць адбывацца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Кулакі, нэпманы і інш. варожыя элемэнты будуць імкнуцца да таго, каб выкарыстаць перавыбарчую кампанію ў сваіх контр-рэвалюцыйных мэтах, каб дыскрэдытаваць дзейнасьць і мерапрыемствы савецкай ўлады, каб падпарадкаваць свайму ўплыву несьвядомыя элемэнты; каб правесьці ў саветы сваіх агентаў, каб дэзарганізаваць работу саветаў. Вось гэта вымагае таго, каб партыйныя арганізацыі забясьпечылі моцнае бальшавіцкае кіраўніцтва перавыбарамі саветаў. Партыйныя арганізацыі ў часе кампаніі павінны ўзмацніць сваю пільнасьць, папярэджваючы і выпраўляючы найменшыя спробы працягнуць погляды правых і „левых" ухілістых і погляды права-„лявацкага" блёку, а таксама нацыянал-апартуністычныя погляды. Стопроцантнае ўцягненьне ў перавыбары рабочых у горадзе; арганізацыя і замацаваньне пралетарскага ўплыву і кіруючай ролі пралетарыяту ў перавыбарах на вёсцы; арганізаваны ўдзел у кампаніі калгасьнікаў, ажыцьцяўленьне працы бядняцка-батрацкіх груп у вёс-

цы; яшчэ большае ўзмацненьне саюзу рабочае клясы з серадняком пры апоры на калгасьнікаў і батрацка-бядняцкія масы вёскі для рашучай барацьбы з кулацтвам—вось тыя сілы, на якія абапіраецца кампартыя ў барацьбе за сацыялізм і якія асабліва актыўна павінны рухацца ў часе перавыбараў для рашучага наступленьне на капіталістычныя элемэнты ў горадзе і вёсцы, для своечасовага і бязьлітаснага адпору клясавым ворагам.

Клясавы вораг будзе імкнуцца, як паказала практыка мінулых перавыбараў, выкарыстаць палітычна несьвядомую частку сялянак, накіроўваючы іх супроць мерапрыемстваў савецкай улады. Таксама ўжо вызначаюцца імкненьні кулацтва, клярыкалаў і інш. антысавецкіх элемэнтаў выкарыстаць нацыянальныя асаблівасьці для таго, каб пад прыкрыцьцём буржуазнага лёзунгу адзінага нацыянальнага фронту разьбіць у сваіх контр-рэвалюцыйных мэтах інтэрнацыянальны фронт працоўных усіх нацыянальнасьцяй.

На ўсе, найбольш слабыя вучасткі, праз якія імкнецца пралезьць наш клясавы вораг—трэба зараз-жа зьвярнуць увагу і зрабіць гэтыя вучасткі прыкладнымі ў барацьбе за сацыялізм.

Больш увагі да падрыхтоўкі працоўных жанчын у саветы, асабліва ў вёсцы. Трэба абавязкова выканаць пастанову ЦВК аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы працоўных жанчын да перавыбараў у саветы, правёўшы спэцыяльныя падрыхтоўчыя нарады, падрыхтаваўшы кандыдатуры і г. д. Трэба арганізацыйна ахапіць узрослую актыўнасьць працоўных жанчын і накіраваць яе на вырашэньне задач сацыялістычнага будаўніцтва. Трэба ў адпаведнасьці са значна ўзрослай удзельнай вагой жанчын у прамысловасьці і сацыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі павялічыць ролю працоўнай жанчыны ў саветах.

Таксама важна выканаць дырэктывы аб ўвазе да перавыбараў у саветы сярод нацменшасьцяй. Трэба ў часе перавыбараў выкрыць самым шырокім масам працоўных буржуазную сутнасьць адзінства нацыянальнага фронту, мабілізаваць бядняцка-серадняцкую частку нацыянальнай вёскі да рашучага адпору кулацтву і яшчэ больш замацаваць інтэрнацыянальнае адзінства працоўных усіх нацыянальнасьцяй для барацьбы за сацыялізм.

Для найбольш пасьпяховага правядзеньня перавыбарчай кампаніі зроблены самыя падрабязныя ўказаньні, прычым амаль кожнае з іх мае палітычнае значэньне. Такімі паказаньнямі зьяўляюцца пастановы аб складаньні сьпісаў выбаршчыкаў і пазбаўленых выбарчага права, аб выбарчых вучастках, аб выбарчых камісіях, аб складаньні справаздач, аб наказах, аб правядзеньні сходаў і г. д.

Самым шкодным для сацыялістычнага будаўніцтва будзе няўважлівасьць да гэтых дырэктыў, фармальнае іх выкананьне, абы адбыць чаргавую кампанію. Перавыбарчы сход, праведзены фармальна, толькі для таго, каб выканаць дырэктыву, без патрэбнай палітычнай падрыхтоўкі і адпаведнага палітычнага зьместу, робіцца палітычна шкодным. Вось чаму патрэбна самае актыўнае кіраўніцтва перавыбарчай кампаніяй з боку ўсіх партыйных ячэек і партыйных камітэтаў.

Важнейшую арганізуючую ролю ў перавыбарчай кампаніі павінен адыграць друк. Друк павінен давесьці да ведама самых шырокіх мас працоўных нашы вялізарныя дасягненьні, растлумачыць праграму далейшага сацыялістычнага будаўніцтва на аснове пастаноў XVI зьезду УсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б, выкрываць прарывы ў выкананьні чарговых задач і мабілізаваць масы на іх перамогу. Друк павінен шырока высьвятліць той вялізарны ўздым энтузіязму рабочае клясы і ўсіх працоўных, якім яны адказалі на контр-рэвалюцыйнае шкодніцтва і хітрыкі імпэрыялістых.

**Пралетарскі горад павінен прыйсьці на дапамогу вёсцы**. Гэта вымагаецца асабліва тым, што, гэтыя перавыбары ўпяршыню будуць адбывацца пасьля пераходу на раённую сыстэму кіраўніцтва. **Шэфскія таварыствы, паасобныя брыгады па перавыбарах павінны накіроўвацца ў раён, сельсавет, вёску**.

Апіраючыся на сацыялістычнае асяродзішча вёскі—саўгас, прамысловае прадпрыемства, калгас—неабходна раз-

гарнуць шырокім фронтам наступленьне на капіталістычныя элемэнты.

Трэба дамагацца, каб у выніку перавыбараў значна палепшыць клясавы склад саветаў: рабочы-ўдарнік, калгасьнік і лепшыя прадстаўнікі бядняцка-серадняцкага сялянства клясава-вытрыманыя і адданыя партыі і савецкай уладзе павінны ўвайсьці ў склад саветаў.

Гэта замацуе саветы, як органы дыктатуры пралетарыяту, зробіць іх яшчэ больш баяздольнымі ў барацьбе за генэральную лінію партыі, у барацьбе за поўнае выкарчоўваньне капіталістычных карэньняў у нашай краіне, у барацьбе за сацыялізм.

**А. Чарвякоў.**

# Да новых перамог у будаўніцтве сацыялізму.

10 сьнежня 1930 г. адкрываецца 3-я сэсія ЦВК БССР IX скліканьня. У парадку дня сэсіі стаяць пытаньні: **аб кантрольных лічбах народнае гаспадаркі БССР на 1931 г.; аб дзяржбюджэце, адзіным фінансавым пляне БССР на 1931 год і выкананьні бюджэту 1928-29 году;** аб мерапрыемствах, якія зьвязаны з пераходам ад акруговай сыстэмы кіраўніцтва на раённую і аб узмацненьні раённага і сельскага савецкага апарату, **аб чарговых задачах калектывізацыі сельскае гаспадаркі, аб чарговай справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў** і зацьвярджэньне важнейшых пастаноў.

Усе гэтыя пытаньні шчыльна зьвязаны з агульнымі палітычнымі і гаспадарчымі задачымі БССР, з сацыялістычнай індустрыялізацыяй краіны, рэканструкцыяй сельскае гаспадаркі і ліквідацыяй кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, з выкананьнем пяцігодкі за чатыры гады.

**Ня гледзячы на „прароцтвы“ правых апартуністаў, ня гледзячы на праяўленьне контр-рэвалюцыйнага шкодніцтва, дзякуючы рашучаму ажыцьцяўленьню генэральнай лініі партыі і вялізарнейшаму ўздыму творчай ініцыятывы і энтузіязму рабочае клясы і працоўных мас сялянства,—у першыя-ж два гады пяцігодкі тэмпы будаўніцтва значна ўзмоцнены, заданьне пяцігодкі перавыконваецца ў важнейшых галінах будаўніцтва.** Зараз мы з посьпехам, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, ажыцьцяўляем лёзунг—пяцігодку за чатыры гады.

За першыя два гады будаўніцтва ў БССР **мы маем буйныя посьпехі ва ўсіх** галінах нашае гаспадаркі, значнае перавыкананьне пляну другога году пяцігодкі. Так напрыклад, **агульная прадукцыя** рэспубліканскай прамысловасьці павялічылася за другі год пяцігодкі на 67,5 проц. і дала рост параўнальна з 1927-28 годам на 150 проц. у той час, як у пяцігадовым пляне быў запраэктаваны рост за першыя два гады на 87 проц.

**Капітальнае будаўніцтва рэспубліканскай прамысловасьці,** якое ставарае неабходныя прадпасылы для далейшай сацыялістычнай індустрыялізацыі БССР выканана за мінулы гаспадарчы год у разьмеры 44 млн. рублёў, замест 38,4 млн. руб., вызначаных пяцігадовым плянам. Удзельная вага сацыялістычнага сэктару павялічылася з 5,5 проц. у пачатку 1929-30 г. да 18 проц. пад канец другога году пяцігодкі ў той час, як у пяцігадовым пляне было вызначана павялічэньне толькі пад канец 1932-33 г. (апошняга году пяцігодкі) да 18 проц.

Улічваючы гэта, а таксама новыя фактары нашага росту—разьвіцьцё самадзейнасьці і творчасьці рабочае клясы і асноўных мас сялянства,—кантрольныя лічбы на 1931 год па ўсіх без выключэньня галінах народнае гаспадаркі і сацыяльна-культурнага будаўніцтва складзены са значным перавышэньнем супроць меркаваньняў пяцігодкі.

Валавая прадукцыя рэспубліканскай прамысловасьці павялічана з 284,5 млн. руб. (у цэнах 1926-27 г.) да 581,9 млн. руб. Магутнасьць электрастанцый з 18 тыс. клв. на 1 кастрычніка 1930 г. павялічана да 46,6 тыс. клв. на 1 студзеня

1931 г. і 70,8 тыс. клв. на 1 студзеня 1932 году. Выпрацоўка электра-энэргіі з 66,3 млн. клв. гадзін павялічваецца да 82,5 млн. клв. гадзін на 1 студзеня 1931 году і да 183,6 млн. клв. гадзін у канцы 1931 году.

Шырокае разгортваньне гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва, якое вызначана кантрольнымі лічбамі на 1931 год, павінна быць зьвязана з абавязковым павышэньнем якасьці працы. З гэтай прычыны да дзяржпрамысловасьці прад'яўляецца запатрабаваньне **аб зьніжэньні сабекошту прадукцыі на 10 проц.** і ўзьняцьці прадукцыйнасьці працы на 30,4 проц. (бяз торфавай прамысловасьці) пры росьце рэальнай зарплаты на 8,6 проц.

Раст рабочых рэспубліканскай прамысловасьці (без лесааб'яднаньняў) мяркуецца ў адносінах да 1930 г. на 52,8 проц. На 7-гадзінны рабочы дзень пераводзіцца каля 95 проц. усяе рэспубліканскае прамысловасьці замест 42,3 проц. у мінулым годзе.

У галіне **сельскае гаспадаркі** павінна быць забясьпечана пашырэньне пасеўнае плошчы да 4.083 тысяч гэктараў, павышэньне ўраджайнасьці па ўсіх культурах у сярэднім на 11 проц.

Паводле праэкту дзяржаўнага бюджэту БССР, які складзен і падаецца СНК па разгляд сэсіі, дзяржбюджэт БССР па 1931 год збалянсаваны ў суме 289,6 млн. руб., што параўнальна з 1929-30 г. дае рост на 97,8 проц. і значна перавышае меркаваньні на гэты год паводле пяцігадовага пляну (на 152,4 млн. руб.).

Рост выдаткаў па асобных галінах значна перавышае агульны рост усяго бюджэту. Так, агульныя выдаткі на **фінансаваньне народнае гаспадаркі**, якія ў мінулым годзе складалі 44.310 тыс. руб. па бюджэце на 1931 год складаюць 121.987 тыс. руб. (рост на 225,9 проц.) Выдаткі на **сацыяльна-культурныя патрэбы** дасягаюць 52.002 тыс. руб. замест 27.099 тыс. руб. у мінулым годзе і, такім чынам, павялічваюцца на 192,6 проц. **Такі выключны рост бюджэту, які адпавядае агульнаму росту народнай гаспадаркі, таксама зьяўляецца лепшым довадам поўнай магчымасьці выкананьня пяцігодкі за чатыры гады.**

Выкананьне задач трэцяга году пяцігодкі патрабуе яшчэ большага ўздыму творчай ініцыятывы рабочае клясы, разгортваньня спаборніцтва і ўдарніцтва і напружанай работы ўсіх партыйных, савецкіх, гаспадарчых і прафэсыянальных арганізацый.

У выніку ліквідацыі акруг і ўзмацненьня раёнаў акруговымі работнікамі органы савецкай улады значна набліжаны да працоўнага насельніцтва—рабочых, батракоў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства. У сувязі з тым, што многія пытаньні вырашаюцца зараз канчаткова ў раёнах, значна зьменшылася цяганіна і палегчана змаганьне з бюракратызмам. На мясцох утвораны лепшыя ўмовы для пасьпяховага вырашэньня задач сацыялістычнага будаўніцтва, ажыцьцяўленьня высокіх тэмпаў і для лепшага скарыстаньня творчай ініцыятывы і энтузіязму працоўных мас ва ўсіх галінах будаўніцтва сацыялізму.

Сэсіі належыць разглядзець і ўжыць рад практычных мерапрыемстваў па замацаваньні пераходу ад акруговай сыстэмы кіраўніцтва на раённую і па ўзмацненьні раённага і сельскага савецкага апарату.

Рэарганізацыю сыстэмы кіраўніцтва яшчэ нельга лічыць зусім закончанай і пытаньні, зьвязаныя з гэтым пераходам, вырашанымі. Трэба адзначыць, што многія раёны яшчэ не перабудавалі сваёй работы ў адпаведнасьці з новымі задачамі.

Кіраўніцтва сельскімі саветамі і наладжэньне іх работы яшчэ не здавальняючае. Раёны няроўнамерна і яшчэ слабавата ўкамплектаваны работнікамі. Цэнтральныя ўстановы і наркаматы яшчэ не наладзілі выразнай і жывой сувязі з раёнамі, не наладзілі непасрэднага кіраўніцтва адпаведнымі аддзеламі і часткамі раённых выканаўчых камітэтаў.

Асобна стаіць пытаньне аб кадрах работнікаў для саветаў і райвыканкомаў у сувязі з недахватам падрыхтаваных работнікаў. Тыя мерапрыемствы, якія ўжываліся да гэтага часу для ўтварэньня новых кадраў, далі яшчэ не выстарчальны эфэкт. Курсы па перападрыхтоўцы работнікаў, што былі арганізаваны ў цэнтры і на мясцох, ахапілі параўнальна нязначны лік нізавых савецкіх

работнікаў. На мясцох мала ўвагі аддаецца падрыхтоўцы работнікаў на практычнай рабоце, выхаваньню савецкага актыву і вылучэньню калгасьнікаў, батракоў, беднякоў і серадьнякоў на кіруючую работу ў саветы і раённыя ўстановы.

У сувязі з **ліквідацыяй акруг узмацняецца роля гарадзкіх саветаў**, якія павінны мабілізаваць шырокія масы рабочых на выкананьне прамфінпляну, складаньне і ажыцьцяўленьне сустрэчнага прамфінпляну, на ўзмацненьне тэмпаў індустрыялізацыі краіны. Гарадзкія саветы павінны забясьпечыць пралетарскі ўплыў гораду над вёскай, арганізаваць сыстэматычныя выезды рабочых у вёску і дапамагаць раёнам і сельскім саветам у правядзеньні розных палітычных і гаспадарчых кампаній і асабліва ў правядзеньні такой важнай і адказнай масавай палітычнай кампаніі, як перавыбары саветаў.

Перавыбары саветаў у гэтым годзе будуць праходзіць ва ўмовах асабліва завостранага клясавага змаганьня. Кулацтва, якое ліквідуецца як кляса, на базе суцэльнай калектывізацыі, імкнецца падарваць аўтарытэт камуністычнае партыі і мерапрыемствы, якія праводзіць савецкая ўлада. Яно імкнецца на мясцох ня толькі ўплываць на саветы праз сваю агентуру, але і пасылаць апошнюю ў саветы і дэзарганізаваць іх работу. Такое становішча вымагае з боку ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый самых уважлівых адносін да падрыхтоўкі і правядзеньня перавыбараў саветаў. Склад саветаў у выніку перавыбараў павінен быць значна палепшаны і папоўнены рабочымі-ударнікамі, калгасьнікамі і лепшымі прадстаўнікамі бядняцка-серадняцкага сялянства, адданымі партыі і савецкай уладзе. Гэта неабходна для таго, каб дабіцца максымальнага павароту работы саветаў тварам да змаганьня за выкананьне прамфінпляну, да калгаснага будаўніцтва.

У часе перавыбараў, саветы і выканкомы павінны будуць у простых і зразумелых для шырокіх пластоў працоўнага насельніцтва словах расказаць аб усіх вялікіх дасягненьнях, якія ёсьць у сацыялістычным будаўніцтве, а таксама расказаць аб прычынах тых труднасьцяй, што ў нас ёсьць зараз.

Трэба будзе перамагчы ўсе труднасьці і перашкоды, якія стаяць на шляху сацыялістычнага будаўніцтва: контр-рэвалюцыйнае шкодніцтва, бюракратызм, біць па клясава-варожых элемэнтах, якія прымазаліся да савецкага апарату. Трэба яшчэ больш узмацніць змаганьне з **правым і „левым“ апартунізмам, права-„лявацкім“ блёкам, з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай, з контр-рэвалюцыйным беларускім нацыянал-дэмакратызмам і шавінізмамі іншых колераў, якія перашкаджаюць нашаму пасьпяховаму будаўніцтву і змаганьню за сацыялізм.**

Улічваючы міжнароднае становішча і пагрозы інтэрвэнцыі, неабходна значную ўвагу **зьвярнуць на ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны і баявой магутнасьці Чырвонай арміі.**

Сэсія на дакладзе аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі павінна будзе падкрэсьліць, што посьпехі гэтае кампаніі залежаць ад уцягненьня ў перавыбары рабочых і шырокіх працоўных мас, ад шчыльнай увязкі ўсіх кампаній, якія праводзяцца партыяй і савецкай уладай, з перавыбарамі саветаў. У часе перавыбараў саветы і райвыканкомы павінны будуць пры дапамозе і актыўным удзеле пралетарыяту, рабочых брыгад разгарнуць шырокую крытыку і самакрытыку ўсяе работы саветаў і значна паглыбіць сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ва ўсіх галінах будаўніцтва. Перавыбары саветаў павінны быць скарыстаны для рашучага павароту сельсаветаў тварам да калектывізацыі, да далейшага ўцягваньня ў калгасы бядняцка-серадняцкага сялянства.

Посьпехі другога году пяцігодкі па сацыялістычным сэктары сельскае гаспадаркі выклікалі ў апошні час новы вялізарны прыліў у калгасы бядняцка-серадняцкіх мас, ужо сёлета ўраджайнасьць у нашых калгасах была **на 20 проц.** вышэй, чым у адзінаасобных гаспадарках, а таварнасьць калгасаў у $1 \frac{1}{2}$ разы больш таварнасьці гаспадарак адзінаасобнікаў. Бядняцка-серадняцкія масы пераканаліся на справе ў значных перавагах калектыўнага земляробства. Та-

кое становішча на мясцох трэба шырока скарыстаць, памятаючы пры гэтым аб тым, што пад кіраўніцтвам нашае партыі саветы павінны стаць на чале калгаснага руху, арганізатарамі новага калгаснага прыліву.

3-я сэсія ЦВК павінна будзе вызначыць рад практычных мерапрыемстваў для далейшага інтэнсыўнага разгортваньня вытворчых сіл сельскае гаспадаркі на базе калектывізацыі і саўгаснага будаўніцтва.

Нарэшце, сэсія ЦВК павінна будзе нацьвердзіць рад больш важных пастаноў, якія былі прыняты паміж 2 і 3 сэсіяй ЦВК БССР IX скліканьня.

Вось тыя пытаньні, якія стаяць перад сэсіяй. Вырашэньне гэтых пытаньняў пры актыўным удзеле ўсіх членаў і кандыдатаў у члены ЦВК БССР, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, забясьпечыць новыя посьпехі ў будаўніцтве сацыялізму ў нашай краіне.

**А. Хацкевіч.**

---

## Задачы брыгадзіраў у вёсцы ў час перавыбараў саветаў.

„Толькі ў саветах пачынае маса эксплёатуемых сапраўды вучыцца ня з кніжок, а з уласнага вопыту ў справе сацыялістычнага будаўніцтва, стварэньня новай грамадзкай дысцыпліны, вольнага саюзу—вольных работнікаў“ (Ленін).

Справаздачна-перавыбарчая кампанія гарсаветаў у гэтым годзе будзе праходзіць пасьля сканчэньня перавыбараў сельсаветаў. Вызначаны для гарсаветаў тэрмін перавыбараў (студзень) дае поўную магчымасьць вялікай колькасьці рабочых—членам гарсаветаў непасрэдна ўдзельнічаць у перавыбарах сельсаветаў.

Вопыт мінулых гадоў наказаў, што ўдзел рабочых і асабліва членаў-гарсаветаў, знаёмых з работай, быў вельмі каштоўны як для замацаваньня змычкі гораду і вёскі, так і лепшага забясьпечаньня кіруючай ролі пралетарыяту як у час перавыбараў, так і пры далейшай рабоце.

Удзельнічаючы ў перавыбарах сельсаветаў, выязджаючым брыгадзірам з гораду трэба памятаць, што цэлы шэраг праводзімых палітычна-гаспадарчых кампаній у раёнах варожымі элемэнтамі сустракаюцца атакаю. Пабіты ў адкрытым баю кулак ня склаў сваю зброю, а мясцамі, толькі перамяніўшы тактыку, для слаба арыентыруючыхся работнікаў стаў, як быццам, няпрыкметны.

Амаль што 20 раёнаў у 1930-31 гаспадарчым годзе не знайшлі кулака ў раёне. Аднак, у гэтых раёнах як калгаснае будаўніцтва, так і рознага роду нарыхтоўкі натыкаюцца на ўстрымліваючыя работу бар‘еры, будуемыя кулацтвам і іх прыхільнікамі.

Таксама прыдзецца сустракацца з кулацка-нэпманскімі элемэнтамі ўзмацняючымі пераклічку і блёкіруючыміся з пазбаўленцамі розных рангаў у час правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў.

Сустрэча з кулаком і яго прыхільнікамі будзе і ў тых раёнах, дзе ў гэтым годзе для абкладаньня ня знойдзен новы кулак. Упэўнена можна сказаць, што, перамяніўшы тактыку ў некаторых раёнах, кулак, выпушчаны з-пад прыцэлу і захаваўшыся ў цяньку з пазбаўленцамі, рознымі рэлігійнікамі і царкоўнымі саветамі, рыхтуе выступленьні супроць правядзеньня мерапрыемстваў савецкай улады на вёсцы і асабліва дасьць пачуць сябе ў час перавыбараў саветаў.

Кампраметуючы дзейнасьць саветаў і батрацка-бядняцкія кандыдатуры ў саветы, кулак будзе імкнуцца зрабіць уплыў на перавыборы саветаў, прабрацца ў саветы ці правесьці абаронцаў сваіх інтарэсаў. Для ажыцьцяўленьня сваіх мэт ён будзе імкнуцца сарваць пера-

выбары, ганьбіць калгасьнікаў і шукаць апоры ў маласьвядомых беднякоў, асабліва жанчын.

Часта бывае, што ўсе гэтыя дзеяньні варожых элемэнтаў захоўваюцца і пад нацыянальнай шыльдаю. Былыя чыноўнікі і іх прыхільнікі, пазбаўленцы розных рангаў лічаць сябе чамусьці спэцыялістымі па мовазнаўству. Яднаючыся з часткаю старога трухлівага настаўніцтва, будуць учыняць спробу ганьбіць палітыку партыі па нацыянальным пытаньні, заяўляючы, як гэта мела месца ў мінулых перавыбарах, што „белорусского языка у нас нет, есть наречие; нет еврейского языка, есть еврейский жаргон и в общем—все это выдумка для хамства“.

Такім праявам вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпецы на сучасным этапе сацыялістычнага будаўніцтва патрэбна будзе даваць рашучы адпор.

Разам з гэтым у час справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, асабліва сярод некаторай часткі інтэлігэнцыі могуць знайсьціся прымірэнцы контр-рэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызму і шавіністы іншых нацыянальнасьцяй, якія пад сьцягам адзінага нацыянальнага фронту будуць імкнуцца клясавыя інтарэсы замяніць нацыянальнымі.

Ведаючы гэта, патрэбна загадзя, падпарадкаваўшы нацыянальныя інтарэсы клясавым, правёўшы папярэднія сходы батрацка-бядняцкай і калгаснай часткі вёскі і абапіраючыся на гэтыя групы, даць руйнуючы адпор усялякім спробам варожых элемэнтаў зрабіць уплыў на ход перавыбарчай кампаніі ці прыцягнуць у саветы пад нацыянальным сьцягам сваіх людзей.

Пытаньне абароны краіны пры перавыбарах саветаў павінна заняць значнае месца, асабліва ў сучасны момант, калі капіталістычныя дзяржавы, пад знакам барацьбы з так званым савецкім „дэмпінгам“, мабілізуюць ня толькі грамадзкую думку ў сваіх краінах, але адкрыта рыхтуюць узброены напад на адзіную ў сьвеце краіну саветаў. Нябывалы эканамічны і аграрны крызіс у буржуазных краінах не прыпыняецца, а працягвае захопліваць усе большы лік дзяржаў і новых галін вытворчасьці, за выключэньнем вайсковай, якая працуе з поўнай нагрузкай у некалькі зьмен. Беспрацоўе, голад, жабрацтва, як у Эўропе, так і Амэрыцы штодзённа павялічваецца.

Турмы папаўняюцца рабочаю клясаю. Буржуазныя дзяржаўнікі, шукаючы выхаду з гэтага становішча, мацней чым калі-небудзь, імкнуцца да ўзброенага нападу на пралетарскую дзяржаву, разьмяркоўваючы паміж сабой абавязкі ў будучай вайне і нават ўстанаўліваючы тэрміны яе пачатку.

Ясным паказчыкам гэтага зьяўляюцца паказаньні падсудных на судовым працэсе „Промышленной партии“, „Крестьянской трудовой партии“. Роля Пуанкарэ, Брыяна, Рабушынскіх і ўсёй зграі як выгнаных рэвалюцыйнымі хвалямі Кастрычніка былых уласьнікаў буйных прадпрыемстваў старой Расіі, так і замежнай контр-рэвалюцыі павінны быць вядомы ўсяму працоўнаму насельніцтву гораду і вёскі.

Не малаважнае значэньне ва ўмовах БССР, як фарпосту савецкага саюзу, набывае выкрытая органамі ДПУ контр-рэвалюцыйная група беларускіх нацыянал-дэмакратаў на чале з „лизоблюдами“ кайзера Вільгэльма. Члены гэтай групы былыя белыя міністры, выкінутыя волею паўстаўшых рабочых сумесна з Чырвонай арміяй і асноўнымі масамі сялянства за межы савецкае краіны, растаптаўшых і апляваўшых давер'е рабочае клясы, дадзенае ім пры іх звароце з панскай Польшчы, імкнуліся аднавіць уладу абшарнікаў.

Працуючы ў БССР пры добрых умовах і поўным давер'і, яны імкнуліся, скарыстоўваючы гэта давер'е рабочае клясы, аднавіць буржуазны лад, расьцярэбліваючы шляхі для ўлады капіталістых абшарнікаў.

У час існаваньня на сучаснай тэрыторыі БССР улады абшарнікаў—іх улады, яны былі ня толькі глухімі да енкаў і стогну рабочае клясы і працоўнага сялянства, а нават зьяўляліся дапаможнікамі квітнелага панаваньня бізуна. Насельніцтва гарадоў, асабліва вёсак і мястэчак добра памятуе той недалёкі час, калі крыкі „высоко-культурных“ акупантаў шляхецкай Польшчы—

„двадзесьці-пеньць“, а „няхай жыве беларусін, як гной для Ржэчы Паспалітай“, „лапай жыда“, „пшывесьць да майго памяшканьня гэтую пенкную кабету“ запаўнялі вёскі і мястэчкі пры іх уваходзе і ператваралі гэтыя вёскі і мястэчкі ў вогнішчы пры адыходзе.

Як аб гэтым мінулым, сьведкамі і дапаможнікамі якога зьяўляліся беларускія нацыянал-дэмакраты, так і іх актыўным імкненьні аднавіць ізноў гэта панаваньне павінна быць шырока асьвядомлена насельніцтва ў час перавыбараў саветаў. Праводзячы перавыбары саветаў, рабочым брыгадам, акрамя работы па стварэньню моцных органаў пралетарскай дыктатуры—саветаў, замацаваньня і арганізацыі новых калгасаў, неабходна пытаньне аб выкананьні бягучых палітычна-гаспадарчых кампаній узьняць на вышэйшую ступень, павялічыўшы тэмпы, узварушыўшы актыўнасьць асноўных мас на вёсцы вакол гэтага баявога пытаньня.

Спробам адсунуць гэтае пытаньне, ці пусьціць яго па плыні самацёку, закрываемаму ў некаторых выпадках шэрагам аб'ектыўных умоў, патрэбна даваць арганізаваны адпор, ставячы на бальшавіцкія рэйкі ўсю працу ў раёнах і саветах. Паслабленьне ў гэтай галіне можа быць карысным толькі кулаку ў вёсцы і нэпману ў горадзе, якія ўсялякія нашыя замінкі і паслабленьні скарыстоўваюць у сваіх карысных мэтах, як для хлусьлівых чутак, так і для арганізаванага зрыву плянавых заданьняў, непрыпыняючыся перад тэрарыстычнымі актамі.

Пытаньне мабілізацыі сродкаў насельніцтва, выкананьня ўдарнага кварталу, уступленьня ў трэці рашаючы год выкананьня пяцігадовага пляну павінна быць увязана з работаю па правядзеньню справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў. Аб гэтых чарговых задачах патрэбна давесьці да ведама працоўнага насельніцтва з мэтаю мабілізацыі іх творчага энтузіязму для пасьпяховага выканьня, стаячых у парадку дню, палітычных важнейшых мерапрыемстваў, накіраваных на гаспадарчы ўздым усёй народнай гаспадркі.

Баявыя задачы сучаснага моманту, якія вырашаюцца ў абставінах абвостранай клясавай барацьбы патрабуюць больш чым калі небудзь шырачэйшага разгортваньня сацыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту. Перашоўшы ад палітыкі абмежаваньня кулака да палітыкі ліквідацыі яго як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, неабходна ў далейшым больш рашуча працягваць наступ на капіталістычныя элемэнты.

Т. Сталін у дакладзе на XVI зьездзе партыі па гэтым пытаньні адзначыў.

„Партыя правільна выбрала момант, перашоўшы ў наступленьне па ўсяму фронту. Аб гэтым гаворыць растучая актыўнасьць рабочае клясы і нябывалы ўзрост аўтарытэту партыі сярод мільённых мас працоўных. Аб гэтым гаворыць растучая актыўнасьць бядняцка-серадняцкіх мас і караны паварот іх у бок каляктыўнага будаўніцтва, аб гэтым гавораць нашыя дасягненьні як у галіне разьвіцьця індустрыі, так і ў галіне будаўніцтва саўгасаў і калгасаў.

Аб гэтым гаворыць і той факт, што мы маем магчымасьць ня толькі замяніць кулацкую вытворчасьць саўгасамі і калгасамі, але і перакрыць яе ў некалькі разоў.

Аб гэтым гаворыць той факт, што мы змаглі ўжо вырашыць у асноўным збожжавую праблему і накапіць вядомыя хлебныя рэзэрвы, перасунуўшы цэнтр цяжкасьці валавой прадукцыі збожжа з галіны індывідуальных вытворчасьцяй у галіну калгасна-саўгаснай вытворчасьці.

Вось, дзе доказ таго, што партыя правільна выбрала момант, перашоўшы ў наступ па ўсяму фронту, абвясьціўшы лёзунг ліквідацыі кулацтва як клясы“.

(Сталін, Паліт-Справаздача ЦК XVI Зьезду Партыі).

Праводзячы работу па ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, брыгадзірам і ўдарнікам, якія ўдзельнічаюць у перавыбарчай кампаніі саветаў з усёй клясавай вытрымаласьцю, цьвёрдасьцю і максымальнай настойлівасьцю патрэбна працягваць пераможны наступ на кулака. Па кулаку і яго ідэолёгам трэба біць арганізавана і рашуча, не шкадуючы.

Тав. Сталін на Канфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых па пытаньню наступленьня на кулака сказаў наступнае:

„Наступаць на кулака— гэта значыць зламаць кулацтва і ліквідаваць яго як клясу. Наступаць на кулацтва—гэта значыць падрыхтавацца да справы і ўдарыць па кулацтву, ды ўдарыць па ім так, каб яно не змагло больш узьняцца на ногі".

Пасьпяховасьці ў працы па перавыбарах саветаў, а таксама пералому зрухаў у выкананьні задач па лесарасправоўках, ільнонарыхтоўках і, асабліва, па ліквідацыі прарываў прамфінпляну мажліва дасягнуць толькі тады, калі брыгадзіры змогуць згуртаваць вакол гэтага заданьня грамадзкія ўстановы, саветы, іх сэкцыі і сваечасова будуць даваць адпор усялякім спробам чуждых элемэнтаў рабіць якія небудзь уплыў на працу пры правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

Прыступаючы да практычнай працы па перавыбарах саветаў, удзельнікі і кіраўнікі гэтай важнай справы павінны загадзя ўсебакова азнаёміцца з працай саветаў яшчэ да пачатку справаздачы.

Выяўляючы напрамак дзейнасьці саветаў, яго сэкцый, камісій і паасобных членаў саветаў, брыгадам патрэбна добра высьветліць: наколькі той ці іншы савет і паасобныя яго члены здолелі аўладаць вялікім палітычна-гаспадарчым зрухам адбыўшымся ў вёсцы, на колькі яны ў сваёй працы праводзілі клясавую лінію пры выкананьні як бягучых заданьняў па рознага віда загатоўках, так і пры калектывізацыі батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі, на колькі яны змаглі згуртаваць батрацтва, беднату і калгасьнікаў як апору на вёсцы і адначасова ўзмацнілі саюз з серадняком і палепшылі адносіны калгасьнікаў з паасобнымі бядняцка-серадняцкімі гаспадарамі, ня ўступіўшымі ў калгас і, нарэшце, як выканан наказ выбаршчыкаў і наколькі набліжан апарат да асноўных мас вёскі. Загадзя, падрыхтаваўшы і абгаварыўшы з батрацтвам, беднатой і калгасьнікамі кандыдатуры ў выбарчыя ворганы (сельсаветы, сельсуды, рэўкамісіі, нарзасядацелі), патрэбна прыступіць да справаздачы і выбараў. Дапускаючы крытыку дзейнасьці саветаў і паасобных яго членаў, прыслухоўваючыся да запатрабаваньняў і заўваг батрацка-бядняцкіх і калгасных мас, нельга ігнараваць прапановы або абыходзіць іх ці не прыслухоўвацца да крытыкі працоўных мас вёскі, яшчэ ня ўступіўшых у калгасы. Дапускаючы шырока крытыку і самакрытыку, гэта ня значыць, што мы дазволім варожым элемэнтам пад сьцягам крытыкі шэльмаваць дзейнасьць саветаў. Перавыбарчая кампанія павінна наблізіць да калгасаў паасобныя гаспадаркі ня ўступіўшыя ў калгасы, замацаваць прыяцельскія адносіны да серадняка як саюзьніка і спрыяць ачышчэньню саветаў ад бюракратычнага і клясава-чуждага элемэнту.

Прыступаючы да абгаварэньня наказу, грунтавацца на дырэктыўных паказаньнях і ў практычную частку ўносіць толькі тыя моманты і запатрабаваньні, якія пры ўмовах гаспадарчага разьвіцьця раёну і сельсавету магчыма выканаць.

Задачы сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі мажліва будзе з большай пасьпяховасьцю выканаць толькі тады, калі праца будзе праводзіцца пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі і ў час перавыбараў будуць створаны моцныя органы дыктатуры пралетарыяту—саветы, здольныя кіраваць калгасным рухам. Выконваючы працу па перавыбарах саветаў і ўвязваючы яе з выкананьнем чарговых гаспадарчых кампаній, брыгады сваім практычным удзелам яшчэ лепш замацуюць як сувязь гораду з вёскай, так і кіруючую ролю пралетарыяту ва ўсёй далейшай дзейнасьці саветаў.

Закончыўшы справаздачна-перавыбарчую кампанію сельскіх саветаў да студзеня брыгадзіры прадпрыемстваў і гарадоў змогуць ня толькі зрабіць справаздачы перад шырокімі масамі рабочых, камандыраваўшымі іх для ўдзелу ў перавыбарах, але і прыняць актыўны ўдзел, уносячы свой вопыт, у працы пры перавыбарах гарсаветаў.

**Мікуліч.**

# На другі дзень пасьля перавыбараў сельскіх саветаў.

Кампанія перавыбараў сельскіх саветаў набліжаецца да канца. Мы ў сучасны момант ня можам яшчэ падвесьці вынікаў гэтае кампаніі. Але адно ўжо зараз яскрава: перавыбарчая кампанія на базе разгорнутай самакрытыкі выявіць, што сельскія саветы яшчэ ў большасьці не перабудавалі сваёй працы ў суадпаведнасьці з тымі задачамі, якія стаяць зараз перад усёй савецкай краінай. Цэлы шэраг матар'ялаў, які знаходзіцца ў ЦВК, матар'ялы абсьледваньняў інструктароў ЦВК, матар'ялы апошняга абсьледваньня больш 30 раёнаў, праведзенага наркаматам РСІ сумесна з Аргінстрам ЦВК сьведчыць аб тым, што у працы сельскіх саветаў маюцца буйныя прарывы:

*Па-першае*, большасьць сельсаветаў не праводзіць дастаткова рашучай барацьбы супроць кулака. У той час, калі толькі за апошнія 3-4 месяцы па БССР мелі месца шэраг тэрарыстычных актаў з боку кулака, як-та: забойства ў жніўені м-цы актывіста Рыжова, забойства ў лістападзе актывіста калгасу імя Чарвякова т. Клімковіча, падпал у Дамамавіцкай камуне, калгасе КІМ, калгасе Дуброўна і шэрагу іншых, псаваньне машын у калгасах, спробы кулакоў, у асобных выпадках не бяз вынікаў, разваліваць калгасы, нават знутры, у гэты самы час шэраг сельсаветаў і нават РВК заяўлялі, што ў іх кулакоў няма, і 30 раёнаў не знайшлі ні воднага кулака, каб абкласьці яго індывідуальна.

*Па-другое*, значная частка сельсаветаў яшчэ ня стала на чале калгаснага руху і не навучылася кіраваць калгасамі. Мы маем яшчэ выпадкі (Касьцюковіцкі і Кармяскі і інш. раёны), калі асобныя сельсаветы ні разу не заслухоўвалі дакладаў калгасу. Ёсьць шмат выпадкаў, калі ў калгасы пранікаюць кулакі і падкулачнікі, якія зрываюць выкананьне калгасамі сваіх абавязкаў у адносіне дзяржавы. Мы мелі факты, калі на полі гніў калгасны хлеб, а сельсавет нічога не зрабіў, каб дапамагчы калгасу ўбраць яго. Сельсавет ня ўдзельнічае ў складаньні вытворчых плянаў калгасаў і ў кіраўніцтве выкананьнем яго.

*Па-трэцяе*, сельсаветы ў значнай частцы не паставілі яшчэ як сьлед працы з беднатой і батрацтвам. Групы беднаты, праўда, існуюць амаль пры ўсіх сельсаветах, але працуюць яны несыстэматычна, работа значнай часткі іх не згуртавана вакол пытаньняў чарговых задач на вёсцы. З батрацтвам за апошні час работа амаль зусім спынілася.

*Па-чацьвертае*, сельсаветы не перабудавалі сваёй працы ў тым напрамку, каб уцягнуць у яе актыў. Вытворчыя нарады амаль нідзе не арганізаваны, камісіі ў большасьці сельсаветаў не працуюць, няма кіраўніцтва працай грамадзкіх арганізацый і г. д.

З другага боку мы маем шэраг прыкладаў узорнай працы, калі сельсаветы стаяць на чале калгаснага руху і калі яны рашуча праводзяць клясавую лінію ў сваёй працы. Чым тлумачыць недахопы ў працы сельсаветаў? Бязумоўна, у некаторых сельсаветах магчыма канстатаваць засьмечанасьць, але было-б няправільна сказаць, што гэтае зьявішча агульнае і што недахопы зьяўляюцца вынікам толькі гэтага. Лічбы перавыбараў саветаў апошніх гадоў сьведчаць аб тым, што сацыяльны склад сельсаветаў з году ў год паляпшаецца аб гэтым гавараць наступныя лічбы:

| Гады | Рабочыя, с.-г. раб. і батракі | Сялян, асла-банёных ад падатку з агульнай колькасьці сялян | Членаў і кандыдатаў КП(б)Б | Жанчын |
|---|---|---|---|---|
| 1927 г. | 2,5 | 22,8 | 9,3 | 7,2 |
| 1928 г. | 4,4 | 38,2 | 9 | 19,6 |
| 1930 г. | 7,2 | 50,8 | 9,3 | 20 |

Акрамя таго, мы маем на працы ў сельсаветах некаторую частку рабочых з ліку 25 тысячнікаў і рабочых, мабілізаваных гарсаветамі.

У складзе старшынь сельсаветаў мы маем наступныя зьмены:

| Гады | Рабочыя, с.-г. раб. і батракі | Сяляні, асла-баненых ад падатку з агульнай колькасьці сялян | Членаў і кандыда-таў КП(б)Б | Жанчын |
|---|---|---|---|---|
| 1927 г. | 1,9 | 22,1 | 33,7 | 0,8 |
| 1929 г. | 6,3 | 38,1 | 55,2 | 7,4 |

Зразумела, што і гэты пралетарскі ўплыў у с.-с. нельга лічыць дастатковым, але тлумачыць недахопы толькі засьмечанасьцю таксама нельга.

Прычыны слабай працы сельсаветаў трэба тлумачыць у значнай частцы тым, што і з боку РВК і з боку парт'ячэяк няма дастатковай увагі, каб сваечасова ўзмацніць працу сельсаветаў, каб з першых-жа крокаў новага складу сельсавету дапамагчы яму правільна наладзіць сваю працу. Склад прэзыдыуму сельсавету пры перавыбарах у нас аднаўляецца часткова на 75 і больш процантаў. Новыя працаўнікі часткова ня ведаюць ні законаў, ні пастаноў ураду, ні мэтадаў работы сельсаветаў. Між тым, яго астаўляюць працаваць бяз усякай дапамогі і толькі звычайна праз 8 мес. альбо год, а то і таго няма, робяць абсьледваньне і пачынаюць адзначаць шэраг недахопаў у працы савету.

Таму ў гэтым годзе трэба зараз-жа РВК і ячэйкам рашуча паставіць пытаньне аб тым, што ім зрабіць на другі жа дзень пасьля перавыбараў сельсаветаў, каб адразу-жа паставіць работу апошніх на правільныя рэйкі.

Калі на мясцох сур'ёзна прызадумацца над гэтым пытаньнем, то бязумоўна там будуць знойдзены шматлікія магчымасьці палепшыць працу сельсаветаў з самага пачатку. Але ўжо зараз можна намеціць шэраг мерапрыемстваў па арганізацыі гэтай працы.

*Перш за ўсё* неабходна зараз-жа пасьля перавыбараў сельсаветаў склікаць раённыя курсы-нарады старшынь сельсаветаў, на якіх добра прапрацаваць чарговыя пытаньні работы на вёсцы і мэтады іх правядзеньня ў жыцьцё (сацспаборніцтва, буксір, вызначэньне канкрэтных заданьняў і г. д.). На гэтых-жа курсах неабходна прапрацаваць палажэньне аб працы сельсаветаў. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на растлумачэньне форм кіраўніцтва з боку сельсаветаў калгасамі.

*Па-другое,* неабходна склікаць нарады сакратароў сельсаветаў па пытаньню арганізацыі работы камісій з тым, каб апошнія пачалі рэгулярна працаваць з самага пачатку свайго існаваньня.

*Па-трэцяе,* неабходна склікаць раённыя нарады старшынь камісій на паасобных галінах (ст. вытворчых нарад, культурных камісій, бытавых, грашовых і г. д.) для абмеркаваньня далейшага напрамку працы і мэтадаў правільнага разгортваньня яе.

*Па-чацьвертае,* неабходна, каб на ўсіх гэтых нарадах былі прапрацаваны канкрэтныя пляны працы асобных сельсаветаў, камісій і інш.

*Па-пятае,* неабходна, каб на партыйнай лініі былі скліканы нарады кіраўнікоў груп беднаты сумесна з сакратарамі ячэяк і партыйнай часткі прэзыдыумаў с.-с. па пытаньню арганізацыі груп беднаты пры сельсаветах.

Але ўсяго гэтага будзе яшчэ мала, калі з боку РВК і парт'ячэяк ня будзе арганізавана, асабліва ў першы час працы новага складу с.-с. непасрэдная дапамога. Каб гэта зрабіць, трэба зараз пасьля правядзеньня адзначанай вышэй папярэдняй працы арганізаваць выезды членаў Прэзыдыуму РВК сумесна з спэцыяльна падабраным і праінструктыраваным актывам для дапамогі ў арганізацыі працы сельсаветаў.

Неабходна ўстанавіць адказнасьць асобных членаў прэзыдыуму і загад. аддзелаў РВК за асобныя галіны працы с.-с. Напрыклад, сакратар РВК адказвае за працу апарату с.-с. і за плянавасьць яго працы, інспэктар асьветы адказвае за працу культурных камісій с.-с., загадчык зямельнай часткі адказвае за працу вытворчых сельска-гаспадарчых нарад, старшыня раённай бытавой камісіі адказны за працу сельскай камісіі па палепшаньню працы і быту работніц і сялянак і г. д. і г. д.

Асабліва значная работа ўскладаецца на інструктара па масавай рабоце, які павінен асабліва сачыць за тым, каб праца ў с.-савеце была зараз-жа пасьля перавыбараў наладжана.

Мы ўпэўнены, што на мясцох знойдзецца яшчэ шмат мэтадаў для палепшаньня работы сельсаветаў.

Неабходна толькі, каб за гэтую працу ўзяліся безадкладна.

На сельскія саветы ў сучасны момант ўскладаецца вялікая роля па сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі.

Яны здолеюць гэта зрабіць, калі вышэйстаячыя органы і парт'ячэйкі дапамагуць ім правільна распачаць работу.

Трэба зараз-жа рашуча паставіць пытаньне, ці мы, як гэта ўжо было пасьля мінулых перавыбараў, на першых парах забудзем аб с.-с. з тым, каб пасьля скардзіцца, што яны дрэнна працуюць, ці зараз-жа самым рашучым чынам возьмемся за наладжваньне іх працы, каб у самым хуткім часе дабіцца рэальных вынікаў.

Мы лічым, што двух адказаў тут ня можа быць.

**А. Вайцок.**

---

# Права-апартуністычная практыка ў рабоце Чарэйскага РВК.

*(па матар'ялах інструктарскага абсьледваньня).*

Вялізарнейшыя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, ажыцьцяўленьне Ленінскай праграмы сацыялістычнай перабудовы вёскі на аснове калектывізацыі, бязьлітаснае выкарчоўваньне капіталістычных элемэнтаў вёскі паставілі задачу караной перабудовы працы саветаў і РВК, павароту іх да саўгасаў і калгасаў, па замацаваньню існуючых калгасаў і па далейшаму разгортваньню калектывізацыі. На выкананьне гэтых адказьнейшых задач патрэбна максымальная мабілізацыя ўсіх сіл, поўнага згуртаваньня батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас для рушучага адпору ўзьнімаючаму галаву кулацтву.

Як-жа перабудаваў сваю працу Чарэйскі РВК, як ён справіўся з адказьнейшымі задачамі па сацыялістычнай перабудове вёскі?

Матар'ялы інструктарскага абсьледваньня работы Чарэйскага РВК сьведчаць, што РВК сваёй работы не перабудаваў, ня змог разгарнуць масавай работы па арганізацыі батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас вакол важнейшых палітычна-гаспадарчых кампаній, па далейшаму разгортваньню калектывізацыі, тым больш, што Чарэйскі раён быў абвешчаны—раёнам суцэльнай калектывізацыі.

Дзякуючы перагібам, адміністрацыйнаму насаждэньню калгасаў, недастатковай мабілізацыі ўвагі на замацаваньне іх, частка калгасаў распалася.

Калі па другім раёнам у часы правядзеньня вясеньняй пасеўкампаніі і ўборачнай кампаніі была разгорнута работа па прыліву новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы, па арганізацыі новых калгасаў, дык у Чарэйскім раёне „умудрыліся“ давесьці да таго, што 5 калгасаў—„Шлях Селяніна“, „Чырвоная Дуброва“, „Новая Жизнь“, „Паршоўшчына“ і „Слабадарэчча зусім“ распаліся, а таксама вышла 14 сямей з калгасу „Вольны Труд“ і 5 гаспадарак з калгасу „Таўпіна“.

Раённыя арганізацыі да развалу памянёных калгасаў лічылі, што кулакоў з раёну выслалі ўсіх, а таму вострай клясавай барацьбы ў раёне няма, а з гэтым работы з беднатой і батрацтвам праводзіць не патрэбна, а старшыня калгасу Сімук (чл. КПБ) на агульным сходзе заяўляе: „вышла з калгасу не беднота, а контр-рэвалюцыянэры, хто жадае быць той застаўся“.

Дзякуючы такім разважаньням, дзякуючы адсутнасьці клясавага падыходу да прыёму ў калгас, калгасы Чарэйшчыны аказаліся засьмечанымі кулацка-варожымі элемэнтамі, якія накіравалі ўсю сваю працу да развалу калгасаў, якія схаваліся за сьпіну калгасаў ад індывідуальна гаабкладаньня і ад раскулачваньня, для таго, каб весьці ў калгасах разлагаючую працу, для таго, каб з падцішка, з закаўлку падрываць пасьпяховасьць сацыялістычнай перабудовы вёскі.

У калгас „Таўпіно“, Сьледчанскага с/савету прынялі кулака Лапу-Лазарэвіча, які мае 19 га зямлі, 3 каровы, 2 коняй; у калгас „Клішано“, Хальнявіцкага сельсавету прынялі кулака Кулікоўскага, якога трэба было раскулачыць, у калгасе „Колас“ былыя спэкулянты і лішэнцы выжываюць з калгасу 10 бядняцкіх гаспадарак, у калгасе „Таўпіно“ пры разьмеркаваньні дыфіцытных тавараў хадайніцтвы батракоў і беднякоў адхіляюць, а надзяляюць імі заможнікаў. Гэтыя факты выразна гавораць аб тым, куды вядзе права-апартуністычная стаўка на самацёк, прымірэнцтва да клясавага ворага—кулака.

Ні райвыканком, ні райкалгассаюз не паклапаціліся аб тым, каб ачысьціць ад варожага элемэнту калгасы, аб тым каб разгарнуць масавую работу з батрацтвам і беднатой, каб згуртаваць вакол калгаснага руху батрацкія, бядняцкія і серадняцкія масы сялянства, каб прыняць рашучыя захады ў час першай вясеньняй бальшавіцкай сяўбы і ўборкі ўраджаю, узьняць новую хвалю па прыліву працоўнага сялянства ў калгасы, па арганізацыі новых калгасаў, па замацаваньню ўжо існуючых калгасаў не ўзьнялі на належную вышыню працы сельсаветаў у справе павароту іх да калгасаў, а сельсаветы Чарэйшчыны з свайго боку ў справе калгаснага будаўніцтва вельмі слаба праяўляюць сваю ініцыятыву, яны яшчэ ня сталі кіраўнікамі гаспадарча-палітычнага жыцьця на сваёй тэрыторыі.

Усе гэта спрыяла таму, што ў рабоце паасобных сельсаветаў маюцца моманты скрыўленьня клясавай лініі, як напрыклад: кулаку Маеўскаму сярод калгаснай плошчы адвялі яравы клін лепшай часткі зямлі, кулаку 3-й катэгорыі з калгасу „Ражанкі“ выдалі лепшага каня і лепшы сельска-гаспадарчы інвэнтар (Гілянскі сельсавет). У Хальнявіцкім сельсавеце паслабілі нажым на кулака па сельска-гаспадарчаму падатку і дачы цьвёрдых заданьняў па хлебанарыхтоўках. Старшыня Вяцерскага с/савету вёў штодзённую сувязь з кулацкай часткай. Член Дубаўскага с/савету заўсёды выступае супроць кантрольных лічбаў, даваемых кулацтву прынятых групамі і сходамі беднаты.

Адсутнічаньне работы з беднатою, права-апартуністычная недаацэнка работы з беднатою прывяло да таго, што частка несьвядомых беднякоў і серадлякоў пападалі пад уплыў кулацтва і другіх чуждых элемэнтаў.

У райвыканкоме не вядома нават колькі па раёну маецца батракоў. Перавучоту батракоў не праводзілося. Ні РВК, ні сельсаветы ня ведаюць дзе і як батрацтва працягвае свае існаваньне.

Камісіі пры сельсаветах, як форма масавага ўцягненьня працоўнага насельніцтва ў работу саветаў, не працуюць. РВК не паклапаціўся склікаць хаця-б адну нараду старшынь сельскіх камісій і праінструктаваць іх.

Дырэктыў аб справаздачнасьці саветаў перад выбаршчыкамі, аб разгортваньні масавай работы саветаў, аб увядзеньні цеснай сувязі работы саветаў з работай груп беднаты і батрацтвам РВК і сельсаветы ня выконваюць. Члены сельсаветаў у штодзённую практычную работу саветаў ня ўцягваюцца. Сталай і сыстэматычнай работы па падрыхтоўцы кадраў з вясковага батрацтва і бядняцкага актыву саветамі не праводзіцца.

Культурна-выхаваўчая работа сярод жанчын праводзіцца слаба. Бытавы камітэт пры РВК арганізаваны толькі фармальна, ніякай работы не праводзіць, дзякуючы чаму сярод жаночай часткі насельніцтва меліся паасобныя выступленьні супроць калектывізацыі і адводу яравога кліну калгасам і ў вёсцы Калінаўка, нацкаваныя кулацтвам жанчыны прагналі з поля каморніка і адабралі ленту.

У выніку гэтай права-апартуністычнай дзейнасьці Чарэйскага РВК і сельсаветаў, стаўкі на самацёк прымірэнчых адносін да кулака, раённыя арганізацыі да ўборачнай і пасеўнай кампаній не падрыхтаваліся, у гэты час вышла—145 сямей з калгасаў, уборка яравых палёў праводзілася самацёкам, ня ўсюды быў сваечасова ўбраны з поля ўраджай, ня выкананы плян севу, не абгаварвалося пытаньне разьмеркаваньня ўраджаю, зусім дрэнна праводзяцца хлебазагатоўкі і наглядаюцца выпадкі ўраўнілаўкі пры давядзеньні пляну нарыхтовак да кулацкага двара, мабілізацыя сродкаў праходзіць самацёкам і 25% платнікаў па

сельска-гаспадарчаму падатку яшчэ зусім не плацілі, не пазыскваецца запазычанасьць,—усяго не дабрана на 1/X-1930 г. 45660 руб., пытаньне аб рэалізацыі пазыкі абгаварвалася на агульных сходах са спазьненьнем, камісіі садзейнічаньня дзяржкрэдыту пры сельсаветах не працуюць, райкамсод таксама бязьдзейнічае, райкалгассаюз і праўленьне калгасаў зусім мала прымалі захадаў да распаўсюджваньня пазыкі „пяцігодка ў чатыры гады“, а старшыня калгасу „Таўпіно“ той самы Сямук кажа: „нам няма часу цяпер гэтым пытаньнем займацца“. Трактарных абавязацельстваў не рэалізавана на 2505 р. Недабрана чарговых узносаў па пазыцы „пяцігодка ў чатыры гады“ на 1-е кастрычніка 2100 руб., недабор узносаў па 3-й пазыцы індустрыялізацыі на 2000 руб. Усеагульнае навучаньне па раёну зрываецца. У гэтай справе як РВК, так і інспэктурай Нарасьветы нічога ня зроблена. Райінспэктар з прахладцам адносіцца да гэтага пытаньня, ён ня мае нават вестак аб сацыяльным складзе настаўнікаў, вучняў і г. д.

Гэтыя буйнейшыя прарывы ў працы Чарэйскага РВК і сельсаветаў амаль у ва ўсіх галінах іх работы характарызаваць інакш як правы апартунізм на практыцы нельга, бо у той час, калі кулацкія элемэнты ў раёне разгортвалі шалёную агітацыю супроць калгасаў, калі кулакі і сэктанты пралазілі ў калгасы, каб весьці там шкодніцкую контр-рэвалюцыйную работу—Чарэйскія раённыя кіраўнікі палец аб палец ня стукнулі, каб што-небудзь зрабіць па аказаньню практычнай дапамогі калгасам, каб замацаваць іх ачысьціўшы ад усялякага роду шкодных элемэнтаў, яны замест барацьбы за замацаваньне калгасаў, замест бязьлітаснага адпору кулаку, замест згуртаваньня батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас вакол гаспадарча-палітычных кампаній і ўдарнага правядзеньня іх, замест арганізацыі масавай работы вакол асноўных задач партыі і ўлады вёсцы ўзялі права-апартуністычную стаўку на самацёк, пагрузьлі ў права-апартуністычным балоце.

Прэзыдыум ЦВК БССР заслухаўшы даклад аб дзейнасьці Чарэйскага РВК канстатаваў наяўнасьць права-апартуністычнай практыкі ў рабоце РВК, прызнаў работу Чарэйскага РВК не здавальняючай і пастанавіў Старшыню Чарэйскага РВК т. Макасюка з працы зьняць даручыўшы Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу укамплектаваць кіруючы апарат РВК больш працаздольнымі і клясава-вытрыманымі працаўнікамі, а райвыканкому даручыў скарыстаць прадстаячыя перавыбары саветаў для рашучага выпраўленьня усіх прарываў, якія былі ў раёне і узмацніць усе галіны працы РВК і сельсаветаў.

Толькі пры мабілізацыі ўсіх працоўных мас Чарэйскага раёну, толькі пры рашучай перабудове работы РВК і саветаў у напрамку поўнага выкананьня дырэктыў партыі і ўлады, толькі пры згуртаваньні батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас вакол выкананьня усіх гаспадарча-палітычных кампаній, разгорнутай работы з батрацтвам і беднатой, мабілізацыі іх актыўнасьці, пры рашучым адпору кулацка-варожым элемэнтам магчыма будзе забясьпечыць ліквідацыю маючых месца прарываў у рабоце Чарэйскага РВК і свветаў, разгарнуць работу па пасьпяховаму ажыцьцяўленьню Ленінскай праграмы сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Раённым арганізацыям Чарэйшчыны неабходна мабілізаваць актыўнасьць усёй грамадзкасьці, асабліва ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі, разгортваючы бальшавіцкую самакрытыку недахопаў работы, даючы рашучы адпор усялякага роду апартуністым з тым, каб у бліжэйшы час дабіцца рашучага пералому ў рабоце.

І. Русовіч.

**Прэч дэзарганізатараў сацыялістычнага наступленьня— правых і „левых“ апартуністых.**

# Па 30 раёнах БССР.

На адным з апошніх пасяджэньняў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту абгаварыў даклад аб выніках праверкі працы ў 30 раёнах і шэрагу цэнтральных устаноў у зьвязку з ліквідацыяй акруг. Праверка працы была праведзена НК РСІ і Арганзаіцыйна-інструктарскім аддзелам ЦВК.

Аб чым-жа гавораць вынікі праверкі? Яны гавораць аб тым, што апарат цэнтральных устаноў і арганізацый вельмі марудна перабудаваў і перабудоўвае сваю працу і яшчэ дагэтуль не павярнуўся па сапраўднаму тварам да раёну. Цікава адзначыць, што некаторыя цэнтральныя ўстановы своечасова не падумалі над тым каб распрацаваць звычайную інструкцыю аб працы раённых органаў, асабліва ўноў арганізуемых. Гэтыя інструкцыі папалі на месцы з вялікім спазьненьнем і шмат раённых працаўнікоў ня ведалі з чаго ім пачаць сваю работу.

Асаблівыя клопаты праявіў ВСНГБ, які да апошняга часу нават не распрацаваў пытаньня аб кіраўніцтве мясцовай прамысловасьцю і яна пасьля ліквідацыі акруг засталася ў „бяспрытульным" становішчы. ВСНГ свае кіраўніцтва мясцовай прамысловасьцю пачаў з запытваньня розных вестак, ня даўшы ў той час нават зазначэньняў аб складаньні кантрольных лічбаў на асобны квартал і на 1931 год.

Асабліва безадказна да пытаньня рэарганізацыі апарату падышлі некаторыя гаспадарчыя арганізацыі. Некаторыя з іх у сваіх праэктах яўна скажалі асноўную ідэю рэарганізацыі ўмацаваньня раёну, будуючы замест раённай сыстэмы розныя вучастковыя і іншыя апараты, накшталт павятовых, ня ўлічваючы эканомікі раёнаў. За фактамі далёка ня трэба хадзіць. Так Белдзяржгандаль прадставіў праэкт арганізацыі па БССР 18 вучастковых кантор замест існаваўшых акруговых аддзяленьняў, а раённыя пункты пакідаліся, як тэхнічныя і бяспраўныя ячэйкі. Саюз-хлеб арганізоўваў буйныя філіалы, між тым іх можна было бязумоўна, разбуйніць. Напрыклад, да Слуцкага пункту, які і так зьяўляецца буйным, Саюз-хлеб прымацаваў Грэскі Капыльскі, Старобінскі і шэраг іншых раёнаў.

Нават Наркамюстыцыі часам ня зусім прадумана падыходзіў да рэарганізацыі свайго нізавога апарату,—так, для Заслаўскага, Самахвалавіцкага і Сьмілавіцкага раёнаў пракурорскі вучастак быў арганізаваны ні ў якім небудзь з гэтых раёнаў, а ў Менску.

Не зважаючы на шэраг дырэктыў вышэйшых органаў, цэнтральныя ўстановы не асабліва сьпяшаліся з наладжваньнем сталай непасрэднай сувязі з раёнамі, асабліва па лініі жывога інструктажу. За тое некаторыя цэнтральныя ўстановы закідваюць раёны часам зусім непатрэбнымі і блытанымі абежнікамі і паперкамі, якія часам трэба прама прапрацоўваць у гуртках, каб што небудзь з іх зразумець. Значная колькасьць абежнікаў пішацца ў „міжнародным маштабе" і пачынаецца з гістарычных разважаньняў аб значэньні сацыялістычнага будаўніцтва. Канкрэтных-жа ўказаньняў у гэтых абежніках вельмі мала ці яны зусім адсутнічаюць. Напрыклад, Дзяржплян пасылае раёнам „вельмі тэрмінова" абежнік, у якім прапануе „улічыць новыя абставіны і падрыхтавацца да складаньня кантрольных лічбаў". Як падрыхтавацца, як складаць—у абежніку Дзяржпляна нічога не гаворыцца.

Ракорд-жа ў псаваньні паперы, бязумоўна, пабіў Белкапсаюз. Гэтая паважаная ўстанова ў клопатах аб сваёй сыстэме разаслала ва ўсе раёны стэнаграму прамовы тов. Кумкеса на пасяджэньні праўленьня Белкапсаюзу аб значэньні і мерапрыемствах па рабочаму забесьпячэньню. Гэтага яшчэ мала, Белкапсаюз перадрукоўвае абежнікі Цэнтрасаюзу і без ніякіх... накіроўвае па раёнах.

З некаторых цэнтральных устаноў абежнікі ў раёны сыпяцца як дождж. Так, Наркамфін за адзін толькі месяц па прыбытках і валютнай справе паслаў 68 абежнікаў, а Белкалгасцэнтр за пяць тыдняў паслаў у раёны 64 абежніка. Калі прыняць пад увагу, што ў раёны ідуць абежнікі і паперкі з усіх цэнтральных устаноў, дык можна ўявіць сабе, у якім

становішчы апыняюцца раённыя працаўнікі: толькі прачытаць такое мора паперак, дык у пот ударыць.

Цэнтральны апарат вельмі слаба займаецца і вывучэньнем экономікі раёнаў, а ў некаторых выпадках нават ня ведае тэрытарыяльнага разьмяшчэньня раёнаў, а вось вам і факты: Белкапсаюз дае Касьцюкавіцкаму раёну нарад на хлеб з Бабруйску, матывуючы гэтую памылку тым, што працаўнік БКС, які даваў нарад, ня ведаў тэрытарыяльнага разьмяшчэньня. ВСНГ запытвае рад вестак аб патрэбнай сыравіне з раёнаў, дзе нават няма ніякай прамысловасьці і, наадварот, не дае ніякіх канкрэтных паказаньняў працуючым прадпрыемствам мясцавай прамысловасьці. Белдзяржвыдавецтва і Белкапсаюз накіроўваюць у Нараўлянскі раён 300 праграм для нулявых груп, якіх у раёне ня больш 3-4, а для пачатковых школ прысылаюць зусім нязначную колькасьць праграм. Такі-ж малюнак быў з забесьпячэньнем раёнаў сшыткамі і падручнікамі. Першае-ж месца ў веданьні становішча на мясцох заняў Белкалгасцэнтр, які аддае пад суд Бягомльскі райкалгассаюз за дрэнную падрыхтоўку да ўборачнай кампаніі і абавяшчае нават аб гэтым у газэце „Зьвязда". Між тым у Бягомльскім раёне ў той час райкалгассаюз нават ня быў арганізаваны.

Нельга сказаць, што цэнтральныя ўстановы зусім не спрабуюць наладзіць з раёнамі жывой сувязі. Не, працаўнікі выязджаюць на месцы, але выезды ў большасьці носяць кампанейскі характар. Часта прадстаўнікі цэнтральных устаноў праносяцца у раёнах, як матэоры. Каб ня быць галаслоўным прывядзем і прыклады: інспэктар НКФіну Вайцэховіч па пытаньні мабілізацыі сродкаў за 9 дзён пасьпеў пабываць у Мазыры, Калінкавічах, Азарычах, Жыткавічах і Нароўлі. Прадстаўнік наркамату ўнутраных спраў за 7 дзён пасьпеў пабываць у сямі раёнах. У выніках такога гастралёрства замест дапамогі раёну прымяняецца мэтад накачкі.

Факты гастралёрства ў некаторых выпадках прымаюць самы ўродлівы характар. Напрыклад інструктар Белкапсаюзу паказаўся ў Высачанскім раёне на некалькі гадзін і на прапанову райкому партыі застацца на адзін дзень, гэты інструктар катэгарычна адмовіўся, бо, бачыце, яму трэба ляцець у другі раён.

У Вушацкім раёне інструктар кааперацыі, сустрэўшы на чыгунцы старшыню райспажывецкага таварыства, атрымаў ад яго вусную інфармацыю аб ходзе адгрузкі і тут-жа вярнуўся назад. Інструктар Белпаляводсаюзу прыехаў у Сіроцінскі раён у 3 гадзін, а у 7 гадз. ужо змыўся.

Зразумела, ад такіх наездаў, якія цягнуцца 2-3 гадзіны раённым арганізацыям карысьці няма і гастралёрства ў выглядзе мэтэораў ні у якім разе ня можа задаволіць раённых працаўнікоў.

Дэрэктыва партыі аб умацаваньні раёнаў адказнымі акруговымі працаўнікамі ў асноўным выканана. Але тут не без недахопаў, галоўны з іх гэта той, што ў некаторых выпадках праводзілася няправільнае разьмеркаваньне кадраў на раёнах. У выніку далёкія глыбінныя раёны, якія найбольш адчувалі патрэбу ва ўмацаваньні кадрамі, засталіся абойдзенымі. Раёны, якія бліжэй да чыгункі, да гарадоў куды лепш укамплектаваны працаўнікамі з акруг, чым тыя, якія знаходзяцца за 50-60 кілёмэтраў ад былых акруговых цэнтраў.

Трэба сказаць, што раённыя арганізацыі амаль нічога не зрабілі, каб заняцца падрыхтоўкай правільнага разьмеркаваньня і вылучэньня новых кадраў на мясцох. Замест гэтага ў вышэйшыя органы пасылаюцца вялізарныя заяўкі на работнікаў, у тым ліку і на тэхнічных, укамплектаваньнем якіх павінен займацца сам раён.

Цікава адзначыць, што нават і тыя галіны працы, якія да ліквідацыі акруг былі параўнальна ўкамплектаваны здавальняюча, засталіся без працаўнікоў. Напрыклад НКФін да ліквідацыі акруг на перыфэрыі меў да 800 працаўнікоў, а пасьля ліквідацыі патрабавалася ў раёнах усяго 500. Між тым, некаторая частка раёнаў поўнасьцю не ўкамплектавана фінансавымі працаўнікамі.

Пастановай Ураду яшчэ ў ліпені было даручана ўпаўнаважанаму НК пошт і тэлегр. у 20-дзённы тэрмін распрацаваць і ўнесьці на зацьверджаньне СНК плян узмацненьня сувязі з раёнамі. Але Беларускае кіраўніцтва сувязі, матывуючы рознымі „аб'ектыўнымі" умовамі вельмі

марудна пачала выконваць гэту дырэктыву і па сутнасьці амаль нічога канкрэтнага па палепшаньню сувязі з раёнамі і да гэтуль не зрабіла. У выніку сувязь з раёнамі ня толькі не палепшылася але ў некаторых выпадках нават пагоршылася.

Што-ж мы маем у галіне тэлефонізацыі?

Менск тэлефонную сувязь мае з 26 раёнамі, праз трансьляцыю з 32 раёнамі, а рэшта раёнаў зусім ня зьвязана тэлефонам з Менскам. Раёны зьвязаны тэлефонам толькі з 226 сельсаветамі, але і тая сувязь, якая маецца ў некаторых выпадках пабудавана далёка не рацыянальна. Так, для таго, каб з Сіроціна пагаварыць па тэлефону са Спаскім сельсаветам, дык трэба злучыцца праз 3 злучных пункты.

Ня лепш справа і з тэлеграфнай сувязьзю. Шмат раёнаў нават ня маюць магчымасьці перадаць непасрэдна тэлеграмы і ім прыходзіцца перадаваць іх па тэлефону ў бліжэйшы пункт. Тэлеграмы на мясцох часта атрымліваюцца з вялікім спазьненьнем, некаторыя 2-3 дні. Гэткае цяжкае становішча з тэлеграфнай сувязьзю яшчэ больш ускладняецца той перагрузкай тэлеграфу, якая назіраецца за апошнія месяцы. Верх галавацяпства ў скарыстаньні тэлеграфу праявіў калектыў супрацоўнікаў Белкапсаюзу Бачыце, людзі аб'явілі сябе ўдарнікамі і рашылі аб гэтым аб'вясьціць па ўсёй Б.С.С.Р., а ў выніках... па 111 адрасам паляцела тэлеграма ў 109 слоў. Гэтае галавацяпства каштавала Белкапсаюзу 966 руб. Мы-ж патрабуем, каб гэтыя грошы былі спагнаны з ініцыятараў „вумнай" тэлеграмы.

Белрадыецэнтр запэўняе, што радыесувязь наладжана з усімі раёнамі, пры чым 58 раёнаў маюць нібы гарантыраваныя радые-прыёмнікі. Між тым, праверка ЦКК-РСІ высьветліла, што такое становішча не адпавядае сапраўднасьці. Больш-менш здавальняюча радые-прыёмнікамі забясьпечана 17 раёнаў, а ў астатніх радые працуе дрэнна, або лічыць за лепшае маўчаць. Па данных Белрадыецэнтру радые працуе ва ўсіх раёнах былой Гомельшчны, а на справе аказалася, што толькі ў 3-х раёнах.

Шмат радые-прыёмнікаў прымаюць Ленінград і інш. гарады, а таксама замежныя радые-станцыі і ніяк ня могуць наладзіць прыём з Менску. Цікава адзначыць, што Белрадыецэнтр сам ня упэўнены ў нармальнай працы радые ў раёнах і ўсе радыеграмы потым у копіі перасылае раёнам поштай.

У заключэньне неабходна спыніцца на тым, што пытаньне ўмацаваньня сельсаветаў у сучасны момант набывае асабліва важнае значэньне. Пры правядзеньні рэформы па ліквідацыі акруг сельсаветы атрымалі шмат новай работы і абавязкаў, але пакуль што яшчэ аб умацаваньні сельсаветаў мала чуваць. Як і раней значная частка сельсаветаў па кожнай кампаніі чакае ўпаўнаважаных раёну, а самі не праяўляюць патрэбнай ініцыятывы і самастойнасьці. Большая частка раёнаў не паслала ніводнага працаўніка для ўмацаваньня сельсаветаў, а наадварот некаторыя раёны забіралі лепшых працаўнікоў з сельсаветаў для укамплектаваньня раённага апарату. Каб раённы апарат абярнуць у сапраўдны кіруючы орган, трэба пабач з умацаваньнем раёнаў паставіць, як важнейшую задачу, умацаваньне сельсаветаў.

Праходзячая зараз кампанія перавыбараў саветаў павінна быць цалкам скарыстана для ўмацаваньня сельсаветаў моцнымі вытрыманымі кадрамі рабочых, батракоў, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў.

**В. З—ў.**

---

**Няхай жыве бальшавіцкая самакрытыка—сродак выяўленьня нашых недахопаў і зброя палепшаньня нашага будаўніцтва.**

# На вышэйшую ступень інструктаваньне нізавога апарату.

Праведзеная ў гэтым годзе, на аснове рашэньняў нашай партыі, рэарганізацыя сыстэмы кіраўніцтва ў асноўным значна ўзмацніла палітычнае і гаспадарчае значэньне раёну і сельсавету і наблізіла органы ўлады да працоўнага насельніцтва.

У асноўным на сёньняшні дзень мы маем, што ўсе раённыя арганізацыі і ўстановы, уся пралетарская грамадзкасьць з выключным пад'ёмам працоўнага энтузіязму, з вялікай напруджанасьцю і аданасьцю справе сацыялістычнага будаўніцтва, гэраічна вядуць барацьбу за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Рашаючыя задачы сёньняшняга дню выканкомаў і сельсаветаў заключаюцца ў тым, каб у адказ на розныя проіскі капіталістычных інтэрвэнтаў, шкоднікаў знутры, беларускага нацыянал-дэмакратызму, гэтага агента польскага фашызму, права-„лявацкага" блёку і ўсіх прымірэнцаў да іх, дабіцца, на аснове ленінскай лініі нашай партыі, яшчэ больш рашучага зруху ў справе арганізацыі новага магутнага пад'ёму актыўнасьці, творчай энэргіі і энтузіязму рабочых, калгасных, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас ня толькі на поўнае выкананьне праграмы трэцяга году пяцігодкі, але і значнае паравыкананьне яе, што зьявіцца лепшым умацаваньнем абараназдольнасьці краіны саветаў і лепшаю гатоўнасьцю працоўных мас абараняць кастрычнікаўскія заваёвы ад зграі прыхвасьняў польскага фашызму і іншых інтэрвэнтаў, а таксама яшчэ раз дакажа права-„лявацкаму" блёку і розным ухілістым на практыцы ў правільнасьці генэральнай лініі нашай партыі.

Практыка праверкі работы на месцох паказала, што ў некатарых раёнах, дзякуючы апартуністычнай стаўцы на самацёк, маюцца глыбокія прарывы ў паасобных галінах работы (Дрыса, Лёзна і Баркавічы—льнозагатоўкі, Чарэя—развал калгасаў, Капыль—мабілізацыя сродкаў і інш).

Гэтыя прарывы ў большасьці мелі месца па тым прычынам, што значная частка нізавога апарату ня здолела ўвязаць бягучыя палітычна-гаспадарчыя кампаніі на вёсцы з шырокім разгортваньнем вакол іх арганізацыйна-масавай работы, а раённы апарат, чакаючы падмацаваньня з цэнтру, не па ўдарнаму займаўся перабудовай сваёй працы ў сувязі з ліквідацыяй акруг.

Усё гэта яшчэ раз ставіць пытаньне перад цэнтральнымі ўстановамі ня толькі аб безадкладным узмацненьні інструктажу нізавога і раённага апарату, але і пераводу гэтага інструктажу ў форму практычнай дапамогі райвыканкомам і сельсаветам у штодзённай іх рабоце.

Што-ж канкрэтна зроблена з боку цэнтральных устаноў у гэтым напрамку?

Трэба адкрыта прызнацца, што з боку некаторых цэнтральных устаноў зроблена вельмі мала.

Маюцца выпадкі калі паасобныя цэнтральныя ўстановы яшчэ і да гэтага часу амаль не пераключыліся да непасрэднага кіраўніцтва раёнамі.

У пэрыяд жнівень—кастрычнік была самая актыўная дзейнасьць цэнтральных устаноў у напрамку ўстанаўленьня жывой сувязі з раёнамі, выяўленьня балючых месц, вывучэньня пабудовы апарату раённых устаноў, структуры іх для далейшага ўдасканаленьня яе з тым, каб яна ў сувязі з ліквідацыяй акруг, лепш забясьпечвала бесперабойную, чоткую і хуткую работу па выкананьню сучасных задач. Для гэтае мэты шмат адказных работнікаў цэнтральных устаноў выязджалі ў раёны.

З НКЗ было такіх выездаў 14, з НКФ —62 і прыблізна такую-ж колькасьць выездаў зрабілі і работнікі другіх цэнтральных устаноў.

У асноўным гэтыя выезды адказных работнікаў дапамаглі нашай партыі ажыцьцявіць баявую палітычную задачу па ўзмацненьню асноўнага раённага зьвяна і перабудаваць работу нізавога апарату ў напрамку большага ўцягненьня рабочых, калгасных, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас у практычную яго працу.

Побач з гэтымі станоўчымі выездамі меліся і такія, якія сваім адрывам раённых работнікаў для дачы розных зьве-

стак перашкаджалі ім у іх напружанай працы па выкананьню бягучых палітычна-гаспадарчых кампаній.

Вы рытыя НК РСІ і Арганізацыйным аддзелам ЦВК у час абсьледваньня 30 раёнаў факты даюць яскравую характэрыстыку гэтым выездам. Вось яны. НКЗ дае камандыроўку аднаму з сваіх адказных работнікаў т. Машкову ў працягу 14 дзён аб'ехаць Асьвейскі, Дрысенскі, Боркавіцкі і Вушацкі раёны для вывучэньня пераходу НКЗему да непасрэднага кіраўніцтва раёнамі ў справе ўборачнае і асеньняе пасеўнае кампаніі. Т. Машкоў, вядома, гэтыя раёны аб'ехаў, але каштоўнага, як для раёну, так і НКЗ нічога ня даў. Інспэктар НКФ т. Вайцеховіч, за час з 14/IX па 24/IX па пытаньнях наладжваньня непасрэднага кіраўніцтва з боку НКФ раёнамі ў справе мабілізацыі сродкаў насельніцтва аб'ехаў Мазырскі, Азарыцкі, Жыткавіцкі і Нараўлянскі раёны. Калі з паказанага тэрміну выкінуць той час, які т. Вайцеховічам быў патрачан на пераезд з аднаго месца на другое, дык на практычную работу застанецца толькі 15 гадз. рабочага часу ва ўстановах. Такім чынам т. Вайцеховіч у кожным РВК працаваў прыблізна каля 3 гадз. і 45 хвілін.

Ужо толькі гэты тэрмін гаворыць, што т. Вайцеховіч ня мог заняцца глыбокім вывучэньнем пытаньня па арганізацыі на месцы практычнай дапамогі гэтым раёнам у справе выкананьня дадзенага яму заданьня, а абмяжоўваўся толькі зборам патрэбных яму зьвестак ад Райфа. Такімі-ж шпаркімі тэмпамі насіўся па раёнам цэлы шэраг адказных работнікаў з другіх цэнтральных устаноў. Найбольш характэрнымі з гэтых паездак зьяўляюцца такія:

а) Начальнік адміністрацыйнай службы Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў т. Веразінскі па пытаньню ліквідацыі акруг за 7 дзён аб'ехаў Віцебскі, Аршанскі, Крупскі, Вушацкі, Лепельскі і Полацкі раёны.

б) Інструктар Дзяржпляну т. Цітоў па пытаньню вывучэньня структуры плянавых органаў у раёне за 5 дзён аб'ехаў былыя акругі Бабруйскую, Магілеўскую і Аршанскую.

в) Інспэктар Галоўнага Кіраўніцтва Ашчаднымі Касамі т. Рагозін па пытаньню арганізацыі кас ашчаднасьці на раёнах за 10 дзён аб'ехаў Астрашыцка-Гарадзецкі, Лагойскі, Плешчаніцкі, Бягомльскі і Смалявіцкі раёны.

Хоць усе пералічаныя раённыя цэнтры, за выключэньнем Вушы, знаходзяцца па лініі чыгунак і аўтабуснага руху, аднак, такія тэмпы пераездаў з аднаго раёну ў другі інакш нельга назваць, як гастралёрствам, няўменьнем або нежаданьнем мабілізаваць працоўныя масы вакол выкананьня тых задач, якія кожнаму з гэтых работнікаў даручаліся ў зьвязку з правядзеньнем ліквідацыі акруг.

Памянёныя работнікі забылі паказаць раёнам прыклад змаганьня за якасныя паказчыкі работы па ўсіх галінах і замянілі іх колькаснымі, што на нашай бальшавіцкай мове называецца адставаньнем ад задач, якія былі пастаўлены нашай партыяй у асабліва выразнай форме пры ліквідацыі акруг. Гэта да некаторай ступені зьявілася апартуністычнай установкай у рабоце для часткі раённых работнікаў і ў значнай меры садзейнічала па некаторых раёнах меўшым месца прарывам, а па частцы раёнаў няпоўнаму выкананьню дырэктыў партыі і савецкай улады.

Рэкорд гастралёрства і бяздушша ў рабоце пабіў інструктар Белкапсаюзу, які быў камандыраваны для аказаньня дапамогі ў практычнай рабоце спажывецкай каапэрацыі ў Вушацкі раён, але ён, сустрэўшы старшыню раённага праўленьня спажывецкай каапэрацыі на вакзале, запісаў са слоў гэтага старшыні зьвесткі аб праробленай ім на месцы працы і зьвярнуўся назад.

Усе прыведзеныя факты сьведчаць, што значная частка выяздждаўшых ў раёны адказных работнікаў з цэнтральных устаноў ніяк не дапамаглі райвыканкомам рэарганізаваць работу нізавога апарату так, каб канчаткова перавесьці гэты апарат з тэхнічнага выконваўцы дырэктыў вышэйшых органаў у сапраўднага гаспадара і ініцыятара ў справе разьвіцьця ўсіх галін мясцовае гаспадаркі, культурна-бытавога абслугоўваньня працоўнага насельніцтва, арганізатара рабочых, калгасьнікаў, батрацтва,

беднаты і серадняцтва для поўнага і сваечасовага выкананьня ўсіх бягучых палітычна-гаспадарчых задач і для рашучага наступу на клясавага ворага.

Адсюль асноўныя запатрабаваньні раёнаў на бліжэйшы час сучаснага этапу сацыялістычнага будаўніцтва заключаецца ў тым, каб цэнтральныя ўстановы ў справе кіраўніцтва:

а) безадкладна палажылі канец гастралёрскім выездам сваіх работнікаў у раёны і ўзмацнілі штодзённы жывы інструктаж;

б) у большай меры ўжывалі практычную дапамогу раённым установам у іх працы, унядраючы ў кожную з іх новыя мэтады і сацыялістычныя формы;

в) канчаткова зьліквідавалі ў сваёй практыцы шаблон, агульныя меркі заданьняў бяз вучоту тэрытарыяльных, эканамічных і нацыянальных асаблівасьцяй кожнага раёну;

г) у тэрміновым парадку адчынілі пры ЦВК БССР цэнтральны дом савецкага будаўніцтва, зьвярнуўшы яго ў лябараторыю форм і мэтадаў савецкае работы;

д) хутчэй выдалі Палажэньне аб райвыканкомах і гарсаветах.

Гэта значыць, што ўсе цэнтральныя ўстановы і асабліва тая частка, якая яшчэ слаба пераключылася для непасрэднага абслугоўваньня раёнаў, павінны свае кіраўніцтва строга дыфэрэнцыраваць, зрабіўшым яго канкрэтным і ўпаўне адпавядаючым палітычным задачам, якія ўзложаны на кожны раён у паасобку.

Усе гэтыя запатрабаваньні Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу ЦВК БССР неабходна падхапіць, углыбіць іх і ўзяць на сябе абавязак па падтрыманьню ўсякай ініцыятывы раёнаў па ўдасканаленьню кіраўніцтва з боку цэнтральных устаноў, а раёнам гэту ініцыятыву праяўляць шырэй. Арганізацыйна-Інструктарскі Аддзел ЦВК павінен сачыць і павесьці рашучую барацьбу з тымі цэнтральнымі ўстановамі, у якіх яшчэ і да гэтага часу маецца тэндэнцыя пакінуць раёны, як кажуць, варыцца ва ўласным саку, асабліва тыя раёны, дзе яшчэ слабыя партыйныя арганізацыі і раённыя ўстановы ня поўнасьцю ўкамплектаваны адпаведнымі работнікамі, а таксама стаць рычагом па сваечасоваму прыняцьцю мер да зьліквідаваньня ма-гучых быць з боку паасобных цэнтральных устаноў праяўленьняў апякунства над падпарадкаванымі ім раённымі ўстановамі, або часткамі іх. Адначасова з гэтым прасачыць за ўстанаўленьнем сыстэматычнага кантролю над работай раённых устаноў, па выкананьню імі дырэктыў партыі і савецкай улады, пры ажыцьцяўленьні якога ўвесьці жорсткую дысцыпліну ў справе сваечасовага і поўнага выкананьня заданьняў цэнтральных органаў.

Побач з гэтым патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю сыстэматычнасьці і плянавасьці інструктарска-інспэктарскай работы на раёнах з боку ўсіх цэнтральных устаноў. Неабходна, каб інструктары і інспэктары цэнтральных устаноў былі прымацованы да вядомай колькасьці раёнаў, і каб на кожнага з іх была ўзложана адказнасьць за сваечасовае і правільнае выкананьне яго раёнамі дырэктыў партыі і савецкай улады. Інструктары па савецкаму будаўніцтву ў раёнах павінны таксама несьці адказнасьць за клясава-вытрыманае вырашэньне ўсіх пытаньняў сельсаветамі іх раёнаў. Устанавіць, як правіла, каб усе інструктары і інспэктары пра абсьледваньнях раёнаў і сельсаветаў ужывалі адзіны комплексны мэтад, з шырокім уцягненьнем у абсьледавацельскую працу ўсяго мясцовага савецкага актыву і інструктароў суседніх раёнаў, а калі абсьледаваньне вытвараецца ў сельсавеце, дык старшынь, або сакратароў суседніх сельсаветаў. Пасьля заканчэньня абсьледаваньня ў кожным пункце для падагульваньня вынікаў работы і абгаварэньня далейшых задач неабходна праводзіць куставыя канферэнцыі практычных работнікаў устаноў суседніх раёнаў і сельсаветаў і мясцовага актыву, што дасьць магчымасьць шырэй абменьвацца вопытам работы і сваечасова выпраўляць маючыяся на мясцох недахопы.

Па нашай думцы Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК неабходна гэтыя моманты стала прапрацаваць і зараз-жа пасьля заканчэньня першыбарчай кампаніі саветаў склікаць Усебеларускую нараду інструктароў па савецкаму, калгаснаму, каапэрацыйнаму і інш. будаўніцтву для абгаварэньня формаў кіраўніцтва і асноўных

ліній, па якіх павінна праходзіць практычная дапамога ніжэйшым установам з боку цэнтральных і раённых. Вось тое, па нашаму, самае неабходнае, аб чым павінны ведаць усе ўстановы цэнтру, раёну і сельсавету. На мэтадах кіраўніцтва мы спынімся больш падрабязна ў наступных нумарох нашага часопісу.

М. Б.

---

# Агляд арганізацыйна-масавай работы саветаў Сіроцінскага раёну і далейшыя задачы.

*(Па статыстычных матар'ялах).*

Вялізарнейшыя задачы, якія стаяць перад саветамі, як органамі пралетарскае дыктатуры, у перажываемы намі пэрыяд шырока разгорнутага сацыялістычнага наступу па ўсяму фронту, на аснове рашэньняў XVI зьезду нашай партыі, сталі яшчэ больш складанымі.

Рэканструкцыя народнай гаспадаркі— шырокае разгортваньне сацыялістычнага будаўніцтва і шпаркія тэмпы разьвіцьця суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і, на аснове яе, ліквідацыя кулацтва як клясы, рашуча патрабуюць ад сельсаветаў перабудовы іх работы на новых началах.

У гэтыя задачы ў першую чаргу ўваходзяць такія важныя палітычныя пытаньні, як узмацненьне вядучай ролі пралетарыяту і аказаньне батрацка-бядняцкага ўплыву на справу калектывізацыі сельскае гаспадаркі, на справу ўсямернага ўзмацненьня абароназдольнасьці нашае краіны і баяздольнасьці Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі— шчырага вартаўніка краіны Саветаў.

Усё гэта паказвае, што далейшае ўдасканаленьне работы апарату першапачатковых ячэек савецкай улады на вёсцы зьяўляецца на сучасным этапе пераможнага руху да сацыялізму—аднэй з неад'емлімых і актуальнейшых задач.

У выніку выкананьня пералічаных задач мы маем вялізарнейшыя посьпехі. Дасягнуты яны толькі, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву нашай партыі і яе ЦК.

На аснове гэтага кіраўніцтва мы маем шырокае разьвіцьцё самых размаітых форм удзелу ўсёй рабочай масы ў арганізацыі і кіраўніцтве сацыялістычнай вытворчасьці ў горадзе і шырокага ўдзелу мільённых батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас у справе сацыялістычнага перабудаваньня сельскай гаспадаркі на вёсцы. Сацыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі, на аснове будаўніцтва саўгасаў і правядзеньня суцэльнай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, адчыніла шлях практычнага зьліквідаваньня супярэчнасьцяй паміж горадам і вёскаю, праз утварэньне ўмоў для аб'яднаньня прамысловае і земляробскае працы на падставе сацыялістычнай арганізацыі і высокага ўзроўня разьвіцьця вытворчых сіл.

Усе гэтыя задачы з усёй вастратою паставілі праблему перавода арганізацыйна-масавай работы саветаў на вышэйшыя, сацыялістычныя формы. Як-жа справіліся з выкананьнем гэтых задач саветы Сіроценшчыны?

У Сіроцінскім раёне 11 сельсаветаў. Усе яны маюць уласныя бюджэты, якія ставяць іх у становішча поўнага гаспадара, маючага сваю ні ад каго незалежную матар'яльную базу.

Па ўсіх сельсаветах у працягу шасьці месяцаў праведзена 73 пленума, што ў сярэднім прыпадае на адзін сельсавет 6,6 або па 1,1 пленума на кожны месяц.

З вызначаных па пляну пленумаў усіх сельсаветаў не адбылося па розным прычынам 11, што складае 13 проц. ад агульнай плянавай колькасьці гэтых пленумаў.

Прысутнічала на кожным пленуме ў сярэднім 23 члена с-саветаў і 36 чалавек актыву сельсавету. Сярод удзельнікаў пленумаў у сярэднім прысутнічала 10 жанчын на кожным.

Гэтыя даныя гавораць за спрыяючыя ўмовы ў справе залучэньня шырокіх працоўных мас у непасрэдную работу саветаў і арганізацыі батрацка-бядняц-

кіх і серадняцкіх пластоў вёскі для далейшага ўздыму актыўнасьці, творчай энэргіі і энтузіязму іх на справу сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Па ўсіх гэтых сельсаветах за той жа тэрмін апрача пленумаў адбылося 156 пасяджэньняў прэзыдыумаў, з якіх 14 выяздных у суседнія вёскі. Плян скліканьня прэзыдыумаў у сярэднім ня выканан на 8 проц. У сярэднім па ўсіх сельсаветах на кожным прэзыдыуме прысутнічала 4 члена сельсавета і 5 чалавек сельскага актыву.

Выконваючы практычныя дырэктывы вышэйшых органаў па ажыўленьню дзейнасьці саветаў, сельсаветы Сіроцінскага раёну апрача прэзыдыумаў і пленумаў ужывалі і іншыя арганізацыйна-масавыя формы ў сваёй практычнай рабоце, як-та: нарады, групы беднаты, камісіі і сельска-гаспадарчыя вытворчыя нарады.

Праца іх характарызуецца наступнымі данымі:

Па ўсіх сельсаветах праведзена 177 нарад актыву, з якіх кіраўнікоў пастаянных камісій с.-с. 54, кіраўнікоў грамадзкіх арганізацый і ўстаноў, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельсавета,—64, жаночага актыву—8, калгасьнікаў—23 і па іншых справах 20.

Ужо па аднэй толькі колькасьці скліканых нарад калгасьнікаў і жаночага актыву можна сказаць, што сельсаветы Сіроцінскага раёну недастаткова яшчэ павярнуліся тварам да калгасаў і да разгортваньня працы сярод жанчын, а калі да гэтага дадаць, што за паўгода 11 сельсаветаў заслухалі на сваіх пасяджэньнях толькі 31 даклад аб становішчы і працы калгасаў, дык такая ацэнка працы сельсаветаў у гэтай галіне стане зусім бясспрэчнай. Пры ўсіх сельсаветах арганізавана 18 камісій і 8 сельска-гаспадарчых вытворчых нарад. У сярэднім у кожнай камісіі налічваецца 8 чалавек і ў вытворчых нарадах 6 чалавек. Членамі камісій і вытворчых нарад зьяўляюцца галоўным чынам члены с.-саветаў. Жаночы актыў у працы камісій і вытворчых нарад амаль ня ўцягнут. На 192 члена камісій і нарад жанчын толькі 20 або 10,4 проц.

Сацыяльны склад камісій і вытворчых нарад здавальняючы (у вытворчых нарадах 4 батрака, 25 беднякоў і 17 сераднякоў). Ня гледзячы на спрыяючыя ўмовы і здавальняючы склад камісій і вытворчых нарад, праца іх разгорнута зусім слаба. Вытворчыя нарады па 8 сельсаветах за паўгода зрабілі толькі 48 пасяджэньняў і разглядзелі 71 пытаньне. У сярэднім на кожную вытворчую нараду прыпадае ў месяц 1 пасяджэньне і каля 6 пытаньняў, а калі ўзяць паасобку сельсаветы, дык тут маецца надзвычайна вялікая стракатасьць, а іменна: пры Шумілінскім сельсавеце сельска-гаспадарчая вытворчая нарада за шэсьць месяцаў зрабіла толькі адно пасяджэньне, на якім разглядзела 2 пытаньні і з апошніх на абгаварэньне с.-с. вынесла толькі 1 пытаньне.

Здавальняюча працавала вытворчая нарада пры Сіроцінскім с.-с. Яна за паўгода зрабіла 12 пасяджэньняў і разглядзела 12 пытаньняў. Усе гэтыя пытаньні вынесены на абгаварэньне сельсавету. Відаць, што гэты сельсавет правільна арганізаваў работу і не дапусьціў падмены сябе камісіямі, як гэта мела месца ў другіх с.-с. раёну. Амаль такое становішча назіраецца ў працы іншых камісій пры сельсаветах. Матар'ялы сьведчаць, што лепш працавалі камісіі пры Старынкаўскім сельсавеце, пры якім маюцца 2 камісіі. Гэтыя камісіі за паўгода зрабілі 32 пасяджэньня і разглядзелі 120 пытаньняў. Як адмоўны бок працы гэтых камісій зьяўляецца тое, што яны з 120 пытаньняў вынесьлі на разгляд сельсавету толькі 10. Такім чынам па шмат вырашаных імі пытаньнях камісіі падмянялі сабою с.-саветы. Найгорш разгорнута была работа у камісіях Казьянскага і Дабейскага с.-саветаў. Пры кожным з іх мелася па 2 камісіі і ўсе гэтыя 4 камісіі за 6 месяцаў зрабілі толькі 2 пасяджэньня і разглядзелі 3 пытаньні.

### Праца груп беднаты.

Групы беднаты арганізаваны толькі пры 10 сельсаветах, а пры рэштцы с.-саветаў яны не арганізаваны. Усе групы беднаты за ўвесь тэрмін агляду работы зрабілі 70 пасяджэньняў. Калі параўнаць адбыўшыяся пасяджэньні групы беднаты з пасяджэньнямі пленумаў сельсаветаў, дык у сярэднім кожнае пасяджэньне групы беднаты адбывалося пе-

рад кожным пленумам. Аднак, сказаць гэтага нельга пра ўсе сельсаветы. Так напрыклад: у Старынкаўскім сельсавеце адбылося за 6 месяцаў 10 пленумаў, а група беднаты за гэты тэрмін зрабіла 18 пасяджэньняў, а ў Пагарэліцкім с.-савеце пленумаў за той-жа пэрыяд адбылося 7, а група беднаты склікалася ўсяго тры разы. Гэтыя факты гавораць, што не па ўсіх сельсаветах аднолькава зразумелі ролю і задачы груп беднаты на даным этапе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

### Праца грамадзкага кантролю.

Рэвізійнымі камісіямі па ўсіх сельсаветах Сіроценшчыны вытварана праверка дзейнасьці сельсаветаў 25 разоў, што ў сярэднім на кожны сельсавет прыпадае 2,4 раза.

На першы погляд гэтыя лічбы гавораць за здавальняючую пастаноўку работы грамадзкага кантролю. Аднак, калі заглянуць у кожны сельсавет паасобку, дык можна ўбачыць, што некаторыя рэўкамісіі яшчэ і да гэтага часу недастаткова разумеюць ролю і значэньне грамадзкага кантролю дзейнасьці сельсаветаў на сучасным этапе сацыялістычнага будаўніцтва. Пацьвярджэньнем гэтага зьяўляюцца такія факты, што з 25 праведзеных абсьледваньняў толькі 6 вынесена на абгаварэньне выбаршчыкаў, а рэшта рэвізійных актаў так і засталіся марынавацца ў справах сельсаветаў.

Калі ўзяць пад бальшавіцкі абстрэл дзейнасьць паасобныя рэўкамісіі, дык у першую чаргу на мушку пападаюць рэўкамісіі пры Пагарэліцкім і Казьянаўскім сельсаветах, з якіх першая за паўгода ледзь „выціснула“ адно абсьледваньне, а другая палічыла лепшым не прысылаць ніякіх зьвестак і гэтым захаваць сваю бязьдзейнасьць.

Аднэй з лепшых па пастаноўцы работы зьяўляецца рэвізійная камісія пры Старынкаўскім сельсавеце. Гэта камісія за 6 месяцаў зрабіла 8 разоў праверку работы сельсавету, але і ў яе не хапіла бальшавіцкае адвагі вынесьці знойдзеныя адмоўныя ці станоўчыя бакі працы с.-с. на абгаварэньне працоўных мас для разгортваньня вакол гэтага шырачэйшае крытыкі і самакрытыкі і збору прапаноў калгасьнікаў, батрацтва, беднаты і серадняцтва па сваечасоваму зьліквідаваньню маючыхся прарываў у паасобных галінах работы с.-с.

Аб меўшых месца прарывах у рабоце с.-с. Сіроценшчыны сьведчыць тое, што раён з адмоўнага боку пападаў некалькі разоў на старонкі друку „Беларуская Вёска“ за 16/VIII, „Савецкая Беларусь„ за 25/VIII і сводка хлебазагатовак на 20/X.

У пытаньні справаздачнасьці перад выбаршчыкамі ня надта прасунуліся наперад і самі сельсаветы. За паўгода па 11 сельсаветах праведзены справаздачы толькі па 40 выбарчых вучастках, пры чым 6 сельсаветаў і зусім не рабілі справаздач аб сваёй дзейнасьці. Такім чынам справа з разгортваньнем бальшавіцкай самакрытыкі абстаіць тут таксама дрэнна.

Падагульваючы ўсе пералічанае трэба сказаць, што сельсаветы Сіроцінскага раёну слаба правялі ў жыцьцё дырэктывы Партыі і Ураду аб умацненьні арганізацыйна-масавай работы, яны недастаткова ў сваёй рабоце апіраліся на калгасную і батрацка-бядняцкую грамадзкасьць, ня цалкам здолелі злучыць адміністрацыйныя мерапрыемствы з актыўнай арганізацыйна-масавою работай па залучэньню ўсёй працоўнай масы ў справу вырашэньня практычных задач калгаснага будаўніцтва і сваечасовага выкананьня палітычна-гаспадарчых кампаній.

Усё гэта з дастатковаю паўнатою гаворыць, што сельсаветы Сіроценшчыны яшчэ і да гэтага часу ня цалкам перабудавалі сваю работу на новыя формы, у адпаведнасьці з запатрабаваньнямі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і амаль не павярнуліся тварам да калгасаў. Частка сельсаветаў гэтага раёну (Казьянскі, Дабейскі, Міжневіцкі, Амбросаўскі і і інш.) адстае ад растучае актыўнасьці батрацка-бядняцкіх, калгасных і серадняцкіх мас і за гэтым ня здолела падняць сярод іх творчае энэргіі і энтузіязму на пасьпяховае заканчэньне праграмы другога году пяцігодкі і падрыхтоўкі да складаньня сустрэчных сельска-гаспадарчых плянӑў

па выкананьню праграмы трэцяга ра-шаючага году пяцігодкі.

У гэтых сельсаветах наглядаецца стаўка на самацёк у арганізацыйна-масавай рабоце, што зьяўляецца самым горшым відам апартунізму на практыцы.

Перабудова работы с.-с. на новыя сацыялістычныя формы зьяўляецца неадкладнаю і баявою задачаю ўсіх сельсаветаў. Перадавыя сельсаветы па прыкладу рабочых ударнікаў з прадпрыемстваў, павінны ўзяць на грамадзкі буксыр адстаючыя суседнія с.-саветы. Для хутчэйшага зьліквідваньня ўсіх перашкод, якія стаяць на шляху канчатковай перамогі сацыялізму, неабходна ўсім с.-саветам, вытворчым нарадам, групам беднаты, камісіям і інш. у сваёй практычнай рабоце ўжыць сацыялістычныя мэтады працы сацспаборніцтва, ударніцтва, грамадзкі буксыр, скрозныя брыгады ў калгасах і г. д.

Бясспрэчна, што ўноў абраныя склады с.-саветаў з лепшых ударнікаў рабочых, калгасьнікаў, батракоў, беднякоў і серадянкоў з гэтымі вялізарнейшымі задачамі справяцца, але большыя посьпехі будуць толькі пры той умове, калі яны будуць памятаць, што толькі наладжаная арганізацыйна-масавая работа дасьць магчымасьць сельсаветам з усёй рашучасьцю і непрымірымасьцю весьці барацьбу за клясава-вытрыманае вырашэньне сельсаветамі ўсіх пытаньняў. У часопісу „Саветы Беларусі" зьмешчана досыць кіруючых артыкулаў аб перабудове работы сельсаветаў на новыя формы. Гэтыя артыкулы кіруючаму складу сельсаветаў неабходна стала прапрацаваць з тым, каб шырэй ужываць у сваёй практычнай рабоце сацыялістычныя мэтады працы.

Пры ажыцьцяўленьні апошніх неабходна кіруючаму складу сельсавету дасканала растлумачыць на групах беднаты і пленумах с.-с., што пасьпяховае выкананьне задач, якія пастаўлены нашай партыяй перад с.-саветамі, будзе залежыць у значнай ступені ад таго, наколькі актыўна будуць удзельнічаць у яго рабоце ўсе працоўныя масы, а галоўным чынам члены сельсавета. Пры гэтым неабходна ўсім старшыням с.-саветаў дабіцца, каб усе члены с.-савету, групы беднаты, камісіі і сельска-гаспадарчыя вытворчыя нарады цалкам абвясьцілі сябе ўдарнікамі па прыкладнаму выкананьню ўсіх пастаноў сельсавета і РВК і выклікалі адны другіх на сацспаборніцтва.

Аб'ектамі ўдарніцтва і сацспаборніцтва на першых парах вызначыць такія моманты:

а) акуратнае бяз пропускаў наведваньне пленумаў і пасяджэньняў камісій і вытворчых нарад пры сельсавеце;

б) точнае і ў тэрмін выкананьне ўсіх пастаноў і даручэньняў як с.-с., так і камісій;

в) згуртаваньне вакол ударнікаў сельсавету ўсяго савецкага актыву шляхам арганізацыі і пэрыядычнага склікаьня вытворчых нарад з актыву на сваім выбарчым вучастку;

г) прапрацоўка самімі ўдарнікамі законаў савецкае ўлады, рашэньняў нашай партыі і растлумачэньня іх усяму працоўнаму сялянству;

д) абавязковая выпіска ўсімі ўдарнікамі газэт і часопісу „Саветы Беларусі", арганізацыі калектыўных рэгулярных чытак іх, дасылка ў часопіс допісаў і артыкулаў аб сваёй і працы сельсавета і вярбоўкі падпісчыкаў на іх сярод актыву і ўсіх працоўных;

е) кожнаму ўдарніку стаць ініцыятарам і важаком па арганізацыі новых калгасаў, або ўступіць у бліжэйшы калгас у час падрыхтоўкі да вясновае пасеўнае кампаніі.

**М. Байкаш.**

# Работа Вацлаваўскага сельсавета павінна быць перабудавана.

Пытаньне перабудовы работы сельсавета ў сувязі з шпаркім тэмпам рэканструкцыі ўсяе сельскае гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнае калектывізацыі, а таксама і ў сувязі з ліквідацыяй акруг, як прэзыдыумам сельсавета, так і паасобнымі членамі савета яшчэ з дастатковаю яскравасьцю ня ўцямлена.

Яшчэ і на сёньняшні дзень значнае месца ва ўсёй рабоце савета займаюць розныя дробезныя пытаньні, якія бясспрэчна затушоўваюць асноўныя галіны работы сельскага савета.

Калі гаварыць аб масавай рабоце, то яна амаль што адсутнічае. Члены прэзыдыуму сельсавета на гэты бок работы зьвяртаюць недастатковую ўвагу. Такія пасыўныя адносіны да масавай работы прывялі да таго, што сэкцыі сельсавета зусім бязьдзейнічаюць.

Плянавая работа з батрацтвам, беднатою, жанчынамі і наогул маючымся актывам на тэрыторыі сельсавета, ні кім не вядзецца, у выніку чаго заданьні па асноўным гаспадарча-палітычным кампаніям ня поўнасьцю выконваюцца.

Нічога добрага нельга сказаць і аб калектывізацыі, бо сельсавет не зьвяртае дастатковае ўвагі ў сваёй штодзённай рабоце як на арганізацыю новых, так і на пашырэньне і ўмацаваньне старага калгасу. Недастатковая ўвага зьвернута на выкананьне мерапрыемстваў па аграмінімуму, дзякуючы чаму гэтая работа ішла самацёкам і як далейшы вынік—плян па зяблеваму ворыву выканан на 22,5 проц., сіласаваньне на 13,8 проц. а па вапнаваньню і тарпаваньню глебы зусім нічога ня зроблена.

Вельмі дрэнна ідзе работа і па выкананьню плянаў хлебазагатовак і мабілізацыі сродкаў насельніцтва. Паступленьне страхоўкі, с.-г. падатку і самаабкладаньня ідзе самацёкам без прымяненьня якіх бы то ня было мер узьдзейнічаньня на злостных няплатнікаў. Распаўсюджаньне пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“ сярод сялянства праходзіць вельмі дрэнна (распаўсюджана ўсяго па плянаваму заданьню 18 проц.), а прыцягненьне вольных сродкаў сялянства ў касы ашчаднасьці і зусім сярод сялянства не папулярызавана.

Кантрактацыя зімовых хлябоў праведзена зусім слаба (закантрактавана 1,5 га). Палітасьветная работа, за адсутнасьцю хатніка, ні кім не вядзецца. Лікпункты яшчэ не приступілі да сваёй работы і наогул трэба сказаць, што у гэтым сельсавеце пытаньне аб усеагульным навучаньні і ліквідацыі няпісьменнасьці стаіць пад сур'ёзнаю пагрозаю зрыва.

Кіраўніцтва рознымі арганізацыямі, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельсавета, апошнім праводзіцца ня плянава, а ў большасьці ад выпадку да выпадку.

Неабходна, каб у бліжэйшы час сельсавет гэтыя недахопы зьнішчыў, а зьнішчыць іх магчыма толькі шляхам разгортваньня работы камісій сельсавета, дапамагаючы апошнім ў складаньні плянаў работ і пэрыядычна правяраючы ступень выкананьня гэтых плянаў.

Уся работа з батрацтвам, беднатою і жанчынамі павінна праводзіцца ў строга плянавым парадку, а на групах і сходах беднаты абгаварваць асноўныя гаспадарча-палітычныя пытаньні с.-с. Жанчын патрэбна ўцягваць ў штодзённую практычную работу савета як шляхам запрашаньня на паседжаньні прэзыдыуму і пленуму с.-с., так і шляхам прапрацоўкі розных пытаньняў на жаночых сходах і нарадах.

З свайго боку, прэзыдыум Вушацкага райвыканкому на гэты сельсавет павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу на наладжваньне ўсяе работы сельсавета і ў першую чаргу—на выкананьне важнейшых заданьняў партыі і Ураду БССР па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, па выкананьню плянаў: бульбазагатовак, хлебазагатовак, ільну, пянькі і ільнонасеньня.

Райвыканком павінен ведаць, што ў гэтым сельсавеце яшчэ ня поўнасьцю выяўлены кулацка-заможныя гаспадаркі, якія ўсялякімі спосабамі выкручва-

юцца ад выкананьня цьвёрдых заданьняў па правадзімых загатоўчых кампаніях.

Райінспэктура нарасьветы павінна паклапаціцца і прыняць усе захады да таго, каб усеагульнае навучаньне і ліквідацыя няпісьменнасьці сярод насельніцтва ў гэтым сельсавеце ня была сарвана.

Земаддзел, калгассаюз, райкапсаюз і крэдытнае таварыства з свайго боку павінны будуць узмацніць работу па інструктаваньню, а таксама і практычнай дапамозе сельсавету і калгасу ў наладжваньні работы і арганізацыі вытворчых аб'яднаньняў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на своечасовы і дастатковы водпуск належных крэдытаў.

С. Лодысеў.

## Як праходзіць падрыхтоўка да перавыбараў саветаў у Лельчыцкім раёне.

Падрыхтоўка да справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў па Лельчыцкаму раёну распачата своечасова. Пытаньне аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў было абгаворана на пленуме РВК 5/XI-г. г. з удзелам старшынь і сакратароў сельсаветаў, старшынь калгасаў, КСТУ і прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацый. У пастановах па дакладу аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў пленум адзначыў, што кампанія перавыбараў саветаў павінна прайсьці пад лёзунгам выкананьня задач, пастаўленых 16 зьездам УсеКП(б) і XIII зьездам КП(б)Б, пад лёзунгам узмацненьня работы па калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы, на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Справаздачная кампанія Саветаў распачата з 10 лістапада і павінна скончыцца 5 сьнежня. Перавыбары саветаў распачнуцца з 5 сьнежня і павінны скончыцца да 1 студзеня 1931 году. Справаздачы сельсаветаў адбываюцца на кожным выбарчым вучастку, пры чым на сходах беднаты, жанчын і моладзі справаздачы ставяцца асобна. У кожным сельсавеце зараз працуюць упаўнаважаныя РВК.

Трэба адзначыць, што ў сельсаветах вельмі дрэнна пастаўлена інфармацыя аб ходзе справаздачнай кампаніі. Да апошняга часу, ня гледзячы на неаднаразовыя напамінкі некаторыя сельсаветы нават не прадставілі ў РВК сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў. Атрыманыя зьвесткі ў РВК з Бунавіцкага с/с. гавораць аб тым, што справаздачная кампанія ў гэтым с/с. праходзіць добра. На сходах беднаты ў паасобных вёсках прысутнічае каля 90 проц. беднаты, на сходах жанчын каля 75-80 проц. выбаршчыкаў. Досыць высокі процант наведваньня сходаў выбаршчыкамі і ў Сіманавіцкім сельсавеце.

На справаздачных сходах асабліва заваструецца ўвага выбаршчыкаў на пытаньнях калектывізацыі. Кулацкія і падкулачніцкія элемэнты ўсімі мерамі імкнуцца сарваць мерапрыемствы па калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Член сельсавету в. Зладзіно Журовіч Сьцяпан ініцыятыўнай групе заявіў: „паспрабуйце арганізаваць калгас, пойдзеце разам з агнём“.

Пленум РВК пастанавіў дамагацца, каб у будучым складзе сельсаветаў Лельчыцкага раёну забясьпечыць максымальную колькасьць беднаты, батрацтва, калгасьнікаў і асабліва жанчын. Выбарчыя вучасткі па с/с. устаноўлены такім чынам, каб яны былі невялікімі, ахаплялі ня больш 150 выбаршчыкаў для забясьпечаньні 100 працантнай яўкі апошніх на выбарчыя сходы.

Некаторыя школы раёну прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўчай рабоце па перавыбарах с/с. шляхам пісаньня позваў, ўручэньня іх выбаршчыкам і г. д.

Я. М.

**Ад рэдкалегіі:** У задачу членаў сельсавету ўваходзіць ня толькі садзейнічаць справе разгортваньня калектывіза-

цыі сельскае гаспадаркі, а і быць ініцыятарамі і важакамі арганізацыі калгасаў.

Паколькі Журовіч Сьцяпан, як агент кулацтва, не апраўдаў давер'я бядняцкасераднядкіх мас свайго вучастку і выступае супроць накіраваных на палепшаньне становішча асноўных мас вёскі мерапрыемстваў партыі і савецкае ўлады, пагражаючы савецкім актывістым падпалам, справа аб ім накіравана ў пракуратуру рэспублікі. Лельчыцкаму РВК з свайго боку неабходна прыняць адпаведныя меры.

## Аб падрыхтоўцы да вясеньняй сяўбы ў Лельчыцкім раёне.

Райземаддзелам і Райкалгассаюзам Лельчыцкага раёну зараз распрацоўваецца плян вясеньняй пасеўнай кампаніі. Вясеньняя пасеўная кампанія павінна прайсьці пад знакам рашучага павароту ў бок калектывізацыі бядняцкасераднядкіх адзінальічных гаспадарак. У пляне вясеньняй сяўбы запраектавана пашырэньне калектывізацыі да 23 проц. гаспадарак тады, калі ў наяўнасьці маецца толькі 6,3 проц.

Па пытаньню адносна пасеўнай плошчы ідуць спрэчкі паміж Наркамземам і раённымі ўстановамі. Наркамзем БССР для Лельчыцкага раёну даў кантрольную лічбу вясеньняй плошчы пасеву 15000 га, не паведаміўшы на чым ён грунтаваўся, даючы такую лічбу.

Па тых дадзеных, якія ёсьць у раёне, у мінулую вясеньнюю пасеўную кампанію было засеяна 10360 га. Райземаддзел і Райкалгассаюз запраектавалі 12060 га вясеньняга пасеву ў надыходзячым годзе. Чые лічбы павінны быць прыняты—ці НКЗ, ці раённых установу—цяжка сказаць. Раённыя ўстановы кажуць, што ў раёне абсалютна няма ніякіх крыніц для такога пашырэньня (на 50 проц.) пасеўнай плошчы.

Ня гледзячы на тое, што плошча зямлі ў Лельчыцкім раёне ня ўлічана, што ёсьць значная колькасьць плошчы захаванай, а таксама і такой, якая ў вясеньнюю пасеўную кампанію можа быць дадаткова асвоена—усё-ж прыняць лічбы НКЗ, выходзячы з лічбаў раёну, немагчыма. З другога боку—Наркамзем, вызначаючы 15000 га плошчы вясеньняга пасеву для раёну, напэўна ня браў лічбаў з столі, а на чым небудзь грунтаваўся.

Пытаньне аб кантрольных лічбах плошчы вясеньняга севу павінна быць тэрмінова вырашана, бо гэта затрымлівае канчатковае складаньне і ўдасканаленьне пляну.

М.

**Ад рэдкалегіі:** Па гэтаму артыкулу даручана Наркамзему даць грунтоўнае тлумачэньне праз друк.

## Вясновая пасеўкампанія і задачы КСУ.

Як у час падрыхтоўчай працы да пасеўкампаніі, так і ў час яе правядзеньня, КСУ павінны ўлічыць мінулагодція памылкі і прыняць усе захады да таго, каб іх больш не паўтараць.

У веснавую пасеўкампанію мінулага году, мы мелі такое зьявішча, што КСУ падрыхтоўку да пасеўкампаніі распачалі з студзеня—лютага м-ца, з прычыны чаго асобныя галоўныя мерапрыемствы ў лепшым выпадку былі недавыкананы, а то і зусім ня выкананы. Калі ўзяць кантрольныя лічбы зарыхтоўкі насенных фондаў для раздачы ў час сяўбы бядняцкім гаспадаркам, дык гэтакія па БССР арганізацыямі КСУ выкананы толькі на 73,7 проц., а ў паасобных б. акругах, як Полацкай і Мазырскай пасеўкампанія па лініі КСУ была амаль што сарвана. Там мы мелі, што выкананьне кантрольных лічбаў па загатоўцы насеньня дасягала злачынна-недапу-

шчальных разьмераў, як напрыклад: у Рассонскім раёне—8 проц., Дрысенскім —19 проц., Боркавіцкім—20 проц., Пятрыкоўскім—29 проц., Лельчыцкім—42 проц. і г. д.

Гэтакае становішча мы мелі і з ачысткай насеньня, дзе дзякуючы безгаспадарлівасьці, збожжа-чысьцільныя машыны былі папсаваны і не працавалі (Лагойскі раён), або машыны КСУ былі зусім не нагружаны і мелі вялікія прастоі.

Зусім нездавальняюча была пастаўлена праца па працоўна-гужавой дапамозе ў час сяўбы бязконным бедняцкім гаспадаркам, а таксама грамадзкай запашкі зямлі саміх КСУ і зямель раскулачаных гаспадарак, дзе гэтакая перадавалася пад загад органаў узаемадапамогі.

Усе гэтыя недахопы КСУ павінны ўлічыць і падрыхтоўку да веснавой пасеўкампаніі павінны распачаць зараз-жа.

Падрыхтоўка да надыходзячай веснавой пасеўкампаніі і яе правядзеньне па лініі КСУ павінны прайсьці пад пунктам перабудовы ўсей работы КСУ у напрамку арганізацыі калгасаў, шырокага ўцягненьня ўсіх батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы, гаспадарча-арганізацыйнага замацаваньня існуючых і ўноў арганізаваных калгасаў, узмацненьня вытворчага каапэраваньня, арганізацыі прасьцейшых відаў сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў, аказаньне дапамогі калгасам, сельска-гаспадарчым аб'яднаньням і разам з гэтым усямернай дапамогі адзіналічным бядняцкім і бяднейшым серадняцкім гаспадаркам.

Для практычнага ажыцьцяўленьня азначаных гаспадарча-палітычных задач, КСУ павінны падняць на адпаведную палітычную вышыню ўсю сваю арганізацыйна-масавую работу, мабілізаваўшы ўсе батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы вакол асноўных паказчыкаў, прыстасаваўшы ўсю сваю работу насенна-грашовыя пазыкі, пракатныя пункты і працгуждапамогу так, каб усё гэта спрыяла пасьпяховаму выкананьню вызначаных мерапрыемстваў пры правядзеньні надыходзячай веснавой пасеўкампаніі.

КСУ зараз-жа павінны папулярызаваць сярод усей масы сваіх членаў усе гаспадарчыя мерапрыемствы, якія вызначаюцца для правядзеньня пасеўкампаніі —пашырэньне пасеўнай плошчы, асабліва за лік тэхнічных культур (лён, канаплі) падвышэньне ўраджайнасьці, ачыстка насеньня, вапнаваньне глебы, збор попелу і г. д.

Па свайму пляну пасеўкампаніі ЦК Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі вызначыў для правядзеньня па лініі КСУ у разрэзе кожнага раёна шэраг практычных гаспадарчых мерапрыемстваў.

Насенны фонд яравых культур павялічыць з 10927 тон да 13340 тон. Машынамі КСУ ачысьціць 30.000 тон насеньня. Пабудаваць новых 45 кузьняў-майстэрань, арганізаваць 150 новых пракатных пунктаў і маючыяся пракатныя пункты папоўніць машынамі на 25 проц.

Для аказаньня дапамогі, у час сяўбы бязконным бядняцкім гаспадаркам, удовам, сем'ям чырвонаармейцаў, арганізаваць—1447 новых працгуждружын і 2894 супрагі. Пры чым, кожная працгуждружына павінна як мінімум абслужыць 10 -15 гаспадарак, кожная кузьня-майстэрня павінна абслужыць ня менш 300 гаспадарак.

Павялічэньне насенных фондаў павінна ісьці галоўным чынам за рахунак мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў—гэта спагнаньне на 100 проц. насенных пазык, якія лічацца зараз за насельніцтвам, рэалізацыя ўраджая зьнятага з зем. вучасткаў КСУ і зямель раскулачаных гаспадарак, за лік атрыманьня працэнтаў за выдадзеную ссуду і праз куплю за наяўныя сродкі ў мясцовых арганізацый.

Выкананьню заданьня па загатоўцы насеньня КСУ павінны прыдаць самае сур'ёзнае значэньне, зараз-жа прыступіўшы да спагнаньня пазык і засыпкі з тым, каб не пазьней 15-га студзеня 1931 г. усю працу па загатоўцы насеньня скончыць.

Пабудову новых 45 кузьняў-майстэрань КСУ павінны скончыць да 1-га сакавіка 1931 г. Арганізацыя пракатных пунктаў павінна быць праведзена да красавіка—мая м-ца, пры чым укамплектаваньне новых пракатных пунктаў, а таксама і папаўненьне існаваўшых павінна ісьці галоўным чынам за лік больш складаных машын, як сеялкі, жаткі, касаркі, малатарні і інш. з тым, каб іх можна было выкарыстоўваць на буйных сельскіх гаспадарках у калгасах і сельска-гаспадарчых аб'яднаньнях.

Пытаньню ачысцы насеньня КСУ павінны ўдзяляць максымум увагі з тым, каб не дапусьціць тых недарэчнасьцяй, якія мелі месца ў мінулым годзе.

Для гэтага КСУ павінны зараз-жа скласьці каляндарныя пляны прасоўваньня збожжа-чысьцільных машын па насельніцкім пунктам і ўжо зараз прыступіць да ачысткі, узлажыўшы адказнасьць за наглядам машын, за недапушчэньне прастояў, або недагрузкі на аднаго з актывістых—членаў КСУ ці с.-савету і арганізаваць вакол гэтага ўсю грамадзкасьць.

Ня менш павінна быць зьвернута ўвагі ў пытаньні арганізацыі працгуждружын і супраг, як аднаму з галоўнейшых мерапрыемстваў у час правядзеньня сяўбы, для чаго камітэты ўзаемадапамогі павінны загадзя прыступіць да вярбоўкі ў гэтыя дружыны вясковага актыву і бядняцка-серадняцкіх мас, бяручы ў гэтым курс на выкарыстоўваньне камсамольскіх арганізацый.

У адносіне грамадзкай апрацоўкі зямель КСУ і зямель раскулачаных гаспадарак, якія ня могуць быць ахоплены калгасамі ў гэту пасеўкампанію, павінен быць унесен рашучы пераломубок поўнага абсемяненьня гэтых зямель праз сапраўдную грамадзкасьць і ні ў якім разе не прымяняць мэтада сдачы на часьці ў арэнду або апрацоўваць наёмнымі сіламі, як гэта мела месца ў мінулым годзе.

КСУ павінны зараз-жа праз сельсавет і калгасы выявіць усе вольныя землі з тым, каб загадзя распляноўваць гэтую працу і сваечасова прыступіць да абсемяненьня.

У адносіне збору попелу, КСУ павінны зараз-жа арганізаваць у кожным паселішчы спэцыяльныя хавальні з тым, каб ні адзін пуд попелу дарэмна не прападаў, а быў захован да вясны і выкарыстан на зямельных вучастках КСУ.

Кузьні-майстэрні КСУ зараз-жа павінны прыступіць да рамонта сельскагаспадарчага інвэнтару калгасаў і адзінаЛічных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак. Павінны правесьці вучот інвэнтару, які падлягае рамонту з тым, каб да пачатку сяўбы яго адрамантаваць. Разам з гэтым, КСУ павінны арганізаваць збор жалезнага лому для скарыстаньня ў кузьнях, маючы на ўвазе, недахоп жалеза.

У час правядзеньня веснавой пасеўкампаніі КСУ таксама не павінны ўпусьціць моманту па каапэраваньню бядняцкіх гаспадарак у розныя віды вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні. Для гэтай мэты зараз-жа неабходна правесьці дасканалы вучот бядняцкіх гаспадарак, падлягаючых каапэраваньню і прыняць усе захады да таго, каб цалкам выкарыстаць вызначаныя каапэрацыйнымі арганізацыямі фонды па каапэраваньню беднаты, адначасова вылучыць для гэтай мэты і з сваіх сродкаў 5 проц. ад налічаных членскіх узносаў.

Раённыя КСУ павінны зараз-жа ў адпаведнасьці з плянам ЦК Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі распрацаваць свае канкрэтныя пляны з давядзеньнем кожнага з гаспадарчых мерапрыемстваў да сельскіх КСУ, а апошнія павінны ў сваю чаргу пляны і мерапрыемствы давесьці да асобных паселішчаў і бядняцкіх гаспадарак з тым, каб той ці іншы бядняк загадзя ведаў, якая дапамога будзе яму аказана ў час пасеўкампаніі.

Пасьпяховае выкананьне ўсіх гэтых мерапрыемстваў, якія намячаюцца да правядзеньня ў час кампаніі па лініі КСУ будзе залежаць ад таго, як КСУ і асобныя работнікі аднясуцца да гэтай працы, як КСУ здолеюць мабілізаваць масу і свой актыў, як здолеюць выкарыстаць ініцыятыву мас, таму пытаньню мабілізацыі ўвагі мас на правядзеньне гэтай кампаніі, КСУ павінны ўдзяляць максымум энэргіі.

Уся як падрыхтоўчая праца да пасеўкампаніі, так і яе правядзеньне павінна праходзіць пад лёзунгам сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, што КСУ павінны шырока выкарыстаць, прыцягнуўшы да актыўнага ўдзелу ў гэтай кампаніі групы беднаты пры КСУ.

Для прэміраваньня лепшых ударнікаў па выкананьню заданьняў і мерапрыемстваў, раённыя КСУ павінны стварыць у сябе спэцыяльныя фонды ў разьмеры ня менш 200 руб.

Райвыканкомы і с.-саветы павінны ўдзяляць максымум увагі кіраўніцтву і практычнай дапамозе КСУ ў правядзеньні гэтай кампаніі, маючы на ўвазе,

што КСУ ў пасеўкампаніі павінны адыграць надзвычайна вялікую ролю ў правядзеньні ўсіх тых гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў, якія ставяцца партыяй і савецкай уладай на вёсцы.

Пры ўмовах максымальнай энэргіі КСУ і работнікаў пад кіраўніцтвам і практычнай дапамозе мясцовых партыйных арганізацый, КСУ з посьпехам выканаюць усе тыя задачы, якія на іх ускладаюцца у час правядзеньня пасеўкампаніі.

**П. Асіпчык.**

---

## Саветы і райвыканкомы на барацьбу супроць каляд, п'янства і хуліганства,—за арганізаваны труд.

Антыкалядная кампанія ў гэтым годзе саўпадае з часам пераходу да 3-га рашаючага году пяцігодкі, які высоўвае шэраг важнейшых гаспадарчых і палітычных задач. Антыкалядная кампанія павінна быць праведзена ў горадзе ў напрамку актыўнейшага ўдзелу арганізацыі СВБ у соцспаборніцтве і ўдарніцтве, замацаваньні труддысцыпліны, у барацьбе з разхлябанасьцю, прагуламі, у барацьбе за поўную пісьменнасьць насельніцтва, ўсеагульнае пачатковае навучаньне. У вёсцы антыкалядная кампанія мае на мэце актыўную дапамогу і практычны ўдзел арганізацыі СВБ у калектывізацыі вёскі, у рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, за ўзмацненьне існуючых калгасаў і ўтварэньне новых, у арганізацыі ўзорных ячэяк СВБ у саўгасах і калгасах.

У сувязі з абвастрэньнем супярэчнасьцяй між краінай будуючагася сацыялізму і сусьветным капіталам, у выніку напруджанага і ўсё павялічваючагася крызісу ў капіталістычных краінах, узросту беспрацоўя, уздыму рэвалюцыйнага руху і значнага павялічэньня моцы нашага саюзу, арганізацыям СВБ гораду і вёскі, неабходна асабліва завастрыць увагу шырокіх мас на падрыхтоўку сусьветным капіталам вайны супроць СССР і на тэй ролі, якую адыгрываюць у гэтай падрыхтоўцы рэлігійныя арганізацыі розных гатункаў, а таксама і на выяўленьне шкодніцкай ролі рэлігіі ўнутры нашай краіны. Разаблачаючы контррэвалюцыйную ролю ня толькі хрысьціянскай, але і ўсіх іншых рэлігій, неабходна мабілізаваць увагу працоўных на інтэрнацыянальнае выхаваньне, павялічэньне абароназдольнасьці краіны і на барацьбу за бязбожны быт.

Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на ўзросшую зараз актыўнасьць усіх рэлігійных арганізацый у замежных краінах. Гэтая актыўнасьць накіравана супроць камуністычнага рабочага руху і супроць СССР, як адзінай ў сьвеце пралетарскай краіны. Тут з надзвычайнай яскравасьцю вызначаецца дапасаваньне рэлігійных арганізацый да выкананьня тых задач, якія паставіла перад імі сусьветная буржуазія.

Царква ў руках сусьветнага капіталу зьяўляецца адным з магутных сродкаў барацьбы з камунізмам. Калі пачаўся эканамічны крызіс у Злучаных Штатах Амэрыкі, правадыр мракабесу ўсяго сьвету, папа Пій XI сказаў мільёнэрам: „Асьцярагайцеся, каб бальшавізм не распаўсюдзіўся ў Амэрыцы ў момант фінансавай дэпрэсыі і беспрацоўя“.

Камісія Фіша ўтвораная для апрацоўкі мерапрыемстваў па барацьбе з камунізмам у Амэрыцы, вельмі рашуча выступае ў абарону рэлігіі. Выступленьні шэрагу духоўнікаў на пасяджэньні гэтае камісіі паказваюць, колькі зьвярынай нянавісьці праяўляюць духоўнікі да камунізму і да СССР.

Усім вядомы падзеі, зьвязаныя з крыжовым паходам папы супроць СССР у пачатку гэтага году. Гэты паход папы пацярпеў крах. Пасьля гэтага царкоўнікі на час заспакоіліся, але потым зноў аднавілі свае выпады супроць СССР.

Лета 1930 году адзначана варожымі выступленьнямі супроць СССР з боку ангельскіх, нямецкіх, амэрыканскіх, польскіх і іншых духоўнікаў.

Цяпер папа Пій XI зноў выступае супроць СССР. Ён зьвярнуўся да ўсіх буржуазных дзяржаў з прапановай ўтварэньня адзінага фронту барацьбы супроць СССР. У сваёй адозве папа ўказвае, што для зьнішчэньня бальшавізму маецца толькі адзін сродак—гэта вайна; для падрыхтоўкі вайны папа прапануе склікаць сусьветную канферэнцыю капіталістычных краін.

Выступленьне папы зьяўляецца адзнакай абвастрэньня супярэчнасьцяй між СССР і капіталістычным сьветам. Выступленьне папы абавязвае нас яшчэ больш узмацніць сваю работу па сацбудаўніцтву, аддаваючы ўсе сілы на выкананьне 3-га году пяцігодкі, павялічэньня магутнасьці Чырвонай арміі і абароназдольнасьці краіны, каб у любы момант быць гатовымі адбіць удар, які рыхтуе супроць нас буржуазія і яе служкі—рэлігійнікі розных масьцей. Неабходна разаблачаць рэакцыйную ролю рэлігіі і паказваць яе актыўны ўдзел у справе падрыхтоўкі вайны супроць краіны сацыялізму.

Барацьба з рэлігіяй ні ў якім разе не павінна зводзіцца да кампанейскіх мэтадаў працы; яна павінна весьціся сыстэматычна, упарта і настойліва. Але гэта ня значыць, што кампаніям няма мейсца ў антырэлігійнай працы. Кампаніі ў практыцы партыйнай, савецкай і грамадзкай работы займаюць у нашай краіне надзвычайна важнае мейсца. Вось чаму і ў антырэлігійнай працы ад кампаніі мы ні ў якім разе не адмаўляемся, але, не адмаўляючыся ад кампаній, нам неабходна выкарыстаць іх для яшчэ большага ўзмацненьня нашай работы. Трэба зрабіць так, каб кожная кампанія зьвілася выхадным пунктам для далейшага разгортваньня і паглыбленьня антырэлігійнай працы.

XVI зьезд партыі даў прапанову аб неабходнасьці ўзмацненьня антырэлігійнай працы і замацаваньня дасягнутых посьпехаў у справе аслабаненьня мас ад рэакцыйнага ўплыву рэлігіі. Задача антыкаляднай кампаніі ў сувязі з тымі пастановамі будзе састаяць у тым, каб не дапускаць ніякіх ухілаў ад генэральнай лініі партыі ў антырэлігійнай рабоце у асаблівасьці ад недаацэнкі важнасьці бязбожнай працы. Неабходна ахапіць бязбожнай работай новыя масы працоўных, уцягнуць іх у СВБ і замацаваць на сталай бязбожнай працы.

У абставінах разгорнутага сацыялістычнага наступу, хуткіх тэмпаў індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі вёскі і ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі—у гэтых абставінах антырэлігійная прапаганда набывае ваяўнічы і палітычны характар.

У дні каляд папы, ксяндзы і сэктанты мабілізуюць усе свае сілы, яны рознымі спосабамі падаграваюць рэлігійныя настроі, робяць спробу аўладаць думкамі веруючых, падняць рэлігійныя пачуцьці да фанатызму, благаслаўляюць п'янку і абжорства і займаюцца супроцьсавецкай агітацыяй. У час рэлігійнага сьвята „каляды", працоўныя не парваўшыя з рэлігіяй, атрымліваюць рэлігійную атруту вялікімі дозамі, гэтая атрута зьмяншае іх клясавую сьвядомасьць і дае мажлівасьць больш лёгка рабіць шкодны ўплыў на працоўных. У дні каляд працоўныя атраўляюцца казкамі аб фантастычным нараджэньні хрыста і яго вучэньні аб міру на зямлі, кротасьці, цярплівасьці, думцы аб тагасьветным жыцьці і спасеньні душы. Духоўнікі вельмі спрытна выкарыстоўваюць гэтыя настроі. У дні каляд яны разьвіваюць шалёную агітацыю. Яны мабілізуюць весь рэлігійны актыў. Агітуюць у царквах, касьцёлах, малельнях пры выпадковых сустрэчах, агітуюць папы, ксяндзы, арганістыя, дзьяканы, дзячкі, рэгэнты, царкоўныя старасты і ўсе верныя слугі кулакоў і нэпманаў.

Да сьвята каляд духоўнікі рыхтуюцца вельмі старанна, галоўнымі памоцнікамі іх зьяўляюцца кулакі на вёсцы і нэпманы ў горадзе. Узьнятыя рэлігійныя настроі, падагрэтыя парамі гарэлкі дапамагаюць кулацка-папоўскай, ксяндзоўскай агітацыі. Сьвята каляды зьяўляюцца залатым сьвятам для кулакоў і духоўнікаў. Водка і рэлігія, гэтыя дзьве атруты заўсюды зьяўляліся сродкам клясавага ворага для адурманьваньня працоўных.

З калядамі як з іншымі рэлігійнымі сьвятамі неабходна весьці бязьлітасную барацьбу. Неабходна, каб рэлігійныя сьвята і перш за ўсё каляды і вялікдзень, дні мабілізацыі і агітацыі духоў-

нікаў, дні энэргічнага масавага аглупеньня серадняукоў і беднякоў і часам рабочых, якія не парвалі яшчэ з рэлігіяй, адышлі ў мінулае.

Тыя вялікія сродкі, якія ў дні каляд выплачваюцца папам, ксяндзам, сэктанцкім заправілам, самагоншчыкам, паядаюцца і прапіваюцца, гэтыя вялізарныя сродкі неабходна затраціць на палепшаньне нашае гаспадаркі, на ўсеагульнае навучаньне, на ліквідацыю няпісьменнасьці.

Неабходна, каб культкамісіі сельсавету падрыхтаваліся даць належны адпор на агітацыю кулакоў і іх хаўрусьнікаў—папоў, ксяндзоў, сэктанцкіх прапаведнікаў і іншых актыўных рэлігійнікаў. Гэты адказ павінен выразіцца ў павялічэньні актыўнасьці на фронце сацыялістычнага, гаспадарчага, культурнага і бытавога будаўніцтва.

Неабходна дабівацца, каб у дні каляд усе калгасьнікі, рабочыя і служачыя выходзілі на працу, каб у гэтыя дні яшчэ больш атрымалася сьвядомасьць аб тым, што рэлігія сапраўды замацоўвае старыя рабскія адносіны да працы, стары эксплёататарскі быт.

У дні каляд неабходна разьвярнуць агітацыю за калгаснае будаўніцтва, за пераход на шматпольле, за рацыянальную жывёлагадоўлю і інш.

Антыкалядная кампанія ў гэтым годзе саўпадае з кампаніяй перавыбараў саветаў.

Перавыбары саветаў будуць праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, калі кулацтва і іншыя капіталістычныя элемэнты будуць весьці актыўную барацьбу і будуць імкнуцца затармазіць рост сацбудаўніцтва і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Выбары новых саветаў, падбор людзей набывае асаблівую важнасьць зараз у пэрыяд разгорнутага сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі.

Для саюзу ваяўнічых бязбожнікаў кампанія перавыбараў савету набывае вялізарнае значэньне. Арганізацыі СВБ павінны прыняць актыўнейшы ўдзел у падборы людзей у саветы, аказваць дапамогу органам савецкае ўлады па ачышчэньні саветаў ад чуждых, нягодных элемэнтаў, у асаблівасьці ад ліц, непасрэдна зьвязаных з дзейнасьцю рэлігійных арганізацый. У час справаздачных і перавыбарчых сходаў сябры СВБ павінны разаблачаць шкодную дзейнасьць рэлігійных арганізацый і клясавую сутнасьць рэлігіі. У наказах абгаварваемых на сходах неабходна ўключаць патрабаваньні аб узмацненьні антырэлігійнай прапаганды на прадпрыемствах, установах, школах, вайсковых частках саўгасах, калгасах і інш.

Неабходна, каб сельсаветы разгарнулі агітацыю за ўступленьне ў шэрагі ваяўнічых бязбожнікаў працоўных, за ўзмацненьне ячэек СВБ, за ліквідацыю няпісьменнасьці.

На агітацыю духоўнікаў, за старую сям‘ю, за рабскія адносіны бацькоў да дзяцей, мужэй да жонак, адказам узмацненьнем і арганізацыяй дзіцячых ясьлей і розных дзіцячых установ. У дні каляд насьценныя газэты павінны быць насычаны антырэлігійным зьместам.

Ніякіх уступак рэлігійным забабонам! Ніякага згодніцтва з рэлігіяй!

Саветы і выканкомы работу ўсіх сваіх установ і арганізацый павінны праводзіць пад наступнымі лёзунгамі:

1. Усе сілы бязбожнікаў на выкананьне прамфінпляну.

2. Ніводнага бязбожніка не павінна быць па за-межамі ўдарных брыгад і сацспаборніцтва.

3. За суцэльную калектывізацыю, супроць кулака і яго апоры рэлігіі.

4. За ўсеагульнае навучаньне супроць цемры і рэлігіі.

5. Ніводнага калгасу, саўгасу і школы без ячэйкі СВБ.

6. Супроць шавінізму, нацыянальнае абмежаванасьці — за інтэрнацыянальнае бязбожнае выхаваньне.

7. Замест каляд—арганізаваны дзень працы.

8. Ударым па апартунізму і прымірэнцтву да яго і „левым“ загібам у антырэлігійнай працы.

9. Переверием школы ў ачагі камуністычнага бязбожнага выхаваньня.

10. Супроць рэлігійнага мракабесія—за марксызм і ленінізм.

11. За культурную рэвалюцыю супроць рабскіх перажыткаў старажытнасьці.

12. Актыўным удзелам у сацбудаўніцтве ўзмацнім бязбожны рух.

13. Ударніцтва і сацспаборніцтва лепшая зброя барацьбы з рэлігіяй.

14. Ніводнага прагульшчыка ў дні каляд.

15. На заклік папы і інтэрвэнтаў да барацьбы з СССР адкажам узмацненьнем абароназдольнасьці нашай краіны і Чырвонай арміі.

**Даўгаполаў.**

---

# Пастанова Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР

## пра нормы прадстаўніцтва ў Саветы і на зьезды Саветаў Беларускай ССР.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай ССР **пастанаўляе**: зацьвердзіць наступныя нормы прадстаўніцтва ў Саветы і на зьезды саветаў Беларускай ССР.

1. Сельскія і местачковыя саветы выбіраюцца з разьліку 1 дэпутат на 100 жыхароў данага сельскага савету.

2. Гарадзкія саветы выбіраюцца па нормах, вызначаных пастановай за 29 сьнежня 1928 г. (Збор З. БССР за 1928 год № 39, арт. 380).

3. Раённыя зьезды саветаў складаюцца з прадстаўнікоў усіх сельскіх і местачковых саветаў раёну з разьліку 1 дэлегат на 500 жыхараў раёну і з прадстаўнікоў гар. саветаў падпарадкаваных раённаму зьезду саветаў, а таксама з прадстаўнікоў фабрык і заводаў, якія знаходзяцца не ў гарадох, з прадстаўнікоў саўгасаў—з разьліку адзін дэлегат на 100 выбаршчыкаў.

4. На падставе 26 арт. Канстытуцыі БССР вызначыць наступны лік дэлегатаў ад Менскага, Віцебскага і Гомельскага гарадзкіх саветаў і ад паасобных раёнаў на X Усебеларускі Зьезд Саветаў.

Ад Менскага гарадзкога савету—35 дэлегатаў, Віцебскага—26 дэлегатаў і Гомельскага—23 дэлегаты.

Ад раёнаў: Азарыцкага 3 дэлегаты Аршанскага—11, Асіпавіцкага—3, Астрашыцка-Гарадзедцкага—3, Асьвейскага—3 Бабруйскага — 23, Багушэўскага — 4, Барысаўскага—14, Бешанковіцкага—5, Боркавіцкага—3, Брагінскага—4, Буда-Кашалёўскага—4, Быхаўскага—8, Бягомльскага—4, Бялыніцкага—5, Бярэзінскага—5, Веткаўскага—10, Ветрынскага—4, Віцебскага—9, Вульскага—4, Вушацкага—5, Высачанскага—3, Гарадокскага—7, Глускага—6, Гомельскага—10, Горацкага—7, Грэскага—4, Дрыбінскага—3, Дрысенскага—3, Дубровенскага—6, Жлобінскага—10, Журавіцкага—4, Жыткавіцкага—3, Заслаўскага—4, Камарынскага—3, Каралінскага—4, Капаткевіцкага—3, Кармянскага—5, Касьцюковіцкага—7, Клімавіцкага—9, Клічаўскага—3, Койданаўскага—5, Копыльскага—6, Копыскага—4, Коханаўскага—4, Краснапольскага—5, Круглянскага—4, Крупскага—4, Крычаўскага—4, Лагойскага—4, Лельчыцкага—3, Лепельскага—7, Лёзьнянскага—4, Лоеўскага—4, Лупалаўскага—7, Любаньскага—4, Ляднянскага—2, Магілёўскага—19, Мазырскага—9, Межанскага—3, Мсьціслаўскага—7, Нараўлянскага—4, Парыцкага—5, Петрыкоўскага—6, Плешчаніцкага—4, Полацкага—13, Прапойскага—4, Пухавіцкага—6, Рагачоўскага—11, Расонскага—5, Расьнянскага—3, Рэчыцкага—13, Самахвалавіцкага—5, Сеньненскага—6, Сіроцінскага—5, Слуцкага—10, Смалявіцкага—4, Стара-Дарожскага—5, Старобінскага—5, Суражскага—5, Сьвіслацкага — 3, Сьмілавіцкага—4, Талачынскага—5, Тураўскага—3, Уваравіцкага—5, Узьдзенскага—4, Халопеніцкага—4, Хойніцкага—4, Хоцімскага—4, Цэрахаўскага—7, Чавускага—6, Чарэйскага—5, Чачавіцкага—3, Чачэрскага—5, Чашніцкага—3, Чырвона-Слабодзкага—3, Чэрвенскага—5, Чэрыкаўскага—5, Шклоўскага—7 і Юравіцкага—2, а ўсяго на X Усебеларускі Зьезд Саветаў—637 дэлегатаў,

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

25 лістапада 1930 г. Гор. Менск.

# Пастанова Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР

## аб выніках Першай Усебеларускай Нарады Камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак.

Заслухаўшы даклад аб выніках Першай Усебеларускай нарады камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР адзначае, што ў сувязі з разгортваньнем сацыялістычнага будаўніцтва і ростам рабочае клясы значна павялічылася ўдзельная вага работніц у прамысловасьці (39%), узрасла актыўнасьць работніц і сялянак у рабоце саветаў і ў вырашэньні задач сацыялістычнага будаўніцтва.

Адначасова з гэтым Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту канстатуе, што работа наркаматаў, раённых выканаўчых камітэтаў і саветаў сярод работніц і сялянак яшчэ зьяўляецца недастатковай, асабліва ў галінах кваліфікацыі жаночай рабочай сілы, клясавага выхаваньня новых слаёў работніц, згуртаваньня актыўнасьці батрачак, беднячак, калгасьніц і серадначак вакол работы саветаў і калектывізацыі сельскай гаспадаркі і, асабліва, у галіне перабудовы быту ў адпаведнасьці з тэмпамі рэканструкцыі народнай гаспадаркі.

Улічваючы, што пасьпяховае выкананьне прамфінпляну ў значнай меры залежыць ад бытавога абслугоўваньня работніц, кваліфікацыі жаночай рабочай сілы, што разгортваньне сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі патрабуе большай згуртаванасьці калгасьніц, батрачак, беднячак і серадначак вакол работы па калектывізацыі і ўсёй работы саветаў, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР прапануе:

1. Вышэйшаму савету народнай гаспадаркі і Народнаму Камісарыяту працы разам з Цэнтральным саветам прафэсыянальных саюзаў Беларусі, на падставе матар'ялаў Першай Усебеларускай нарады бытавых камітэтаў распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па барацьбе з цякучасьцю жаночай рабочай сілы, у першую чаргу пры разгортваньні масавых культурна-бытавых установ на прадпрыемствах, таксама распрацаваць мерапрыемствы па клясаваму выхаваньню новых слаёў работніц, удзелу іх у выкананьні прамфінпляну і замацаваньні іх на пэўных прадпрыемствах да канца пяцігодкі.

2. Цэнтральнаму бытаваму камітэту разам з Цэнтральным саветам прафэсыянальных саюзаў правесьці дакладную праверку правільнасьці скарыстаньня бытавых фондаў (1/4% зарплаты „фубр", бытавыя фонды каапэрацыі, жылсаюзу і г. д.), з мэтай іх поўнага і своечасовага скарыстаньня на разгортваньне бытавых установ.

3. Райвыканкомам узмацніць кіраўніцтва работай бытавых камітэтаў і бытавых сэкцый сельскіх саветаў, шляхам падбору работаздольнага складу, неадкладнай праверкі іх работы і інструктаваньня, пастаноўкі дакладаў бытавых камітэтаў на пленумах раённых выканаўчых камітэтаў і скліканьня нарад бытавых сэкцый сельскіх саветаў. Утварыць вакол работы бытавых камітэтаў больш грамадзкасьці шляхам уцягненьня ў работу бытавых камітэтаў прафэсійных, камсамольскіх і грамадзкіх арганізацый.

4. Улічваючы слабую работу саветаў сярод жанчын-членаў саветаў і недастатковае вылучэньне іх на кіруючую работу ў саветы, даручыць Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК разам з Цэнтральным бытавым камітэтам распрацаваць пытаньне аб узмацненьні дзейнасьці саветаў у гэтай галіне, вызначыўшы для работніц-жанчын пэўную колькасьць пасад у саветах і выканкомах. Паказанае пытаньне ўнесьці на разгляд Прэзыдыуму ЦВК.

5. Адзначаючы, як недапушчальнае зьявішча тое, што некаторыя раённыя выканаўчыя камітэты ня прыслалі на Першую Усебеларускую нараду бытавых камітэтаў сваіх прадстаўнікоў, не-

каторыя-жа райвыканкомы імкнуцца абавязкі ў галіне работы сярод жанчын ускласьці на райжэнарганізатараў, даручыць Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК, разам з Цэнтральным бытавым камітэтам абсьледаваць работу саветаў і райвыканкомаў у галіне работы сярод жанчын у паказаных раёнах, паставіць іх справаздачы на пасяджэньнях Цэнтральнага бытавога камітэту, а часткова таксама на пасяджэньне Сакратарыяту і Прэзыдыуму Цэнтральнага выканаўчага камітэту, выклікаўшы для дакладаў старшынь адпаведных раённых выканаўчых камітэтаў.

6. Рэзалюцыі Першай Усебеларускай нарады бытавых камітэтаў накіраваць саветам і райвыканкомам, а таксама надрукаваць у часопісу „Саветы Беларусі", як кіруючы матар'ял па рабоце сярод жанчын.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту
БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту
БССР **А. Хацкевіч.**

5 сьнежня 1930 г., г. Менск.

## Пастанова Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР

### аб неравыбарах нарзасядацеляў сельскіх і народных судоў.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе:

1. Выбары народных засядацеляў сельскіх і народных судоў правесьці разам з перавыбарчай кампаніяй саветаў.

2. Прапанаваць райвыканкомам, сельскім саветам і выбарчым камісіям правесьці перавыбары народных засядацеляў сельскіх і народных судоў на падставе інструкцыі Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту
БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту
БССР **А. Хацкевіч.**

25-га лістапада 1930 г.
г. Менск.

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### аб парадку правядзеньня выбараў сельскіх (местачковых) судоў і народных засядацеляў для нарсудоў.

Згодна пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР за 25-XI-30 г. аб правядзеньні адначасова з выбарамі ў саветы і выбараў сельскіх (местачковых) судоў і нарзасядацеляў для нарсудоў, Народны Камісарыят Юстыцыі ў мэтах дапамогі пры правядзеньні гэтых выбараў прапануе кіравацца наступным.

1. Задачы органаў юстыцыі, у сучасны пэрыяд разгорнутага сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, заключаюцца ў самым рашучым падаўленьні спроб клясавага ворагу нанесьці шкоду сацыялістычнаму будаўніцтву і выхаваньні той часткі працоўных, якія па несьвядомасьці парушаюць законы і дырэктывы ураду.

2. Судовыя органы зьяўляюцца зброяй пралетарскай дыктатуры, а таму, асабліва у сучасны момант абвастрэньня клясавай барацьбы і рашучага выкарчоўваньня карэньняў капіталізму, падбор іх складу як з боку сацыяльнага, гэтак і клясавай вытрыманасьці, павінен быць прадметам усебаковага абгаварэньня самых шырокіх працоўных мас.

3. З маючыхся матар'ялаў угледжваецца, што пры выбарах народных засядацеляў у мінулыя гады на мясцох ня было ўдзелена дастатковай увагі на падбор кандыдатур у народныя засядацелі, сьледам чаго ў склад апошніх часам пападалі асобы, якія зьяўляліся няпрыгоднымі для выкананьня абавязкаў нарзасядацеля як па свайму сацыяльнаму становішчу, так і па сваёй малай клясавай сьвядомасьці.

Разам з гэтым вывучэньне сельскіх (местачковых) судоў сыгналізуе, што мінулыя іх выбары не заўсёды былі скарыстаны для уцягненьня новых пла-

стоў працоўнага насельніцтва для актыўнага ўдзелу ў савецкім будаўніцтве.

4. Пры правядзеньні надыходзячых выбараў сельскіх (местачковых) судоў і нарзасядацеляў для нарсудоў неабходна, каб іх кандыдатуры ўсебакова абмяркоўваліся папярэдне на прадпрыемствах і ва ўстановах у горадзе і на сходах беднаты і і калгасьнікаў у вёсцы з тым, каб у склад іх была ўцягнута большая колькасьць рабочых і батрацка-бядняцкай і актыўнай серадняцкай масы сялянства, у тым ліку калгасьнікаў. Абавязкова трэба прадугледзець пры гэтым прыцягненьне значнай колькасьці жанчын з складу работніц, батрачак і бяднячак і серадняччак-сялянак. Адначасова трэба таксама застанавіцца і на дастатковым удзеле ў складзе нарзасядацеляў ад вайсковых часьцей, дзе гэткія расквартэраваны.

Апроч таго, пры выбарах павінна быць звернута належная ўвага і на тое, каб абраным складам нарзасядацеляў было забясьпечана прадстаўніцтва нацыянальных меншасьцяў данага раёну.

5. Выбары сельскіх (местачковых) судоў і нарзасядацеляў праводзяцца пад агульным кіраўніцтвам выбарчых камісій і адбываюцца на тых жа сходах, дзе адбываюцца і выбары ў саветы, і пачынаюцца яны дакладам прадстаўніка суду (народнага ці сельскага) ці пракуратуры альбо сьледчага аб працы суду і яго задачах, пасьля чаго старшыня сходу пераходзіць ужо да выбараў кандыдатаў у сельскія (местачковыя) суды і кандыдатаў у склад нарзасядацеляў нарсудоў.

## А. Аб выбарах сельскіх і местачковых судоў.

6. Сельскія (местачковыя) суды арганізуюцца пры кожным сельскім ці местачковым савеце.

7. Народныя засядацелі сельскага (местачковага) суду абіраюцца ў ліку 12 асоб на выбарчых вучастках з грамадзян, якія жывуць на тэрыторыі данага сельскага (местачковага) савету і маюць выбарчыя правы, і зацьвярджаюцца яны пленумам сельскага (местачковага) савету.

Калі-ж сельскі (местачковы) савет мае больш 12 выбарчых вучасткаў, дык лік народных засядацеляў для сельсуду павялічваецца да колькасьці выбарычх вучасткаў данага сельсавету.

8. Старшыня і намесьнік старшыні суда выбіраюцца пленумам сельскага (местачковага) савету з ліку яго (сельсавету) членаў і зацьвярджаюцца райвыканкомам.

9. У мэтах больш лепшага абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяў працоўных на іх роднай мове пры нацыянальных сельскіх (местачковых) саветах абіраюцца нацыянальныя сельскія (местачковыя) суды.

10. Адвод абраных кандыдатаў у народныя засядацелі сельскіх (местачковых) судоў і вырашэньне скарг па адводам робіцца пленумам сельскага (местачковага) савету пры зацьвярджэньні сьпісаў засядацеляў.

11. Старшыня сельскага (местачковага) суду і яго намесьнік пасьля зацьвярджэньня іх РВК (п. 8 інстр.) склікаюць нарзасядацеляў гэтых судоў згодна сьпісу, зацьверджанаму пленумам сельскага (местачковага) савету, і знаёмяць іх з палажэньнем пра сельскія (местачковыя) суды, устанаўліваюць дні судовых пасяджэньняў сельскага (местачковага) суду (не радзей аднаго разу ў дэкаду), а таксама чаргу нарзасядацеляў для ўдзелу іх у судовых пасяджэньнях па 2 чал. на кожнае пасяджэньне, апроч старшыні, згодна палажэньня пра сельскія (местачковыя) суды.

## Б. Аб выбарах народных засядацеляў нарсудоў.

12. Кіраваньне выбарамі і складаньне сьпісаў народных засядацеляў ускладаецца ў раёнах на адпаведныя раённыя камісіі па выбарах у саветы і ў гарадох, не падпарадкаваных РВК (Менску, Віцебску і Гомелю),—на адпаведныя гарадзкія камісіі па выбарах у саветы.

Безпасрэднае-ж правядзеньне выбараў у народныя засядацелі ўскладаецца на тыя выбарчыя камісіі, якімі праводзяцца на мясцох выбары ў саветы.

13. Агульныя сьпісы народных засядацеляў для кожнага гарадзкога, раённага і нацыянальнага вучастку народнага суду павінны быць складзены паводле арыентыровачнага разьліку па 2 чал. на кожныя 15 спраў, выходзячы з агульнага гадавога паступленьня спраў у даны нарсуд за мінулы год.

14. На раённыя (гарадзкія) камісіі ўскладаецца абавязак разьмеркаваньня падлягаючага абраньню ліку нарзасядацеляў па паасобных выбарчых камісіях пры сельсаветах, якія ў сваю чаргу вызначаюць лік нарзасядацеляў, падлягаючых абраньню на даным выбарчым вучастку.

15. Паводле дзейнічаючага палажэньня аб судабудаўніцтве народнымі засядацелямі могуць быць усе працоўныя грамадзяне, якія пражываюць на тэрыторыі БССР і не пазбаўлены выбарчых правоў у саветы.

Ня маюць права быць народнымі засядацялямі асобы, апарочаныя па суду, альбо выключаныя з грамадзкіх і прафэсыянальных арганізацый пастановамі апошніх за ганебныя ўчынкі і паводзіны.

16. Перад выбарамі старшыня сходу агалашае на сходзе да ведама абіральнікаў аб ліку падлягаючых абраньню нарзасядацеляў і растлумачвае аб правох і абавязках апошніх.

Калі-ж на павестку дня па гэтаму пытаньню пастаўлен спэцыяльны даклад каго-небудзь з прадстаўнікоў суду або пракуратуры аб працы судовых органаў, то вышэйпаказаны абавязак растлумачэньня абіральнікам аб правох і абавязках народных засядацеляў ускладаецца на гэтых прадстаўнікоў суду ці пракуратуры.

17. Сьпісы абраных кандыдатаў у народныя засядацелі вывешваюцца органамі, якія кіруюць выбарамі, да агульнага ведама ў памяшканьні заводаў, фабрык, установ, рабочых клюбах, сельскіх і местачковых саветаў і т. п.

На працягу 5-ці дзён кожны працоўны мае права заявіць, паказанай у папярэднім 12 пункце гэтае інструкцыі выбарчай камісіі, якою праводзяцца на мясцох выбары ў саветы, матываваны адвод супроць паасобных кандыдатаў.

18. Па зыходзе 10-ці дзён ад дню вывешваньня сьпісаў, гэтыя сьпісы асоб, выбраных у народныя засядацелі, накіроўваюцца ў адпаведную раённую (гарадзкую) камісію па выбарах у саветы (абзац 1-ы пункту 12-га інструкцыі) разам з адводамі, якія былі заяўлены супроць паасобных кандыдатаў.

Па атрыманьні гэтых сьпісаў раённыя (гарадзкія) камісіі выключаюць з паданых сьпісаў асоб, якія па закону ня могуць быць народнымі засядацелямі, а таксама тых, адводы супроць якіх прызнаны важнымі.

19. Асобы, выключаныя са сьпісаў кандыдатаў у народныя засядацелі, маюць права падаць скаргу у прэзыдыум гарадзкога савету альбо раённага выканаўчага камітэту па належнасьці, рашэньні якіх органаў лічацца канчатковымі.

20. Зацьверджаныя прэзыдымамі адпаведных райвыканкомаў, а ў гарадох, не падпарадкаваных РВК (Менску, Віцебску і Гомелю), прэзыдыумамі адпаведных гарсаветаў сьпісы народных засядацеляў накіроўваюцца па належнасьці ў адпаведныя нарсуды.

21. Для ўдзелу ў правядзеньні выбараў сельскіх (местачковых) судоў і нарзасядацеляў для нарсудоў выбарчыя камісіі шырока прыцягваюць працаўнікоў усяе судовае сыстэмы (нарсудзьдзя, сьледчы, пракурор).

22. Пасьля скканчэньня перавыбарчай кампаніі ў Народны Камісарыят Юстыцыі неадкладна павінны быць паданы раённымі (гарадзкімі) камісіямі кароткія справаздачы аб ходзе перавыбараў, удзеле ў кампаніі мясцовых арганізацый і актыўнасьці працоўных на выбарах з улікам галоўных прапаноў з боку працоўных, дадзеных на выбарчых сходах, па палепшаньню працы органаў юстыцыі і, апроч таго, павінны быць дасланы таксама зьвесткі як аб складзе абраных сельскіх (местачковых) судоў, так і народных засядацеляў для нарсудоў паводле форм, якія будуць пасланы, асобна ў дадатак да гэтай інструкцыі.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Старшыня Вярхоўнага Суду БССР **Валасевіч.**

26 лістапада 1930 г. № 91.

## Рэзалюцыі Першай Усебеларускай Нарады Бытавых Камітэтаў. 1. Па дакладу тав. Хацкевіча аб перавыбарах саветаў і ўдзелу жанчын.

Заслухаўшы даклад тав. Хацкевіча аб перавыбарах саветаў і ўдзеле жанчын, Усебеларуская Нарада Камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак адзначае:

Важнейшая масавая палітычная кампанія перавыбараў саветаў будзе праводзіцца ва ўмовах пасьпяховага выкананьня пляну сацыялістычнага будаўніцтва, пры вялікім уздыме творчай ініцыятывы рабочае клясы, шляхам шырока разгорнутага сацыялістычнага спаборніцтва, ударніцтва, сустрэчнага прамфінпляну і вытворчых манэўраў, уздыму новай хвалі актыўнасьці мас сялянства да калектывізацыі сельскай гаспадаркі, што забясьпечвае выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады. Разам з гэтым перавыбары будуць праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, выклікаемай палітыкай рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і ўсё ўзрастаючай ваеннай небясьпекі з боку капіталістычных дзяржаў, шукаючых выхаду з эканамічнага крызісу ў падрыхтоўцы вайны супроць СССР.

Асноўнымі задачамі перавыбарчай кампаніі саветаў зьяўляюцца: мабілізацыя працоўных на выкананьне пяцігадовага пляну ў чатыры гады, на барацьбу і перамогу цяжкасьцяй сацыялістычнага росту, павышэньня актыўнасьці працоўных мас на разгортваньне сацспаборніцтва, вытворчых манэўраў, высоўваньня і выкананьня сустрэчнага прамфінпляну, на рашучы адпор усякім спробам правых апартуністых і іх саюзьнікаў „зьлева“ спэкуляваць на часовых цяжкасьцях гіганцкага росту, згуртаваць увагу працоўных вакол праверкі работ саветаў, пры разгорнутай крытыцы і самакрытыцы узьняць на вышэйшую ступень кіруючую ролю саветаў у справе сацыялістычнай рэканструкцыі прамысловасьці і калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Таму належная падрыхтоўка да перавыбараў саветаў усіх слаёў працоўных, асабліва працоўных жанчын, як больш адсталых у сваёй масе, зьяўляецца адной з важнейшых задач.

Апошнія перавыбары саветаў далі значнае павялічэньне работніц і сялянак як у выбарах, так і ў складзе саветаў—яўка жанчын на выбары даходзіла да 42,7% усіх выбаршчыц, павялічэньне работніц у складзе гарсаветаў да 23,5 проц., сялянак у складзе сельскіх саветаў—да 19,5 проц., членаў райвыканкомаў—да 19,7 проц., членаў ЦВК—17%, у складзе старшынь сельсаветаў 122 жанчыны, або 7,4 проц., жанчын старшынь гарсаветаў—3, старшынь райвыканкомаў—5.

Ня гледзячы на некаторыя дасягненьні па падрыхтоўцы жанчын—членаў саветаў праз акруговыя і цэнтральныя курсы, саветы ня ўсюды выканалі дырэктывы па ўзмацненьні работы сярод работніц і сялянак—членаў саветаў праз скліканьне сельскіх і раённых нарад жанчын—членаў саветаў, для дзелавой падрыхтоўкі іх і напраўленьня іх актыўнасьці на арганізацыю акаляючай масы наогул, і асабліва работніц і сялянак і да ўдзелу ў выкананьні чарговых палітычных і гаспадарчых кампаній. Ня ўсе жанчыны—члены саветаў ліквідавалі сваю няпісьменнасьць, значная частка ня мела канкрэтнай нагрузкі, недастаткова было кіраўніцтва, нячулыя і няўважлівыя адносіны з боку паасобных РВК, гарадзкіх і сельскіх саветаў ды вылучаных на кіруючую працу ў саветы, у зьвязку з чым маецца вялікі адсеў жанчын—старшынь сельскіх саветаў (з абраных 122 засталося на працы 64, з 5 старшынь РВК засталося—1).

Ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, варожыя элемэнты спрабуюць скарыстаць адсталыя жаночыя масы як для правядзеньня сваіх кандыдатур у саветы, так і ў мэтах зрыву перавыбараў саветаў, таму перад саветамі і ўсёй грамадзкасьцю стаіць задача узьняцца актыўнасьці работніц і працоўных сялянак да ўдзелу іх у перавыбарах і арганізаванага адпору клясава-варожым элемэнтам у час перавыбараў.

Уся падрыхтоўчая работа павінна быць увязана з задачамі мабілізацыі актыўнасьці работніц на выкананьне прамфінпляну, удзелу ў сацыялістыч-

ным будаўніцтве, у вытворчых манэўрах, арганізацыі сустрэчнага прамфінпляну, мабілізацыі актыўнасьці батрачак, бяднячак, калгасьніц і серадняччак на пашырэньне і замацаваньне калгаснага будаўніцтва, на арганізацыю быту і павышэньне вытворчасьці працы ў калгасах.

На падставе вышэйпаказанага, Усебеларуская нарада камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы жанчын да перавыбараў:

1. Склікаць гарадзкія канфэрэнцыі работніц, дэлегатак, актывістак па пытаньнях: а) аб перавыбарах саветаў і ўдзелу работніц; б) аб трэцім годзе пяцігодкі і ўдзелу работніц ва ўдарніцтве і выкананьні прамфінпляну.

2. Правесьці гарадзкія, сельскія і раённыя нарады жанчын—членаў саветаў і дэлегатак-практыкантак, прымацаваных да саветаў з абгаварэньнем наступных пытаньняў: а) аб перавыбарах саветаў; б) аб калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ўдзелу жанчын у чарговых гаспадарчых і палітычных кампаніях і в) даклад жанчын-сяброў с.-с. аб іх рабоце.

3. Склікаць раённыя канфэрэнцыі батрачак і сельска-гаспадарчых работніц, правеўшы своечасовую работу па выяўленьні і падрыхтоўцы лепшых кандыдатур батрачак у саветы з мэтай максымальнага павялічэньня іх у складзе саветаў і на іншых выбарчых пасадах (сельсаветы, сельсуды, рэўкамісіі і г. д.), а таксама і на кіруючай працы. Адначасова пры правядзеньні падрыхтоўчай работы з беднатой зьвярнуць увагу на максымальны ўдзел жанчын-батрачак, бяднячак і хатніх працаўніц.

4. Прафсаюзам і шэфтаварыствам арганізаваць брыгады работніц для дапамогі ў падрыхтоўцы сялянак да ўдзелу ў перавыбарах саветаў.

5. Белжылсаюзу склікаць масавыя сходы жанчын жонак рабочых і працоўных па ЖАКТ'ах, абгаварыўшы пытаньне аб перавыбарах саветаў і ўдзелу жонак рабочых у перавыбарах.

6. На кожным выбарчым вучастку да пачатку перавыбараў правесьці падрыхтоўчы жаночы сход, паставіўшы мэтай 100 проц. яўку жанчын на выбарчыя сходы.

7. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на поўны ахоп сталай падрыхтоўчай працай працоўных жанчын нацменшасьцяй шляхам склікаяньня спэцыяльных масавых сходаў жанчын гэтых нацыянальнасьцяй.

8. Для забясьпечаньня магчымасьці ўдзелу жанчын у перавыбарах, бытавым камітэтам і сэкцыям арганізаваць адпаведныя ясьлі і дзіцячыя пакоі, прыцягваючы сродкі самога насельніцтва (каапэрацыі, КСУ, саветаў і ініцыятыву камсамольскай, піанэрскай арганізацый, школ і дзіцячых установаў). Наркамасьветы, Наркамахоўвыздароўя даць загад аб прыстасаваньні работы дзіцячых установаў, каб забясьпечыць удзел работніц (калгасьніц і сялянак) у справаздачна-перавыбарчых сходах.

У справаздачах саветаў павінны быць адлюстраваны вынікі работы саветаў па разгортваньні сеткі бытавых установаў, работы па палепшаньні быту і працы работніц і сялянак, па вылучэньні работніц і сялянак на кіруючую працу ў саветах і ўцягненьні работніц і сялянак у правядзеньні масавай работы саветаў.

У наказах саветаў павінны быць унесены канкрэтныя прапановы па разгортваньні бытавых установаў, уцягненьні работніц і працоўных сялянак у работу саветаў і вытворчыя віды каапэрацыі.

9. З мэтай папулярызаваць працу жанчын у саветах сярод насельніцтва паставіць справаздачы альбо садаклады жанчын—членаў саветаў на тых выбарчых вучастках, дзе яны працавалі, прыняўшы адпаведныя захады да належнай падрыхтоўкі іх да справаздачы, а таксама сачыць за пэрыядычнай справаздачнасьцю перад выбаршчыкамі жанчын—членаў саветаў.

10. Саветам прыняць удзел у падрыхтоўцы і папулярызацыі клясава-вытрыманых кандыдатур з работніц, батрачак, калгасьніц і працоўных сялянак да выбару ў саветы на кіруючую працу, а таксама і другія выбарчыя пасады (сельсуд, рэўкамісіі, упаўнаважаныя і інш.). Паставіць мэту давесьці процант жанчын у выбарчую кампанію 1930-31 г. у сельсаветах да 25-30 проц. і ў складзе гарсаветаў—да 30-35 проц.

11. Лічыць неабходным пашырыць колькасьць пасад для жанчын у выбарчых органах і прасіць Прэзыдыум ЦВК БССР даць належныя паказаньні аб гэтым.

12. Усю працу па падрыхтоўцы працоўных жанчын да перавыбараў праводзіць пад знакам сацыялістычнага спаборніцтва паміж саветамі і бытавымі камітэтамі і дэлегацкімі сходамі за лепшую масавую падрыхтоўку жанчын, за найлепшы процант яўкі, ставячы перад сабой мэту 100 проц. яўку работніц і сялянак на перавыбары.

---

## 2. Па дакладу аб удзеле жанчын у калгасным будаўніцтве.

1. Толькі рашучае правядзеньне генэральнай лініі партыі і бязьлітасная барацьба з ухіламі ад генэральнай лініі партыі, асабліва барацьба з правым ухілам, які адбівае і забараняе інтарэсы кулацтва, які ставіць сваёй мэтай стрымліваньне тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, а таксама барацьба з „лявацкімі“ загібамі—забясьпечыла нябывалы высокі тэмп росту індустрыялізацыі краіны і вялізарныя посьпехі ва ўсім сацыялістычным будаўніцтве.

Ужо дасягнутыя посьпехі ў індустрыялізацыі краіны, стварылі неабходныя ўмовы для разгортваньня работы па сацыялістычнай пабудове сельскай гаспадаркі, для пераходу ад палітыкі абмежаваньня росту капіталістычных элемэнтаў да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, на аснове суцэльнай калектывізацыі.

2 Шпаркі тэмп будаўніцтва прамысловасьці і калектывізацыі сельскай гаспадаркі ствараюць паступова неабходныя формы для ліквідацыі векамі

існаваўшых эканамічнай і культурнай розьніцы паміж горадам і вёскай і розьніцы ва ўмовах працы ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы.

Перабудова дробнай індывідуальнай бядняцка-серадняцкай гаспадаркі ў буйную калектыўную стварае шырокія магчымасьці для больш поўнага скарыстаньня жаночай працы для ўцягненьня жанчын-калгасьніц у практычную работу па кіраўніцтву гаспадаркай і дае магчымасьці паступова палепшаць эканамічныя і бытавыя ўмовы шматлікіх жаночых мас.

3. Нарада адзначае, што ў выніку пераважнасьці калектыўнае гаспадаркі над дробнай індывідуальнай, якая (пераважнасьць) ужо выявіла ў першым годзе калектыўнае гаспадаркі (ураджай у калгасах на 20 проц. вышэй ураджайнасьці індывідуальных гаспадарак, а таварнасьць—у 1½ разы)—эканамічныя і бытавыя ўмовы калгасьніц ужо значна лепшыя ў параўнаньні з эканамічным і бытавым становішчам сялянак у індывідуальнай гаспадарцы.

Палепшаньне эканамічных і бытавых умоў калгасьніц садзейнічае росту актыўнасьці і сьвядомасьці іх і большаму ўдзелу ў працы і кіраўніцтве калгаснае гаспадаркі.

Колькасьць жанчын у кіруючых органах за апошнія гады павялічылася да 11,1 проц. Жанчыны-калгасьніцы ў ліку падрыхтаваных масавых кадраў за мінулы год складаюць 22,6 проц. Значна пашыралася сетка дзіцячых ясьляў, пляцовак і сталовак.

4. Аднак, нарада канстатуе, што скарыстаньне жаночай працы ў калгасах і каапэрацыйных арганізацыях, а таксама палепшаньне культурна-бытавых умоў адстае ад тэмпу калгаснага будаўніцтва. Асабліва слаба выконваюцца дырэктывы партыі і ўраду аб вылучэньні жанчын-калгасьніц на кіруючую гаспадарчую работу ў калгасах.

Выходзячы з таго, што замацаваньне маючыхся посьпехаў у галіне сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі і далейшым разьвіцьці калгаснага руху, а таксама посьпехі работы калгасных і савецкіх органаў цесна зьвязана з ступеньню ўцягненьня і ўдзелам жанчын-калгасьніц і што ўсякая недаацэнка значэньня гэтай работы можа зьявіцца буйнейшай перашкодай у справе сацыялістычнай перабудовы вёскі, нарада лічыць неабходным:

1) Райкалгассаюзам дабіцца максымальнага скарыстаньня жаночай працоўнай сілы ў калгасах, шляхам уцягненьня жанчын ва ўсе галіны вытворчасьці гаспадаркі, рашуча ліквідуючы выпадкі скарыстаньня жаночай працы толькі ў паасобных галінах гаспадаркі. Больш поўнае скарыстаньне жаночай працы будзе садзейнічаць павялічэньню рабочых рук у калгасе і стварэньню ўмоў для адходніцтва.

2) Пры падрыхтоўцы кадраў на працягу 1931 г. забясьпечыць большае ўцягненьне калгасьніц ва ўсе віды падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на неабходнасьць павялічэньня жанчын пры падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў, як трактарыстыя, кіраўнікі асобных галін гаспадаркі і г. д. Неабходна забясьпечыць ня менш 40—50 проц. жанчын у ліку падрыхтоўваемых кадраў.

3) Неабходна на працягу зімовага пэрыяду, шляхам арганізацыі спэцыяльных гурткоў правесьці работу па ліквідацыі агранамічнай і зоатэхнічнай няпісьменнасьці калгасьніц.

Райкалгассаюзы і праўленьні калгасаў павінны шырока прыцягнуць жанчын да ўдзелу ў працы вытворчых нарад у калгасах. Райкалгассаюзы павінны сыстэматычна праводзіць раённыя вытворчыя нарады калгасьніц па асобных галінах гаспадаркі (нарады кіраўнікоў жывёлагадоўчай, сьвінаводнай, трусаводнай і інш. галінах гаспадаркі калгасаў).

4) Райкалгассаюзы і раённыя бытавыя камісіі цэнтр сваёй работы сярод калгасьніц павінны перанесьці на ўсямернае разгортваньне сьвінагадоўлі, жывёлагадоўлі, птушкаводзтва, трусаводзтва і інш., дзе асабліва магчыма шырока выкарыстаць жаночы труд і павялічыць прыбытковасьць гаспадаркі.

5) У прадстаячую перавыбарчую кампанію праўленьням калгасаў забясьпечыць вылучэньне жанчын-калгасьніц у кіруючыя органы калгасаў (праўленьні, рэўкамісіі) ня менш 25 проц. з такім разьлікам, каб вылучэньне ішло за лік актыўных калгасьніц, праявіўшых сябе на рабоце ў калгас-каапэрацыйных арганізацыях, а таксама лепшых ударніц-кіраўніц брыгад, кіраўніц асобнымі галінамі гаспадаркі і г. д.

Апрача непасрэднага вылучэньня актыўных калгасьніц у органах кіраўніцтва самаго калгасу, неабходна шырока практыкаваць больш сьмелае вылучэньне калгасьніц на кіруючую гаспадарчую работу ў калгасах, як-та: брыгадзіры, кіраўнікі галінамі гаспадаркі з такім разьлікам, каб у сельска-гаспадарчых галінах, дзе ў асноўным прымяняецца жаночы труд, як правіла, былі замешчаны калгасьніцамі.

6) Кіруючым калгасным органам неабходна ў бліжэйшы час ліквідаваць маючыяся выпадкі, калі за аднолькавую працу мужчын і жанчын калгасьнікаў праца жанчын-калгасьніц расцэньваецца ніжэй.

7) Задача далейшага разгортваньня калгаснага руху патрабуе ўзьняцьця на належную вышыню мерапрыемстваў бытавога характару (яслі, дзіцячыя пляцоўкі, сталоўкі і г. д.). Неабходна забясьпечыць неабходнымі кадрамі кіраўнікоў бытавыя ўстановы, ад чаго ў значнай ступені залежыць якасьць працы саміх установ.

Раённыя бытавыя камісіі і Райкалгассаюзы павінны забясьпечыць сыстэматычным кіраўніцтвам работай бытавых камісій у калгасах, ажывіць іх дзейнасьць і зрабіць у сапраўднасьці дзейнічаючымі органамі па палепшаньні быту і працы жанчын-калгасьніц.

8) Нарада лічыць неабходным пашырыць сетку дзіцячых дашкольных установ у калгасах на будучы год з такім разьлікам, каб усе спэцыялізаваныя калгасы былі забясьпечаны ясьлямі і дзіцячымі пляцоўкамі, а таксама неабходна палепшыць якасьць працы ў гэтых калгасах. Райкалгассаюзам і бытавым камітэтам прасачыць за правільным адлічэньнем і сваечасовым скарыстаньнем калгасных сродкаў, адлічаемых на культ-бытавыя патрэбы.

9) Калгасным органам неабходна арганізаваць правядзеньне сталае працы з актывам калгасьніц з мэтай замацаваньня іх на кіруючай працы і падрыхтоўкі для вылучэньня, шляхам сыстэматычнага правядзеньня інструкцыйных нарад, вытворчых нарад і г. д.

10) Адзначаючы нізкую якасьць кіраўнікоў дзіцячых установ і адсутнасьць кваліфікаваных кадраў НК Аховы Здароўя і НК Асьветы правесьці падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў, асабліва

для сталых дзіцячых устаноў. Калгасцэнтру, райкалгассаюзам і праўленьням калгасаў прыняць меры да лепшага падбору калгасьніц пры пасылцы іх на курсы і матар'яльнага ўдзелу пры падрыхтоўцы кадраў.

11) Улічваючы, што ашуканая і запалоханая кулацтвам адсталая частка працоўных сялянак выступае ў ролі кулацкіх падпавялаў супроць калгасаў, а задачай калгасных органаў і бытавых камісій зьяўляецца ўзмацніць клясавае выхаваньне працоўных сялянак, растлумачыць жанчынам усю сутнасьць і праціглегласьць інтарэсаў кулацтва і асноўных бядняцка-серадняцкіх мас сялянства. Неабходна забясьпечыць сталае сыстэматычнае правядзеньне масавай работы сярод працоўных сялянак, прыцягваючы батрачак і бядначак да работы батрацка-бядняцкіх груп. Неабходна ўсімі сіламі весьці барацьбу супроць недаацэнкі работы сярод жанчын, работы дэлегацкіх сходаў і вылучэньня калгасьніц на кіруючую работу ў калгасах; райбытавым камітэтам мець сталы вучот актыву калгасьніц і скарыстаньня вылучэнак.

Пры разгортваньні масавай работы па калектывізацыі сярод сялянак райбытавым камітэтам і райкалгассаюзам прыцягваць да актыўнага ўдзелу ў рабоце ініцыятыўнае групы, актыўнасьць калгасьніц для стварэньня большага ўплыву на батрацка-бядняцкія і серадняцкія масы жанчын аднаасобніц і дачы рашучага адпору клясава-варожым элемэнтам.

12) Адзначаючы, што паліт-асьветная, масавая работа ў калгасах праводзілася нездавальняюча і што наступаючы зімовы пэрыяд спрыяе разгортваньню гэтае работы, Калгасцэнтру і райкалгассаюзам разгарнуць зараз палітасьветную работу ў калгасах, ствараючы гурткі па вывучэньню бягучай палітыкі, палітгурткі, лікпункты і г. д.

13) Нарада лічыць, што дырэктывы партыі і ўраду пра ўцягненьне жанчын-батрачак у калгасы выкананы невыстарчальна (з агульнага ліку батрачак уцягнута ў калгасы 28 проц.), чаму лічыць неабходным: даручыць райбытавым камітэтам і райкалгассаюзам правесьці асобную работу з батрачкамі і калгасьніцамі з тым, каб на працягу 1931 г. уся маса батрачак была ўцягнута ў калгасы, зьвярнуўшы ўвагу калгассыстэмы на палепшаньне матар'яльных і бытавых умоў тых батрачак, якія зараз знаходзяцца ў калгасах.

14) Інтэрнацыянальнае выхаваньне калгасных мас было зусім у заняпадзе, дзякуючы чаму назіраліся выпадкі антысэмітызму, шавінізму і іншых хворых зьявішч; на гэтым грунце нарада лічыць неабходным пры правядзеньні палітасьветнай масавай работы, асаблівую ўвагу зьвярнуць на інтэрнацыянальнае выхаваньне калгасьнікаў.

---

## 3. Па дакладу аб мерапрыемствах па разгортваньню сеткі бытавых устаноў.

1. Побач з сацыялістычнай рэканструкцыяй народнай гаспадаркі БССР ідуць караныя зрухі ў галіне быту. Узрост колькасьці пралетарыяту на базе значнага разгортваньня прамысловасьці, будаўніцтва і іншых галін народнай гаспадаркі, караная рэканструкцыя і калектывізацыя сельскай гаспадаркі выклікаюць значнае павялічэньне жаночай працы ў народнай гаспадарцы БССР.

Уцягненьне жанчын у вытворчую працу ў шырокіх разьмерах ставіць па іншаму пытаньне быту. Гэта выклікае неабходнасьць перабудовы ўсёй сыстэмы працы бытавых устаноў у адпаведнасьці з патрэбамі вытворчасьці.

Перад новымі задачамі, высунутымі сучасным этапам сацыялістычнага будаўніцтва, выключнае значэньне набываюць пытаньні вытворчай адукацыі ўцягваемыя новай рабочай сілы, бытавое яе абслугоўваньне як па лініі аграмаджанага харчаваньня, так і па лініі разгортваньня сеткі бытавых устаноў.

2. Ня гледзячы на тое, што пытаньні быту набываюць у сучасны момант выключнае значэньне і вастрату, гэтым пытаньням не ўдзяляецца дастатковай увагі як у плянаваньні, так і пры яго выкананьні, у той час, калі пытаньні быту павінны стаць арганічнай часткай народна-гаспадарчага пляну.

Нарада лічыць у бліжэйшы час утварыць сапраўдны пералом у рабоце ўсіх арганізацый, зьвязаных з абслугоўваньнем працоўных.

Гэты пералом павінен быць утвораны ў 1931 годзе—у рашаючым годзе пяцігодкі, без чаго выкананьне народна-гаспадарчага пляну сустрэне вялікія цяжкасьці, асабліва ў галіне барацьбы з цякучасьцю рабсілы і ў справе замацаваньня жанчын на вытворчасьці.

3. Адзначаючы, што ня гледзячы на мяркуемы значны ўзрост амаль што ў 2 ½ разы асыгнаваньняў на рабочае жыльлёвае будаўніцтва (42 млн. руб. у 1931 г. супроць 18 млн. руб. у 1930 г.) жыльлёвая норма з прычыны вялізарнага росту колькасьці прамысловага пралетарыяту і высокай каштоўнасьці будаўніцтва ў асноўным застаецца на ўзроўні мінулага году.

Зусім дрэнна абстаіць справа з выкананьнем закону аб будаўніцтве пры новых шматкватэрных дамох асобных памяшканьняў і пакояў для дзіцячых устаноў (дашкольных і ясельных) за кошт вызначаных 5 проц. агульнай каштоўнасьці пабудовы.

Зусім недастаткова праводзіцца ў новых буйных дамох аграмаджаньне харчаваньня і быту (пральні, сталоўкі, чытальні, фізкультурныя пакоі і г. д.).

Улічваючы цяжкасьці разгортваньня бытавых устаноў у калгасах пры прычыне недахопу адпаведных будынкаў, неабходна прадбачыць пабудову там новых будынкаў пад бытавыя ўстановы, асабліва ў нацсаветах.

4. Адзначыць мяркуемы значны ўзрост у 1931 годзе супроць мінулага грамадзкага харчаваньня — 5 ½ раз у гарадзкім сэктары (па 244 тыс. штодзённа абедаючых) і ў 16 раз у сельскім сэктары (да 177 тыс. штодзённа абедаючых) з выдаткаваньнем на пабудову фабрык-кухань і разьмеркавацеляў сталовак у 1931 годзе да 7.277 тыс. руб.

Адначасова з гэтым нарада адзначае зусім нездавальняючую пастаноўку справы грамадзкага харчаваньня ў сэнсе якаснага абслугоўваньня працоўных (чаргі, якасьць абедаў, нізкая кваліфікацыя працаўнікоў, асабліва на вёсцы) і зусім недастатковую ўвагу з боку гаспадарчых арганізацый на пытаньне дыэтычнага харчаваньня для дзяцей і дарослых.

Адзначаючы нездавальняючае становішча з забесьпячэньнем рабочых харчаваньнем з боку ЖАКТ-аў, недапушчальнае зьявішча абмежаваньня выдачы абедаў выключна працуючым на прадпрыемствах, а не сябрам сямʼі рабочых, нарада лічыць неабходным пашырэньне прапускной здольнасьці ЖАКТ-аўскіх сталовак і сталовак на прадпрыемствах з тым, каб тыя дзеці, якія не абслугоўваюцца спэцыяльна-дзіцячым харчаваньнем, мелі-б магчымасьць атрымоўваць абеды разам з бацькамі.

Прызнаць наогул недастатковай увагу зьвяртаемай нашымі гаспадарчымі арганізацыямі на разьвіцьцё дзіцячага харчаваньня. Лічыць першачарговай задачай шляхам прыцягненьня і скарыстоўваньня грамадзкіх сродкаў разгарнуць належным чынам дзіцячае аграмаджанае харчаваньне.

Падвысіць кваліфікацыю пэрсаналу, які абслугоўвае аграмаджанае харчаваньне.

5. Нарада са здавальненьнем канстатуе значны рост мяркуемых асыгнаваньняў на будаўніцтва лазьняў і пральняў (да 4.038 тыс. руб. у 1931 г.) разам з гэтым лічыць неабходным больш прыцягнуць грамадзкія сродкі і зьвярнуць увагу нашых гаспадарчых арганізацый на неабходнасьць значнага палепшаньня абслугоўваньня працоўных мас шляхам пераводу лазьняў і пральняў на дзьве альбо нават на тры зьмены, увядзеньне большай рацыяналізацыі і мэханізацыі працы іх і паніжэньне каштоўнасьці абслугоўваньня працоўных.

6. Адзначаючы выключны ўзрост мяркуемых асыгнаваньняў на будаўніцтва паліт-асьветных устаноў (з 2932 тыс. руб. у 1930 г. да 9433 тыс. руб. у 1931 г. узрост у тры разы) лічыць неабходным паставіць пытаньне аб значным палепшаньні клюбнай і культурна-асьветнай работы сярод працоўных жанчын гораду і вёскі.

Для забесьпячэньня магчымасьці ўдзелу работніц у клюбнай рабоце, прадугледзець у буйных клюбах абавязкова дзіцячыя пакоі. Адначасова з гэтым нарада лічыць неабходным прадугледзець таксама магчымасьць арганізацыі пры буйных нардамох і хатах-чытальнях—садоў прымітывак і вячэрніх пакояў для дзяцей.

7. Ня гледзячы на мяркуемы значны пералом у сэнсе разгортваньня сеткі дзіцячых садоў і ачагоў і ў пераводзе садоў у ачагі (узрост ліку дзіцячых садоў і ачагоў у 1931 г. амаль што ў два разы супроць мінулага году, узрост ліку дзяцей у дзіцячых садах і ачагах з 6.900 у 1930 годзе да 16.000 у 1931 г.—амаль што ў $2^1/_2$ разы; узрост ліку дзяцей у дзяцячых садах прымітыўках з 30 тыс. у 1930 г. да 60 тыс. у 1931 г. на 67 проц., а таксама ня гледзячы на выключна вялікі узрост дзіцячых ясель як сталых у гарадох пры фабрыках і заводах, так і плянавых у калгасах і саўгасах (сталых ясьляў амаль што ў 7 раз у 1931 годзе супроць мінулага, а з ліку дзяцей у іх у 5 $^1/_2$ раз—з 3,3 тыс. (у 1930 годзе да 17,3 тыс. у 1931 годзе; узрост ліку палявых ясель на 50 проц. і ліку дзяцей у іх з 24 тыс. у 1930 г. да 30 тыс. у 1931 годзе) сетка дзіцячых дашкольных устаноў і ясьляў усе-ж такі адстае ад патрэбнага сацыялістычнага будаўніцтва і ад тэмпаў уцягненьня жанчын у вытворчасьць, а мэтады працы існуючых устаноў не адказваюць цалкам патрэбам культурна-бытавога абслугоўваньня працоўнай жанчыны. Нарада лічыць неабходным скончыць у 1931 г. перавод усіх дзіцячых устаноў на бесперапынны вытворчы тыдзень, а дзе неабходна ў залежнасьці ад вытворчай работы мацярэй на дзьве альбо нават на тры зьмены. У дашкольных і ясельных установах забясьпечыць абслугоўваньне дзяцей на іх роднай мове.

8. Прымаючы пад увагу вялізарнае значэньне дашкольных устаноў (ачагоў-садоў) і ясьляў ў напрамку камуністычнага выхаваньня дзяцей, і, канстатуючы значны недахоп кваліфікаваных кадраў выхаваўцаў, лічыць неабходным:

а) утварыць больш дабраякасны адбор на курсы па падрыхтоўцы кадраў для дашкольных устаноў і ясьляў працаўнікоў са складу работніц, жонак і дзяцей рабочых, саўгасьніц і калгасьніц, батрачак і бяднячак праверанных на грамадзкай працы;

б) зьвярнуць большую ўвагу на павышэньне кваліфікацыі працаваўшых на гэтай рабоце шляхам арганізацыі адпаведных кароткатэрміновых раённых курсаў, нарад, канфэрэнцый і г. д.

в) улічваючы недастатковасьць бюджэтных сродкаў для арганізацыі курсаў па падрыхтоўцы кадраў выхаваўцаў, лічыць неабходным скарыстаць для гэтай мэты і сродкі арганізацый, удзельнічаючых ва ўтрыманьні дашкольных устаноў і ясьляў;

г) на мясцох вясьці вучот кадраў бытавых устаноў і прыняць адпаведныя меры да замацаваньня гэтых кадраў на працы, шляхам дачы ім часовай працы.

9. Прымаючы пад увагу перабоі мэўшыя месца ў забесьпячэньні сельскай сеткі дзіцячых устаноў і ясьляў асабліва ўтрымліваемых грамадзкімі арганізацыямі прадуктамі харчаваньня, вопраткай і абуткам, лічыць неабходным паставіць пытаньне перад адпаведнымі гаспадарчымі арганізацыямі, у першую чаргу перад Калгасцэнтрам, НК Гандлем і Белкапсаюзам аб бесперабойным забесьпячэньні і браніроўцы неабходных прадуктаў для дашкольных устаноў і ясьляў.

10. Адзначаючы недастатковасьць мэдычнага абслугоўваньня дзяцей у дашкольных установах і ясьлях, лічыць неабходным зьвярнуць асаблівую ўвагу НКАховы Здароўя на палепшаньне мэдычнай дапамогі і сыстэматычнага нагляду дзяцей дашкольнага ўзросту.

11. Адзначаючы факты затрыманьня і нескарыстаньня на вызначаныя мэты грашовых сродкаў з боку гаспадарчых і грамадзкіх арганізацый і нават некаторых РВК (з бюджэтных асыгнаваньняў) і выпадкі няправільнага скарыстаньня сродкаў ФПБР і $^1/_2$ проц. зарплаты лічыць неабходным паставіць перад ЦСПСБ і адпаведнымі арганізацыямі пытаньні аб зьнішчэньні гэтага недапушчальнага зьявішча. Таксама ўлічваючы, што вызначаныя сродкі з фонду кватэрнай платы ў ЖАКТах і 5 проц. каштоўнасьці пабудовы шматкватэрных дамоў, не скарыстоўваюцца належным чынам альбо зусім не скарыстоўваюцца па прыналежнасьці, лічыць неабходным дабіцца рашучага пералому ў напрамку мэтавага скарыстоўваньня гэтых сродкаў.

12. У мэтах павялічэньня сродкаў для ўтрыманьня і пашырэньня сеткі дашкольных устаноў

і ясьляў лічыць магчымым увесьці дыфэрэнцыраваную плату з тым, каб рабочыя, атрымоўваючыя невялікую зарплату былі-б зусім ад яе аслабанены.

13. Канстатуючы нездавальняючую пастаноўку палітычна-выхаваўчай і санітарна-асьветнай працы з боку бытавых установ (кансультацыі, ясьлі, радзільныя прытулкі і г. д.), лічыць неабходным каб у іх была разгорнута масавая мэдычная і палітычна-выхаваўчая работа.

14. Прымаючы пад увагу важнасьць работы па арганізацыі і абслугоўваньню дзіцячых установ і ясьляў, а таксама ўстаноў па ахове мацярынства і младзенства і недастатковы ўдзел савецкай грамадзкасьці ў гэтай справе, лічыць неабходным прыцягнуць увагу і кантроль да гэтага савецкай грамадзкасьці праз прафсаюзы, бытавыя камітэты і сэкцыі саветаў.

15. Ажыцьцяўленьне ўсіх мерапрыемстваў па бытавому абслугоўваньню працоўных жанчын патрабуе ўзмацненьня працы бытавых камітэтаў, а пагэтаму нарада лічыць неабходным увядзеньне ва ўсіх раёнах платных сакратароў бытавых камітэтаў.

---

## 4. Па дакладу аб становішчы жаночай працы ў прамысловасьці БССР.

1. Буйны ўзрост разьвіцьця ўсёй народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу Сацыялістычных Рэспублік на базе індустрыялізацыі краіны, узмацненьня яе абараназдольнасьці і ажыцьцяўленьня калектывізацыі сельскай гаспадаркі, пасьпяховае выкананьне, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, пяцігодкі за чатыры гады, дзякуючы вялізарнейшаму пад'ёму і энтузіязму шырокіх мас рабочае клясы, дало магчымасьць поўнай ліквідацыі беспрацоўя ў Савецкім Саюзе і выклікае патрэбнасьць уцягненьня новых рабочых кадраў у прамысловасьць і сельскую гаспадарку—высоўвае перад партыяй і рабочай клясай вострую неабходнасьць максымальнага павышэньня ролі жанчын-работніц у прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, шляхам актыўнага іх удзелу ў правядзеньні новых форм сацыялістычнай працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, вытворчых манэўраў і інш. узмацненьня барацьбы з цякучасьцю жаночай рабочай сілы, падрыхтоўкі новых кадраў жанчын-работніц для патрэб прамысловасьці, павышэньня іх кваліфікацыі і стварэньня лепшых умоў працы ўсілўшы абслугоўваньне іх бытавымі ўстановамі.

2. На раду с разгортваньнем прамысловасьці і ростам рабочае клясы ўзрастае і ўдзельная вага жанчын у прамысловасьці. За пэрыяд з 1-га ліпеня 1929 г. па 1-е ліпеня 1930 г. удзельная вага жаночае рабочае сілы ўзрасла на 4,3 проц. (з 36,6 да 39,9 проц.). У абсалютнай колькасьці жанчыны работніцы ў прамысловасьці на 1-е ліпеня 1930 г. складаюць 17.889 чал.—узрост на 6733 чал. альбо на 60 проц. у параўнаньні з колькасьцю работніц на 1-е ліпеня 1929 г. (на 1-е ліпеня было 11156 работніц). Павялічэньне жаночай рабочай сілы галоўным чынам маецца па шкляной прамысловасьці (было 20 проц. маецца 34,8 проц.), па скураной прамысловасьці (было10,7 проц. маецца 18,5 проц.), па дрэваапрацоўчай прамысловасьці (было 15,4 маецца 20,1)—і па акулярнай ф-цы (было 45,5 проц. маецца 52,3 проц.).

Адзначыць нездавальняючае становішча з уцягненьнем жаночай рабочай сілы па мэталёвай прамысловасьці (было 4,4 проц. маецца 6,3 проц.), а таксама па хэмічнай прамысловасьці.

3. Адзначыць таксама нездавальняючае становішча з вылучэньнем жанчын на адміністрацыйна-гаспадарчыя пасады (на 1-е ліпеня 1930 г. з усяго ліку 12776 вылучэнцаў жанчын маецца 266, альбо 15,1 проц.).

4. Лік жанчын у складзе ЗМК па БССР, у параўнаньні з 1929 г., за 1930 г. мае значны ўзрост, а менавіта: па скуранай абутковай прамысловасьці было 4 проц. маецца 13,9 проц.; па мэталёвай было 5,1 проц. маецца 9 проц. па тэкстыльнай было 48 проц. маецца 54,4 проц.

Нездавальняючым зьяўляецца ўдзельная вага жанчын у складзе ЗМК па швэйнай прамысловасьці, па якой мы маем памяншэньне ўдзельнае вагі на 4,8 проц. (было 39,4 проц. маецца 34,6 проц.).

5. На пытаньне перакваліфікацыі жанчын да гэтага часу з боку НК Працы і гаспадарчых органаў ня зьвернута належнай увагі, асабліва дрэнна абстаіць справа з падрыхтоўкай жаночай рабочай сілы па лініі курсаў ЦІП. На курсах дзясятнікаў і брыгадзіраў па будаўніцтву жанчын маецца 1,2 проц. з 94 чалавек курсантаў, шафяроў жанчын маецца 6 чал., альбо 0,5 проц. Курсы мэталёапрацовачныя па такарнаму цэху з 54 чал. жанчын маецца 2 альбо 3,7 проц.

Маюцца некаторыя выпадкі з боку паасобных гаспадарнікаў, якія адмаўляюцца ў прыёме на працу жанчын, якія атрымалі адпаведную падрыхтоўку на курсах. На раду з гэтым маецца значны адсеў жанчын з курсаў да сканчэньня тэрміну свайго навучаньня.

6. Адзначыць, здавальняючае становішча з уцягненьнем дзяўчат у школы фабзавуча (з 1417—вучняў, дзяўчат маецца 714 альбо 54 проц.). Вельмі мала дзяўчат маецца ў школах фабзавуча па мэталёвай і будаўнічай галінах прамысловасьці таксама зусім нездавальняючым зьяўляецца ўкамплектаваньне вучнямі-дзяўчатамі прафтэхшкол.

7. Прасоўваньне работніц на вышэйшую кваліфікацыю ўнутры прадпрыемства праводзіцца недастаткова: па скураной прамысловасьці за апошні час час прасунута 104 жанчыны на вышэйшую кваліфікацыю, па папяровай прамысловасьці 86 жанчын і па мэталёвай прамысловасьці (зав. Лапцуцкага) 9 жанчын.

8. Аднэй з прычын, затрымліваючых рост кваліфікаванай рабочай сілы, зьяўляецца недаацэнка як з боку гаспадарчых органаў, так і з боку прафэсыянальных арганізацый і НКПрацы, значэньня падрыхтоўкі жаночай рабочай сілы і падвышэньня яе кваліфікацыі для прамысловасьці, у асаблівась-

ці па мэталёвай прамысловасьці, а таксама слабая пастаноўка бытавога абслугоўваньня і будаўніцтва бытавых установаў: сталовых, дзіцячых ясьляў, ачагоў і пральняў і непрыстасаванасьць да мэтадаў працы. Ясьляў пры прадпрыемствах з пераважнай жаночай працай па БССР маецца 22 на 1087 месц, прычым становішча гэтых установаў зусім нездавальняючае. Ясьлі непрыстасаваны да абслугоўваньня ўсіх зьмен, а маючыяся сталовыя нездавальняюць поўнасьцю сям'ю рабочага.

9. Зусім нездавальняюча выкананы плян будаўніцтва бытавых установаў (ясьлі, сады і сталовыя) за 1929-30 г. як па лініі ВСНГБ, таксама і па лініі Белкапсаюзу і Белжылсаюзу пастановы Ураду аб будаўніцтве бытавых установаў пры буйных прадпрыемствах і арганізацый іх пры жактах Белжылсаюзам ня выконваюцца.

10. Зусім нездавальняючая пастаноўка палітыкавыхаваўчай работы сярод работніц, непрыстасаванасьць бытавых установаў да іх абслугоўваньня і нізкая заработная плата па паасобных галінах прамысловасьці прыводзяць да вялікай цякучасьці жаночай рабочай сілы паасобных прадпрыемстваў. Маюцца выпадкі, калі работніцы яшчэ недастаткова ўдзельнічаюць ва ўдарніцтве, вытворчых манэўрах, сустрэчным прамфінпляне, зусім недастатковы процант жанчын у выбарчых прафарганізацыях і інстытуце добраахвотніцтва.

11. Для выпраўленьня ўсіх паказаных недахопаў у працы гаспадарчых і прафсаюзных арганізацый, лічыць неабходным:

а) ВСНГБ, Белжылсаюзу, НКАховы Здароўя і НКАсьветы прыняць рашучыя захады да выкананьня намечанага пляну будаўніцтва і разгортваньня бытавых установаў, перагледзець іх мэтады працы ў напрамку лепшага прыстасаваньня іх да ўмоў працы работніц на прадпрыемствах. Улічваючы неабходнасьць падвышэньня кваліфікацыі і перакваліфікацыі работніц і ўцягненьня новых работніц у прамысловасьць, пераглядзець плян далейшага будаўніцтва бытавых установаў на 1931 г. у напрамку максымальнага іх разгортваньня ў адпаведнасьці з тэмпамі ўцягненьня жаночай рабсілы ў прамысловасьць, поўнасьцю скарыстоўваючы дзеля гэтай мэты фонды палепшаньня быту рабочых і $1/4$ проц. адлічэньняў разьмеру заработнай платы на прадпрыемствах на ўтрыманьне дзіцячых ясьляў. Неабходна таксама максымальна ўцягнуць дзеля гэтай мэты сродкі іншых грамадзкіх арганізацый і саміх рабочых і работніц;

б) Белжылсаюзу пры будаўніцтве буйных дамоў і рабочых пасёлкаў улічваць будаўніцтва бытавых установаў, а таксама выконваць пастанову Ураду аб разгортваньні сталовых і ясьляў па жактах, побач з гэтым Белжылсаюзу неабходна разгарнуць паліт-выхаваўчую працу сярод жонак рабочых. Прафсаюзным арганізацыям неабходна аказаць максымальнае садзейнічаньне Белжылсаюзу ў гэтай працы і мець сталы нагляд і кантроль за правільным яе выкананьнем.

в) Зьвярнуць увагу ЦСПСБ на неабходнасьць разгортваньня шырокай выхаваўчай работы сярод работніц, асабліва сярод работніц уноў уцягнутых на вытворчасьць, шляхам скліканьня масавых канфэрэнцый работніц, прымацаваньня работніц да прадпрыемстваў да канца пяцігодкі, да пасьпяховага выкананьня прамфінпляну. Прафарганізацыям неабходна скарыстаць для гэтай мэты клюбы і чырвоныя куткі шляхам арганізацыі там дзіцячых пакояў і правядзеньне іншай выхаваўчай працы.

г) Прафсаюзным і гаспадарчым арганізацыям неабходна рашуча праводзіць вылучэньне жанчын на кіруючую працу, асабліва на адміністрацыйна-гаспадарчыя пасады, а таксама на прафсаюзную працу, улічваючы, што да гэтага часу вылучэньне жанчын-работніц яшчэ недастатковае.

д) ВСНГ сумесна з цэнтральным бытавым камітэтам пры ЦВК па ўзгадненьні з ЦСПСБ у месячны тэрмін удасканаліць плян унядрэньня жаночай рабочай сілы ў паасобных галінах і прафэсіях.

е) ВСНГ і НКПрацы пры складаньні пляна ў падрыхтоўкі рабочай сілы на 1930-31 г. улічваць неабходнасьць максымальнага ўцягненьня ў прамысловасьць жаночай рабочай сілы і іх адпаведнай кваліфікацыі.

ж) НКПрацы пры пасылцы беспрацоўных на работу ўлічваць неабходнасьць забясьпечаньня прамысловасьці неабходнай колькасьцю жаночай рабсілай, а таксама пасылаць на працу жонак і членаў сям'і рабочых у асаблівасьці працуючых даўно на прадпрыемствах, рабочых, узяўшых на сябе абавязак у парадку самазамацаваньня да канца пяцігодкі не звальняцца з работы і лепшых ударнікаў. Кіраўнікам гаспадарчых органаў і мясцовым прафарганізацыям мець сталы нагляд за правідловым ажыцьцяўленьнем гэтай пастановы.

з) У прадстаячай калумоўнай кампаніі гаспадарчым і прафэсыянальным арганізацыям прыняць рашучыя захады да падцягваньня заработнай платы жанчын-работніц, як адстаючай групы, у асаблівасьці па тэкстыльнай прамысловасьці.

Друкарня Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭКАНА БССР. Заказ № 297—3000 экз. Галоўлітбел № 1428.